Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4672) 29 чэрвеня 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Дамоў, у Касталію?..



Наша эпоха развенчвае абыходкавыя міфы, у тым ліку і пра літаратурную творчасць. У савецкія часы лічылася, што пісьменнік абавязаны жыць выключна сярод носьбітаў роднае мовы, а на чужыне губляе неабходную культурную глебу і нічога стварыць ужо не здольны. Насамрэч геаграфічная кропка, у якой знаходзіцца фізічнае цела пісьменніка, не мае вызначальнага значэння для духоўнага прадукту, які ён стварае: гэта пераканаўча дэманструе хаця б адна з самых прэстыжных літаратурных прэмій Расіі — Руская прэмія, якая штогод уручаецца празаікам і паэтам — носьбітам мовы, якія пражываюць менавіта за межамі краіны.

Яшчэ адзін абыходкавы міф масавай свядомасці: каб рэалізавацца, пісьменнік абавязкова мусіць жыць у сталіцы. Маўляў, менавіта модныя літаратурныя тусоўкі, удзел у "працэсе", магчымасць знаёміцца з актуальнымі кніжнымі навінкамі і ствараюць той асяродак, які фарміруе талент. Сёння і гэта дастаткова ўмоўна, бо з развіццём інтэрнэту ў літаратара, які стала жыве ў абласным ці раённым цэнтры, з'яўляецца магчымасць сачыць за новымі публікацыямі, прычым практычна без спазнення, а таксама ўдзельнічаць у віртуальным "тусовачным" жыцці (што, заўважым у дужках, наўрад ці істотна ўплывае на якасць тэксту, які ён стварае). Што да неабходнасці зарабляць на жыццё іншай (у ідэале — блізкай да літаратурнай) працай, гэты непазбежны фактар прысутнічае як у правінцыі, так і ў сталіцы. Ці здолее пісьменнік адарваць дастаткова часу і сіл ад патрэб здабывання хлеба надзённага, каб прысвяціць іх творчасці, — менавіта гэта, а не месца жыхарства, і ёсць сёння, на маю думку, галоўны са знешніх фактараў, якія вызначаюць канчатковы вынік пісьменніцкай працы. (Фактары ўнутраныя, такія, як талент і тое, што М. Цвятаева называла "ладам душы", абмяркоўваць не будзем).

Такім чынам, час. Яго не хапае ўсім, і ён не раўназначны грошам, як было ў мінулым стагоддзі. Сёння час даражэй за грошы. Для пісьменніка гэта актуальна — ва ўсіх сэнсах. На Захадзе існуе стандарт для аўтараў прозы: раман у год. Давайце глядзець праўдзе ў вочы: гэту максіму можна прымяніць да пісьменніка, які займаецца сваёй справай прафесійна, то бок піша так жа, як настаўнік вучыць, а ўрач лечыць. Паколькі беларускі пісьменнік піша, як правіла, "без адрыву ад асноўнай працы" (за выключэннем пенсіянераў і зусім маладых аўтараў), літаратурная дзейнасць для яго часта ператвараецца ў падзвіжніцтва або ахвяраванне: выхаднымі, адпачынкамі, узаемаадносінамі з сям'ёй, сябрамі і г.д.

(Заканчэнне на стар. 2.)

*3 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь*

# Мы пішам сваю біяграфію

**27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэты важны для нашай краіны дакумент стаў першым афіцыйным крокам да незалежнасці Беларусі. Дэкларацыя абвясціла "поўны дзяржаўны суверэнітэт як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах".**

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Менавіта з гэтага дня пачаўся адлік новай гісторыі нашай краіны. 25 жніўня 1991 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце атрымала статус канстытуцыйнага закона, на падставе якога ўнесены змены і дапаўненні ў Канстытуцыю 1978 г. Фармальна ж незалежнасць была атрымана 26 снежня 1991 г. у сувязі з распадам СССР.

Чаму ж Дзень Незалежнасці адзначаецца 3 ліпеня? Такое рашэнне прынята па афіцыйных выніках рэспубліканскага рэферэндуму 1996 года. Горыч страт і шматлікія выпрабаванні, якія перажыў беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны, напаўняюць асаблівым сэнсам дзень галоўнага дзяржаўнага свята.

Сёлета напярэдадні яго ў Мінску адкрыўся музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка фактычна асабіста правёў экскурсію па яго экспазіцыях, расказаў пра асноўныя этапы станаўлення краіны, яе эканомікі.

— Давайце гаварыць, што мы развіваемся сваім шляхам, асаблівым шляхам. Нас ацэняць пакаленні, якія прыйдуць пасля нас: ці правільна мы дзейнічалі, ці не. Аднак калі ёсць паляпшэнні — значыць, гэта адзін са шляхоў, па якім мы павінны былі прайсці, — адзначыў беларускі лідар.

За апошнія васямнаццаць гадоў Беларусь даказала, што нават невялікая краіна можа прымусіць сябе паважаць і праводзіць незалежны знешнеэканамічны курс. Умацоўваецца сацыяльна-эканамічнае становішча рэспублікі, расце дабрабыт народа. Цяжка пералічыць здзяйсненні ў галіне культуры, літаратуры і мастацтва. Традыцыйнымі і ўсенароднымі сталі святы беларускага пісьменства, нацыянальных культур, фестывалі фальклорнага мастацтва, агляды і конкурсы народных умельцаў…

3 ліпеня — дзень, які нагадвае пра тое, што ўсе мы — грамадзяне адзінай дзяржавы, якая мае высокі аўтарытэт і міжнароднае прызнанне. І ад працы кожнага з нас залежыць будучыня. Беларусы не схільныя да крайнасцей. Мы ўмеем рабіць высновы з мінуўшчыны, выконваць работу над памылкамі. У многім дзякуючы гэтым якасцям мы існуём як народ.



*Узняцце сцяга над Домам Урада ў г. Мінску 3 ліпеня 1944 года.*

# Кліча «Берагіня»

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

**Раз на два гады, улетку, усе аматары фальклору: удзельнікі фальклорных калектываў, навукоўцы, этнапедагогі — адчуваюць пільную патрэбу завітаць у гарадскі пасёлак Акцябрскі, што ў Гомельскай вобласці.**
**Імі кіруе не толькі жаданне сустрэцца з сябрамі і калегамі, падзяліцца напрацоўкамі падчас Рэспубліканскага фальклорнага фестывалю.**
**"Берагіня" вабіць непаўторнай атмасферай фэсту, зачароўвае гукамі музычных інструментаў, запрашае далучыцца да агульнага карагоду радасці і весялосці. Вось і сёлета на чатыры дні Акцябрскі стаў сапраўднай фальклорнай сталіцай Беларусі.**
**Чаму сталіцай? Мяркуйце самі: на VII Рэспубліканскім фестывалі фальклорнага мастацтва "Берагіня" сабраліся больш як 800 удзельнікаў з 30 рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Расіі і Украіны, у складзе Савета экспертаў — вядучыя спецыялісты краіны ў галіне вывучэння фальклору.**

На "Берагіні" існуе свая прыкмета: той, хто аднойчы завітаў на фестываль у якасці госця ці ўдзельніка, абавязкова вернецца сюды зноў хаця б гледачом. Напэўна, паветра тут такое. А яшчэ — атмасфера непаўторная. Сама бачыла, як падчас "Рудабельскага Купалля" — яркага і відовішчнага святкавання на беразе возера — удзельнікі аднаго з фальклорных калектываў плакалі, бо на наступны дзень трэба было ад'язджаць. Калегі па гурце падтрымлівалі вясёлай музыкай, а потым усе разам спявалі імправізавана-біяграфічную песню "О Берагіня, Берагіня мая…", у якой згадвалі падзеі фестывалю разам з асабістымі ўражаннямі. Мясцовыя фальклорныя калектывы вітаюць як сапраўдных зорак і з гонарам адзначаюць: "Гэта ж нашы "Цярэшкавы Шчодрыкі"! Якія малайцы!"



*Да традыцыйнага пляцення купальскіх вяночкаў далучыліся і госці з Украіны, прадстаўнікі народнага фальклорнага ансамбля імя Паўла Бакланава "Жыва вода".*

Адметнасць фестывалю пацвярджае і яго дырэктар Святлана Беразоўская, начальнік аддзела культуры Акцябрскага райвыканкама:

— Унікальнасць "Берагіні" ў тым, што тут сфарміраваўся калектыў сапраўдных аднадумцаў. Гэта і ўдзельнікі фэсту, якія неаднаразова былі гасцямі фестывалю, і новыя канкурсанты. Гэта і калектыў складу журы — нашы даўнія сябры. Думаецца, вельмі добра, што ўжо склаўся амаль нязменны Савет экспертаў, у яго ўваходзяць не толькі вядучыя спецыялісты, навуковыя супрацоўнікі рэспубліканскіх навучальных і акадэмічных устаноў, але і нашы сябры з Украіны і Расіі. Гэта Уладзімір Гадоўскі, прафесар, кандыдат педагагічных навук, загадчык кафедры харэаграфіі Ровенскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта, і Ірына Папова, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі (акадэміі) імя М. А. Рымскага-Корсакава.

(Заканчэнне на стар. 23.)

## Пункцірам

✔ 6 ліпеня а 11-й гадзіне пройдзе ўрачыстая цырымонія ўскладання кветак да помніка Янку Купалу ў парку яго імя з нагоды 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі. Адкрые цырымонію Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь. Пасля ў суправаджэнні Роты ганаровай варты адбудзецца ўскладанне кветак у гонар памяці народнага паэта Беларусі ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

✔ Канстанцін Геронік, саліст балетнай трупы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, атрымаў першую прэмію і званне лаўрэата IV Міжнароднага пекінскага балетнага конкурсу харэаграфічных школ.

✔ На 34-м Маскоўскім міжнародным кінафестывалі была прадстаўлена сумесная беларуска-латвійска-эстонская стужка "Одинокий остров". Усяго ў праграму фестывалю ўключана 17 стужак, якія прэтэндуюць на галоўную ўзнагароду "Святы Георгій" — за лепшы фільм, рэжысуру, жаночую і мужчынскую ролі. Таксама будзе ўручаны спецыяльны прыз журы.

✔ На гэтым тыдні ў Беларусі адбывалася надзвычайная падзея ў галіне навукі — XV Міжнародны сімпозіум па візуалізацыі плыняў, заснаваны Таварыствамі візуалізацыі Японіі і Карэі. Сёлетні сімпозіум — першы на постсавецкай тэрыторыі. Удзел у ім узялі прыкладна 300 навукоўцаў з 28 краін.

✔ З 2 па 6 ліпеня ў Беларусі праходзіць IX Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар" у межах IX Сусветнага кангрэса Міжнароднай асацыяцыі ўніверсітэцкіх тэатраў. "Тэатральны куфар" разам з навуковай канферэнцыяй і адукацыйным форумам стануць асноўнымі мерапрыемствамі кангрэса, у якім возьмуць удзел прадстаўнікі 35 дзяржаў. Студэнцкі фестываль аб'яднае 13 тэатраў з 11 краін.

✔ Кабінет Канфуцыя Дзяржаўнага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ будзе створаны ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Пагадненне аб супрацоўніцтве падпісалі рэктары дадзеных ВНУ — Сяргей Аблямейка і Яўген Роўба. З 2007 года ў гродзенскім універсітэце дзейнічае Цэнтр кітайскай мовы і культуры, таму адкрыццё кабінета Канфуцыя стане чарговым крокам і новым імпульсам у развіцці кітаязнаўства.

✔ Мемарыяльная дошка ў гонар Героя Беларусі, народнага мастака СССР і Беларусі Міхаіла Савіцкага была ўсталявана ўчора ў Мінску на доме нумар 17 па вуліцы Беламорскай, дзе жыў мастак. Міхаіл Савіцкі працаваў у станковым і манументальным жывапісе, серыю карцін прысвяціў ахвярам чарнобыльскай трагедыі. Значнае месца ў яго творчасці займаюць партрэты.

✔ Сямнаццаты Міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа" стартаваў у Магілёве 26 чэрвеня. У праграме — вакальна-харавы конкурс, канцэрт калакольнага перазвону, канцэрт Дзяржаўнай акадэмічнай пеўчай капэлы Санкт-Пецярбурга, мінскага хрысціянскага рок-гурта "Tesarius", арганнай і харавой музыкі, вакальна-фартэпіяннай музыкі "Звёзды Мексики", арт-гурта "Чистый голос" (Мінск), фольк-гурта "Русичи" (Масква) і інш. Завершыцца свята гала-канцэртам і канцэртам гурта "Хор Турецкого".

Падрыхтавала
Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

## Стасункі

# У Белгарад — па літаратурную прэмію

Ларыса ІВАНОВА

Паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка ўзнагароджана літаратурнай прэміяй "Прохараўскае поле". Яе паэтычны двухтомнік "Спас" і публікацыі ў літаратурных часопісах "Наш современник" і "Белая вежа" прынеслі перамогу ў намінацыі "Паэтычны твор духоўнага зместу".

Міжнародная літаратурная прэмія была ўсталявана ў 1999 годзе Саюзам пісьменнікаў Расіі, кіраўніцтвам Белгародскай вобласці, Белгародскай і Стараасколькай епархіяй і Дзяржаўным ваенна-гістарычным музеем-запаведнікам "Прохараўскае поле" і з тых часоў прысуджаецца дзеячам літаратуры і мастацтва, у творчасці якіх у высокамастацкай форме сцвярджаюцца ідэі маральнасці, патрыятызму, нацыянальнага гонару і адданага служэння свайму народу і Айчыне. Уручэнне прэміі адбываецца адзін раз на два гады ў рамках літаратурна-патрыятычных чытанняў "Прохараўскае поле". Міжнароднай прэмія стала ў 2010 годзе. Тады сярод яе лаўрэатаў былі названы таксама ўраджэнец Віцебшчыны, вядомы беларускі пісьменнік Алесь Савіцкі.

# Беларусь — Таджыкістан

Сяргей ШЫЧКО

У Выканаўчым камітэце СНД у Мінску прайшла навукова-тэарэтычная канферэнцыя "Таджыкістан — 15 гадоў згоды і адзінства".

З вітальным словам выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь Казідадзат Каімдодаў. Поруч з беларускімі і таджыкскімі вучонымі, палітыкамі ў абмеркаванні самых розных актуальных пытанняў двухбаковага супрацоўніцтва, месца і ролі Таджыкістана ў СНД і ўвогуле ў свеце ўдзельнічалі таксама выступоўцы з Літвы і Кыргызстана. Канферэнцыя засведчыла, што таджыкскі свет мае свой феномен, які, канечне ж, варты самай шырокай увагі.

Дарэчы, у нашых краін — свае гістарычныя стасункі. І дастаткова трывалыя яны ў галіне літаратуры. У Душанбэ доўгі час жыў і працаваў вядомы вучоны-моваязнаўца, празаік ураджэнец Барысава А. Дзэмідчык. А народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў быў адзначаны прэміяй Нурэкскай ГЭС. На беларускую мову перакладзены творы вялікага Рудакі, вершы нашых сучаснікаў Саідалі Мамура, Муміна Канаата, Фарзоны і іншых майстроў таджыкскага прыгожага пісьменства. Сёння ў сталіцы Таджыкістана жыве і працуе пісьменнік Леанід Чыгрын, які нарадзіўся на Віцебшчыне ў час Вялікай Айчыннай вайны. Ён напісаў каля дзесяці раманаў на гістарычныя тэмы. Творы Леаніда Чыгрына пабачылі свет у Канадзе, Кітаі, Італіі, іншых краінах свету.

Шмат для развіцця беларуска-таджыкскіх літаратурных сувязей робіць драматург, кінгавыдавец Ато Хамдам. Дзякуючы яго руплівасці ў апошнія гады пабачылі свет у перакладзе на таджыкскую мову кнігі Міколы Мятліцкага, Юрыя Сапажкова, Георгія Марчука, два калектыўныя зборнікі прозы і паэзіі беларускіх аўтараў. Зусім не выпадкова Ато Хамдам прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

# Уганараваныя сербамі

Аляксей ЦІМАФЕЕЎ

З пачатку XXI стагоддзя ў Сербіі існуе Усеславянская літаратурная супольнасць (старшыня — Здраўка Гойкавіч, генеральны сакратар — Відан Багданавіч). Гэта арганізацыя з 2003 года асабліва значныя заслугі ў сцвярджэнні славянскіх літаратур і культур, у развіцці міжславянскіх узаемасувязей адзначае Вышэйшай міжнароднай прэміяй імя Ф. М. Дастаеўскага. І ў 2007 годзе прысудзіла яе двум прадстаўнікам Саюза пісьменнікаў Беларусі — Мікалаю Чаргінцу і Івану Чароту.

Раней у ліку ўзнагароджаных замежнікаў былі Аляксандр Салжаніцын і Уладзімір Волкаў (Расія), а пазней сталі яшчэ Дойна Галіч Бар (ЗША), Каця Ерменкава (Балгарыя), Вацлаў Дворжак (Чэхія) і Гжэгаж Латушынскі (Польшча). Гэту ж узнагароду ў розныя гады атрымалі сербы Добрыца Чосіч, Радамір Сміляніч, Вук Драшкавіч, Драгаслаў Міхайлавіч, Драган Недэлькавіч, Патрыярх Сербскі Павел, Сміля Аўрамаў, Драшка Рэджэп, Міадраг Мацікі, Коста Дзімітрыевіч і Жарка Команін (пасмяротна).

І. Чароту, які знаходзіўся ў Сербіі з нагоды прэзентацыі падрыхтаванага ім другога выдання "Анталогіі беларускай паэзіі" (Сербская літаратурная грамада, 2012), 14 чэрвеня высокую ўзнагароду старшыня журы Прэдраг Багданавіч Ці ўручыў асабіста, а замест М. Чаргінца яе прыняў У. Чушаў, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Сербія.

## Глыбокае-2012

# Горад будучага? Цікава!

**Глыбокае ў гэтыя дні нагадвае вялізную будаўнічую пляцоўку. Вядзецца рэканструкцыя галоўнай вуліцы Леніна, што звязвае цэнтральную плошчу і плошчу 17 Верасня, на якой узвышаюцца велічныя храмы — кафедральны сабор Раства Прасвятой Багародзіцы і Троіцкі касцёл. Менавіта сюды пройдзе шлях рэспубліканскай навукова-асветніцкай экспедыцыі. "Дарога да святыняў" з Дабрадатным агнём ад Гроба Гасподняга, што па сутнасці з'яўляецца неад'емнай часткай Дня беларускага пісьменства.**

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

З ранку да позняга вечара шчыруюць будаўнікі і рамонтнікі. Аднаўляюцца Дамы культуры і рамёстваў, дзіцячая школа мастацтваў, будынак старой бібліятэкі, цэнтральны парк Перамогі, жылыя дамы, асфальтуецца гістарычная частка горада…

Тэмпы і якасць падрыхтоўкі да ўрачыстасцей абмеркаваны на пасяджэнні арганізацыйнага камітэта па правядзенні свята, які ўзначальвае намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, старшыня нацыянальнага аргкамітэта Анатолій Тозік.

Знакавым супадзеннем назваў ён тое, што Дзень беларускага пісьменства ў Глыбокім адбудзецца ў Год кнігі, год юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. "Трэба, каб гэтыя тэмы былі глыбока і дэталёва прапрацаваны і знайшлі адлюстраванне ў канцэпцыі свята", — даручыў ён. Яшчэ адной знамянальнай датай, якую таксама неабходна ўлічыць, на думку Анатолія Тозіка, павінна стаць 600-годдзе Глыбокага, якое будзе адзначацца ў 2014 годзе. "Дзень пісьменства для Глыбокага — магчымасць прэзентаваць будучы юбілей і чарговы этап падрыхтоўкі да яго", — дадаў ён.

Кіраўнік аргкамітэта падтрымаў ідэю мясцовых улад аб увекавечанні памяці знакамітых ураджэнцаў Глыбоччыны. Як паведаміў старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат, у горадзе плануецца ўстанавіць бюсты заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага, стваральніка дзяржаўнай мовы Ізраіля — іўрыта — Эліэзера Бен-Іегуды, мастака і фалькларыста Язэпа Драздовіча, Героя Савецкага Саюза Пятра Казлова, генеральнага канструктара авіятэхнікі Паўла Сухога, Вацлава Ластоўскага — пісьменніка, гісторыка, навукоўца.

Міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі ў сваім выступленні паведаміў пра стварэнне выканаўчай дырэкцыі свята. Сумесна з галоўным рэжысёрам і галоўным мастаком вядзецца распрацоўка сцэнарыя яго правядзення. Запланаваны і "круглы стол", удзельнікамі якога стануць вядомыя публіцысты, пісьменнікі, выдаўцы з Беларусі, Украіны, Расіі, Таджыкістана, Азербайджана, Сербіі і Чарнагорыі. Акрамя таго, рыхтуецца навукова-практычная канферэнцыя "Глыбоцкія чытанні-2012".

— Абнаўляюцца аб'екты Белсаюздруку. Агульная сума ўкладанняў у кіёскавую сетку складзе больш як 220 мільёнаў рублёў. У горадзе адкрыты кніжны магазін, на які выдаткавана 620 мільёнаў рублёў, — адзначыў Алег Вітольдавіч.

Старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец заявіў, што да падрыхтоўкі свята неабходна шырэй прыцягваць бізнесменаў, спонсарскую дапамогу. Горад павінен зарабіць на свяце, а для гэтага варта стварыць эфектыўную інфраструктуру для гасцей і ўдзельнікаў: пражыванне, харчаванне, арганізацыя продажаў і кірмашоў.

— З абласнога бюджэту на гэтыя мэты плануецца дадаткова выдзеліць 30 млрд. рублёў, а таксама накіраваць брыгады будаўнікоў і дарожнікаў, — заявіў губернатар. — Мы павінны Глыбокае зрабіць горадам будучага.

На пасяджэнні аргкамітэта ўзнімаўся шэраг праблем, якія стрымліваюць падрыхтоўку да ўрачыстасцей. Прыняты рашэнні па ліквідацыі недахопаў.

А пакуль усе ў Глыбокім працуюць — на будучыню.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

## Думка пісьменніка

# Дамоў, у Касталію?..

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)

Неяк у інтэрв'ю адна вядомая беларуская пісьменніца падзялілася, што піша свае творы пераважна ўночы: "Здароўя пакуль хапае". Зразумела, гэта асабісты выбар творцы, таму не будзем шкадаваць яго за бяссонныя ночы і адсутнасць выходных. Пытанне ў іншым: наколькі паўнавартасна здолее ён рэалізавацца, працуючы ў такім фармаце? "Служенье муз не терпит суеты". Ці вялікая розніца паміж тым, што ён паспявае зрабіць дэ-факта і тым, што яшчэ мог бы зрабіць, калі б меў больш рэальнага часу для галоўнай справы свайго жыцця?

І вось тут насамрэч ёсць што абмяркоўваць. Бо той канчатковы прадукт, які пісьменнік стварае як быццам бы *для сябе*, мае дачыненне да нацыянальнай культуры, то бок становіцца з'явай *грамадскай*. У дадзеным выпадку грамадства магло б дапамагчы пісьменніку. Літаратурныя стыпендыі, асабліва для маладых, якія, што называецца, "падаюць надзеі", — прычым без падзелу на "сталічных" і "правінцыйных" — сталі б добрай падтрымкай. Зразумела, стыпендыі (скажам, на год) — свайго роду крэдыт даверу, бо гарантыі, што твор стане шэдэўрам нацыянальнай культуры, няма. Аднак гэта сусветная практыка, і цяжка вынайсці нейкія іншыя механізмы стымулявання пісьменніцкай працы. Хіба што заснаваць інтэлектуальную Касталію — "родны дом" для пісьменніка, дзе ён мог бы, удалечыні ад свету спажывання, задавальняючы толькі самыя неабходныя цялесныя патрэбы, займацца сваёй працай. Можа, і не надта многа знойдзецца жадаючых туды перабрацца. Але многа і не трэба. Толькі тыя, хто насамрэч жыве для таго, каб пісаць.

Алена БРАВА

*Літабсягі*

# Скрыжалі паэтычнай споведзі

**У Цэнтры культуры Лагойска прайшоў шэраг мерапрыемстваў, якія атрымалі агульную назву "Традыцыі кніжнасці як фактар духоўнай пераемнасці".**

Максім ЛАГАЙЧАНІН

"Традыцыі кніжнасці…" не было б без руплівасці супрацоўнікаў Лагойскага райвыканкама Аляксандра Кулінковіча, намесніка старшыні, і Вольгі Антаневіч, начальніка аддзела культуры, а таксама прадстаўнікоў Нацыянальнай акадэміі навук Сяргея Чыжыка, намесніка старшыні прэзідыума, і Аляксандра Кавалені, акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў. Але ў цэнтры ўсіх падзей знаходзілася адна асоба. Гаворка ідзе пра Валерыя Максімовіча.

Ураджэнец вёскі Траянец Лагойскага раёна, ён закончыў філалагічны факультэт БДУ, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі па філалогіі. Працаваў у сваёй alma mater, потым першым прарэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, НАН Беларусі. Апошнім часам з'яўляецца в.а. намесніка дырэктара Інстытута філасофіі.

Першая частка мерапрыемстваў мела характар навукова-практычнай канферэнцыі. Заўважу, што ёй папярэднічала ўступнае слова С. Кулінковіча і прывітанне С. Чыжыка. Удзельнікі заслухалі даклады самога Валерыя Аляксандравіча ("Літаратурныя і культурна-гістарычныя традыцыі ў захаванні духоўнасці асобы і грамадства") і аспіранткі Інстытута мовы і літаратуры Людмілы Іконнікавай ("Сучасная беларуская літаратура: духоўны патэнцыял, набыткі і перспектывы").

Другая частка ўяўляла сабой




прэзентацыю дэбютнага паэтычнага зборніка Валерыя Максімовіча "Мяцежнай споведзі скрыжалі", што сёлета ўбачыў свет у выдавецтве "Ковчег". Сваімі ўражаннямі пра творчасць калегі падзяліліся галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. Нездарма Міхась Паўлавіч адзначыў у прадмове да зборніка, што паэзія Валерыя Максімовіча "зачароўвае сваім гарачым, энергічным, жыццесцвярджальным словам, сваёй бязмернай і самаахвярнай любоўю да Радзімы, да маці, да сваіх продкаў, да сваіх вытокаў". А старшакласніца Акцябрскай сярэдняй школы Лагойскага раёна Надзея Капрэцкая выступіла з паведамленнем "Патрыятычныя матывы ў творчасці паэта-земляка Валерыя Максімовіча".

Нарэшце, трэцяй часткай мерапрыемстваў стала канцэртная праграма "З песняй у сэрцы", падчас якой прагучалі песні на словы Валерыя Максімовіча ў выкананні саліста Дзяржаўнага ансамбля "Песняры" Алега Жалязнякова і ансамбля Акцябрскага сельскага Дома культуры Лагойскага раёна.

*Артлінія*

# Уршуля вяртаецца ў Нясвіж!



*Сцэна са спектакля "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл".*

**Абноўлены замак Радзівілаў запрашае на новае свята: тут, у сэрцы сёлетняй культурнай сталіцы Беларусі, упершыню ладзіцца фестываль тэатральнага мастацтва. Імпрэзы артфэсту пад назваю "Тэатр Уршулі Радзівіл" адбудуцца заўтра і ў нядзелю.**

Арцём КУМЕЛЬСКІХ,
фота Аляксандра Дзмітрыева

Зрэшты, тэатральныя паказы для Нясвіжа — не такое ўжо і дзіва, калі паглядзець на гэту з'яву ў кантэксце гісторыі аднаго з нашых найстаражытных і найпрыгажэйшых гарадоў. І гісторыя нагадае, што менавіта тут, у доме слынных магнатаў, фарміраваўся вядомы на ўсю Еўропу асяродак найноўшай мастацкай культуры і развівалася мецэнацтва. Тут існавала некалькі сцэнічных пляцовак, і таленавітыя прадстаўнікі княжацкага сямейства ўдзельнічалі ў прыдворных канцэртах і тэатральных пастаноўках з дэкламацыяй ды танцамі, далучаючы гасцей і дазваляючы пры гэтым простаму людуназіраць за відовішчам.

Заснаванне першага прафесійнага тэатра на беларускіх землях звязана з арганізатарскай і літаратурнай дзейнасцю маладой гаспадыні Нясвіжа Францішкі Уршулі Радзівіл. Менавіта паводле яе п'ес — балета "Дасціпнае каханне", оперы "Выкраданне Еўропы" і камедыі "Распуснікі ў пастцы" — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ажыццявіў пастаноўку, якая з'яўляецца своеасаблівай рэканструкцыяй святочнага вечара ў нясвіжскім замку сярэдзіны XVIII стагоддзя. Гэта пастаноўка — "Выкраданне Еўропы, альбо тэатр Уршулі Радзівіл", мінская прэм'ера якой адбылася ў мінулым сезоне, будзе паказана 30 чэрвеня а 21-й гадзіне ва ўнутраным двары замка. А ўдзень сюды завітае Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа — з прэм'ерай спектакля паводле Уладзіміра Караткевіча "Леаніды не вернуцца на Зямлю". Днём у нядзелю плануецца выступленне артыстаў Мінскага абласнога драматычнага тэатра: госці з Маладзечна пакажуць у Тэатральнай зале палаца сваю вядомую работу "Паланэз на развітанне…" пра жыццё і творчасць Міхала Клеафаса Агінскага. А першы ліпеньскі вечар абяцае сустрэчу на вольным паветры з героямі спектакля "Пане Каханку" Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Вядомы гістарычны персанаж і яго атачэнне будуць асвойваць родную для іх нясвіжскую прастору напоўніцу і ўражваць публіку святочным ды эксцэнтрычным відовішчам.

Перад вечаровымі спектаклямі гледачы могуць наведацца ў Горад Майстроў і Рамёстваў — асяродак сярэднявечнага побыту, дзе можна пакаштаваць прысмакі з адмысловай кухні, падзівіцца на турніры рыцараў, зазірнуць у міні-кузню і нават атрымаць майстар-клас у каваля, ліцейшчыка, танцмайстра ды ўключыцца ў старадаўнія гульні.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр акцыі "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі".**

*Повязі*

# Свет у люстэрку «Colorfest»

**Здзейсніць падарожжа ва ўсходнюю частку Венесуэлы разам з Марот Асдрубаль ("Успаміны аб дэльце") і Сімонам Бельярынам ("На беразе"), пачуць шоргат хваляў на ўзбярэжжы Латвіі ў пейзажах Роберца Музіса ("Kluseems", "Kaijas"), пранікнуцца веліччу векавых дрэў, што зачаравалі ўкраінскую мастачку Галіну Папінаву ("Дубы часу княгіні М. Шчарбінавай"), адчуць боль палесцінскага народа ў палотнах Джаміля Бадвана ("Пакута") і згадзіцца з беларускай мастачкай Зояй Луцэвіч, што сапраўды "Няма часу на каханне", можна, наведаўшы III Мінскую міжнародную біенале сучаснага жывапісу "Colorfest", якая пачала працаваць у выставачных залах галерэйнага комплексу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Уладзіслава Някрасава

У гэтым годзе ў біенале ўдзельнічаюць мастакі Беларусі, Украіны, Малдовы, Латвіі, Літвы і Палесціны. Ганаровым госцем праекта з'яўляецца Баліварыянская Рэспубліка Венесуэла. На ўрачыстым адкрыцці прысутнічалі Надзвычайны і Паўнамоцны паслы Венесуэлы Амерыка Дзіас Нуньес і Палесціны Халед Арэйкат, супрацоўнікі венесуэльскага, палесцінскага і іранскага пасольстваў, іншыя афіцыйныя асобы, прадстаўнікі творчых саюзаў.

Дырэктар НББ Раман Матульскі адзначыў унікальнасць праекта: яго арганізатары імкнуліся спалучыць мастацкія творы з кнігай (тут можна ўбачыць і выстаўку літаратуры, прысвечанай альбомам, даследаванням і г.д., выдадзеным у Беларусі). Куратар праекта Фёдар Ястраб паведаміў: "Шэсць гадоў існавання праекта — сведчанне яго трываласці. Мы наўмысна звузілі прастору: не сучаснае мастацтва, а менавіта жывапіс, каб падкрэсліць: жывапіс не адмёр. Ён таксама мяняецца з цягам часу, набываючы формы, адэкватныя гэтаму часу". Старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Ф. Ястраб вельмі ўсцешаны, што нашы мастакі знаёмяцца з творамі такіх далёкіх краін, якім уласціва "іншае адчуванне колеру, розныя канцэптуальныя падыходы да творчасці. Але гэта даследаванне жывапіснай прасторы надасць новыя імпульсы для натхнення". Адзначыла разнастайнасць і агульны высокі ўзровень мастацкасці прадстаўленых твораў мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн. Венесуэльскую калекцыю дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Яўген Шунейка назваў "добрай галаваломкай, што развівае шэрае рэчыва". Як паведаміў Часовы паверанparam ў справах пасла Венесуэлы Херарда Эстрада Марцінес, на біенале ў асноўным прадстаўлены творы мастакоў усходняга рэгіёна краіны.



*На ўрачыстым адкрыцці III Мінскай міжнароднай біенале выступае тэатр танца БДУІР "Адлюстраванне" (кіраўнік — Антаніна Рудкоўская).*

У межах мерапрыемства прадугледжаны конкурс сярод удзельнікаў. Журы конкурсу ўзначальвае народны мастак Беларусі Гаўрыіл Вашчанка.

Работа III Мінскай міжнароднай біенале будзе доўжыцца да 10 верасня.

*З-пад пяра*

➤ Міжнародная летняя школа беларускай мовы арганізавана на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Удзельнікі школы — студэнты, магістранты і аспіранты з Расіі, Украіны, Польшчы і Сербіі. Акрамя практычных заняткаў па вывучэнні беларускай мовы праграмай школы прадугледжана знаёмства з нашай краінай. Так, навучэнцы наведаюць гістарычныя мясціны сталіцы і Беларусі, музеі, іншыя культурныя цэнтры. Чакаюць гасцей і шматлікія сустрэчы з дзеячамі культуры і навукі. Школа працуе з 25 чэрвеня па 7 ліпеня.

Таццяна МАСТОЎСКАЯ

➤ У польскім гарадзе Тшчэль на фестывалі песні, прысвечаным збору ўраджаю спаржы, бралі ўдзел аматарскія калектывы як з самой Польшчы, так і з суседніх краін — Беларусі і Германіі. Сярод удзельнікаў быў і айчынны гурт "Вербіца" пад кіраўніцтвам Алеся Свірскага, які дзейнічае на базе Палаца культуры МАЗа. На працягу двух дзён яго ўдзельнікі выконвалі беларускія народныя песні і развучвалі з гасцямі танцы: і полькі, і "Базар", і жартоўны танец "Свінні ў рэпе", і "Хапун", і шмат іншых. Вялікую цікавасць выклікалі народныя строі. Усіх уразіла адкрытасць і шчырасць, з якой працавалі беларусы. І як вынік — дадому вярнуліся з ганаровай граматай прызёраў фестывалю. Пабываўшы ўпершыню ў гэтым горадзе, беларусы атрымалі сардэчныя запрашэнні на запланаваныя ў жніўні мерапрыемствы.

Ганна СТАРАДУБ

➤ Дыярама маскоўскай Студыі ваенных мастакоў імя М. Грэкава "Абарона Мінска 25 — 28 чэрвеня 1941 г." адкрылася ў Беларускім дзяржаўным Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У ёй адлюстраваны баі ў раёне горада Заслаўль, у якіх удзельнічалі салдаты 64-й стралковай дывізіі, а таксама лётчыкі 207-га бамбардзіровачнага авіяпалка. На пярэднім плане можна пабачыць бежанцаў. Зробленая па замове музея маскоўскімі майстрамі, дыярама ў далейшым будзе экспанавацца ў новым будынку Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, які плануецца ўвесці ў эксплуатацыю на пачатку наступнага года.

Алеся БАЦЮСЬ

➤ Асноўнымі тэмамі чарговага пасяджэння суполкі "Літаратурнае прадмесце" (кіраўнік — Людміла Рублеўская), якое адбылося 21 чэрвеня, сталіся прэзентацыя кнігі паэзіі Міхася Южыка "Сузор'е вокнаў" (выдавецтва "Галіяфы") і крытычны разгляд яго аповесці "Хто там, за дзвярыма?" (рабочая назва — "Скокі на брытве"), надрукаванай у № 4 часопіса "Маладосць". Апроч вядомых і маладых творцаў удзельнічаў у пасяджэнні дырэктар выдавецтва "Галіяфы" Зміцер Вішнёў, які распавёў пра выданне "Сузор'я вокнаў", асаблівасці работы выдавецтва і ўласнае бачанне сучаснага беларускага літаратурнага працэсу.

Ігар ГРАДОЎСКІ

➤ Учора ў мінскай бібліятэцы № 1 імя Льва Талстога пачала працаваць выстаўка-конкурс малюнкаў і фотаздымкаў, прысвечаная экзатычнай тэматыцы, — "В собачьих упряжках". Па малюнках вучняў мінскіх школ, фотаздымках Элы Данцовай і Яны Шайко наведвальнікі змогуць адчуць увесь азарт гэтых зімовых і летніх сабогонак. У журы конкурсу ўвайшлі мастачка Аксана Аракчэева, дырэктар мастацкай галерэі "Университет культуры" Наталля Барсукова, шэф-рэдактар часопіса "Рюкзачок" Вольга Ваніна, рэдактар па друкаванай прадукцыі Тэатра юнага гледача Джэні Шарыпава, дырэктар магазіна абсталявання для падарожжаў і турызму "К8" Наталля Багдановіч, старшыня грамадскага аб'яднання "Клуб северных ездовых собак" Вольга Ведзянеева.

Вольга ПАЛОМЦАВА

*Год кнігі*

# Яўген Шышкін: «Ведаем і любім беларускіх аўтараў»

**Вядомы пісьменнік, загадчык аддзела прозы самага, напэўна, на сёння самавітага літаратурнага часопіса Расіі "Наш современник" Яўген Шышкін быў удзельнікам VII Беларускага міжнароднага медыяфоруму, які прайшоў у Мінску.**
**Часопіс "Наш современник" апошнім часам даволі шмат друкуе беларускіх паэтаў і празаікаў.**

Валерый ГРЫШКАВЕЦ,
Анатоль КРЭЙДЗІЧ,
фота Кастуся Дробава



**— Яўген Васільевіч, вы ўпершыню ў Беларусі? Якія ўражанні ад беларускіх аўтараў?**

— На шчасце, у Беларусі я не ўпершыню. Заўсёды прыемна здзіўляе чысціня і некаторая ціхмянасць, а прасцей сказаць, нармалёвасць быцця... У Маскве ўсё круціцца апошнім часам выключна вакол грошай. У рускай правінцыі — беднасць, панурасць, падман, таму што большасць рускіх, на кім трымалася і трымаецца Расія, не хоча працаваць на злодзеяў, жулікаў, на капіталы рознага роду прайдзісветаў, якія даўно перахалі на Альбіён... У Беларусі захавалася нешта першароднае, чыстае. Зрэшты, параўноўваць Расію і Беларусь я не збіраюся: і Расію, і Маскву я люблю і люблю, але гавару пра ўражанні ад Мінска, Полацка... Адчуванне свежасці засталося.

**— Што, на ваш погляд, адбываецца з сучаснай рускай літаратурай?**

— За літаратурай ды, мабыць, за ўсёй гуманітарнай думкай сёння не стаіць тая сіла, якая была на пачатку дваццатага стагоддзя, у савецкія часы. Мы бачым, хто на вяршыні поспеху, хто на слыху — той, хто валодае матэрыяльнымі сродкамі. Сёння "Газпром" вышэйшы за любую літаратуру. У нейкай ступені з нашай літаратурай адбылася катастрофа... Дэтэктыўшчыцы, маргіналы, усялякія постмадэрнісцкія плыні апынуліся наверсе. Адзін выпрабляе хлеб, другі — атруту. Літаратура першапачаткова стваралася для асветы, гармоніі. Але сёння крытэрыі хочуць памяняць і, трэба сказаць, з дапамогай грошай гэта ім удаецца. Пакуль. Пажаданне да чытачоў усіх узростаў: не чытайце пахабшчыну, не слухайце балбатуноў і графаманаў з блакітнага экрана, якія выдаюць сябе за пісьменнікаў... Не верце ў сумленнасць прэмій, якія атрымліваюць разрэкламаваныя літаратурныя пазадкі. Не імкніцеся падмануць уласныя пачуцці. Ваша душа вышэй, чым бродніі расхрыстаных пісьменнікаў і пісьменніц, якія чыняць здзек над здаровым сэнсам, скажаюць гісторыю і падрываюць рускую (і шырэй — славянскую) эстэтыку — эстэтыку дабра, гармоніі, харaства.

**— Каго б вы вылучылі з сённяшніх рускіх празаікаў? Што параілі б прачытаць?**

— Густы ва ўсіх розныя. Але зайшоў у вашы цэнтральныя кніжныя крамы — расчараванне, паліцы забітыя ўсё той жа літаратурнай безгустоўшчынай, што і ў нас...

Тым не менш, арыентуючыся на часопісы і малатыражныя кнігі, адзначу наступных аўтараў: Юрый Анапрыенка і Юрый Казлоў, Анатоль Байбарадзін і Васіль Кілякоў, Сяргей Міхеенкаў і Міхаіл Папоў... Нядаўна ў Іркуцку пазнаёміўся з таленавітым маладым пісьменнікам Андрэем Анціпіным — ён таксама друкуецца ў "Нашем современнике", ёсць мастацкі патэнцыял у многіх аўтараў... Але як раскрыцца? Шмат цікавых твораў, але зборнікі апавяданняў у той жа Маскве не выпускаюць выдаўцы...

**— Дванаццатыя нумары вашага часопіса традыцыйна прысвечаны Беларусі, беларускай сучаснай літаратуры. Гэта традыцыя будзе прадоўжана? Каго з нашых пісьменнікаў Вы адзначылі б? Якія творы беларускіх празаікаў плануеце друкаваць у бліжэйшы час?**

— Дарэчы, беларускіх аўтараў нямала і ў іншых нумарах. А "снежаньская традыцыя", безумоўна, будзе прадоўжана. Алесь Савіцкі, Уладзімір Саламаха, Алесь Бадак, Георгій Марчук, Віктар Гардзей... Я мог бы доўга пералічваць беларускіх аўтараў, якія нам вядомыя і намі любімыя. Словам, чытайце наш (і ваш!) часопіс "Наш современник".

**— Яўген Васільевіч, чытач вас ведае як аўтара раманаў "Бесова душа", "Закон сохранения любви", "Правда и блаженство", шматлікіх аповесцей і апавяданняў. Вашы п'есы маюць поспех у тэатрах Расіі. А вось у Беларусі, наколькі мне вядома, вашы кнігі не выходзілі, п'есы не ставіліся... І гэта пры тым, што вы нямала робіце для ўмацавання літаратурных і культурных сувязей паміж нашымі краінамі.**

— Будзем спадзявацца, што з драматургіі з'явіцца што-небудзь і на беларускай сцэне. Дарэчы, у часопісе "Полымя" на беларускай мове збіраюцца надрукаваць маю п'есу "Ці віноўная я?" Спадзяюся, што хто-небудзь з беларускіх рэжысёраў зверне на яе ўвагу.

**— Над чым працуеце сёння?**

— Мастацкі кіраўнік абласнога драматычнага тэатра прапанаваў напісаць інсцэніроўку майго рамана "Бесова душа". Толькі за апошнія дзесяць гадоў раман гэты перавыдаваўся шэсць разоў, таму я з галавой заняты працай. А яшчэ не магу адысці ад апошняга рамана "Правда и блаженство". Яго цяпер перакладаюць на фінскую мову, іншы раз я сустракаюся з перакладчыцай, нешта тлумачу, падказваю, карэкцірую.

Да 200-годдзя выдатнага рускага пісьменніка Івана Ганчарова скончыў артыкул пра яго. Словам, працую. Пісьменнік, на мой погляд, не павінен спыняцца. Затое павінен памятаць: сумленная літаратурная праца акупляецца. Я не толькі (дакладней, не столькі) пра грошы...

*З пошты «ЛіМа»*

Ірына ШАТЫРОНАК,
г. Гродна

# Выхаваць чытача — знайсці пакупніка

Хачу падключыцца да размовы, тон якой задаў у рубрыцы "Думка пісьменніка" ("ЛіМ", № 24 ад 15 чэрвеня 2012 г.) Анатоль Крэйдзіч.

Сапраўды, выдавецкі кошт кнігі значна павялічваецца пасля гандлёвай нацэнкі, ад 20 працэнтаў і вышэй. І пакупнік задумаецца — набыць яму прадукты на 93 тысячы рублёў ці ўсё ж такі кнігу.

Але калі сапраўдны чытач захоча мець кнігу, тут, як мне здаецца, няма перашкод — існуюць варыянты, і адзін з дзейсных — узяць у бібліятэцы.

Пакупнік і чытач — гэта аднолькавыя або розныя катэгорыі?

Нядаўна я купіла падарункавы варыянт кнігі Д. Рубінай "Окна" за 208 тысяч рублёў. Дорага. Але мне, як заўзятай кнігачэі вельмі хацелася стаць уладальнікам гэтага асобніка, выдатна аформленага выдавецтвам. Як уткнулася вачыма ля кніжнага прылаўка ў разгорнутае апавяданне "Бабка", так чытанне мяне і захапіла, адарвацца ўжо не магла. І ніякая цана мяне не спыніла.

Але мне хочацца вось на чым спыніцца. У сваім допісе "Кніжны гандаль і беларуская кніга" Анатоль Крэйдзіч падняў толькі частку праблемы, вобразна назваўшы гандаль *"жалезабетоннай сцяной паміж пісьменнікам і чытачом"*. Але ці так гэта на самай справе?

Большая частка існуючай праблемы засталася схаванай, як велізарны айсберг у цёмных водах.

Дык вось — гандаль. Гандаль, у тым ліку і кніжны, займаецца сваёй прамой справай, рэалізацыяй тавараў або таварна-грашовымі адносінамі. Успомнім іх простую формулу, дасціпна выкладзеную адным з герояў рамана "12 стульев" — "раніцай грошы, увечары крэслы".

А. Крэйдзіч лічыць: "Кніга павінна знаходзіцца на паліцах кнігарань пастаянна, гадамі і дзесяцігоддзямі".

Тут не пагаджуся. Гандлёвая кропка — не бібліятэка, дзе якраз кніга і павінна знаходзіцца на паліцах пастаянна.

У гандлі працуе іншы, але не менш важны пакзчык — тавараабарот, і тавар са склада павінен хутка сыходзіць да пакупнікоў, а калі гэтага не здараецца, то вінаватыя менеджары. Яны дрэнна спрацавалі, нешта правароніілі, замовілі нехадавы тавар.

Нягледзячы на ўсю сваю ўнікальнасць, кніга ў гандлёва-грашовых адносінах выступае ўсё-такі як тавар. Інакш навошта яе трэба было выпускаць у рыначны свет, — гэта па-другое. А папершае, кожная добрая кніга рана ці позна знойдзе свайго пакупніка-чытача, няхай гэта будзе дзіцячая паэзія ці дарослая проза. Гаворка ідзе выключна пра добры тавар. Праблема ў тым, як да мінімуму скараціць цярністы шлях да пакупніка. Над гэтай часткай праблемы і павінны працаваць гандлёвыя кіраўнікі, маркетолагі і менеджмент.

Пакупніка сёння, як, урэшце, і заўсёды, ні за якія пернікі не прымусіш адміністрацыйнымі метадамі купіць кнігу. У рыначным гандлі няма такога паняцця — пад прымусам. Разумны пакупнік-чытач — гэта адмысловая катэгорыя, таксама свайго роду прадукт, створаны ў выніку шматлікіх спрыяльных умоў, якія трэба стварыць. Сюды перш за ўсё адносяцца зацікаўленасць школы, грамадства, сям'і.

Чытача трэба выгадаваць, выхаваць, як вырасціць дрэва, справа гэта доўгая і няпростая.

Адна мая знаёмая распавядала, як яе маленькая ўнучка не па-дзіцячы ўздыхнула, калі бабуля стала прымушаць яе слухаць казку.

— Калі б ты ведала, якая гэта цяжкая праца...

А сапраўды цяжкая, і калі з дзяцінства не займацца дзіцем, не скіроўваць яго намаганні ў патрэбны бок, яно наўрад ці потым самастойна вернецца да кнігі. Упэўненая, што тут патрэбен не толькі пернік, але і пуга. А таксама стымуляцыя ў выглядзе разнастайных праграм, тэле-, радыё-, газетных віктарын, конкурсаў, ролевых гульняў не толькі ў школе ці асобнай сям'і, але і на грамадскім узроўні.

Чакаць хуткіх вынікаў не давядзецца, але намечаныя планы падцягнуць да гэтай праблемы многіх спецыялістаў і зацікаўленыя бакі з розных ведамстваў.

Вось тады і гандаль як частка гэтай складанай і, на жаль, ужо дастаткова запушчанай праблемы будзе выконваць свае прамыя функцыі па продажы, рэкламе і прапагандзе кнігі. Хочацца спадзявацца — добрай і высокамастацкай Кнігі.

## Да 100-годдзя Максіма Танка

# Бай, лірнік, бай!

**Нечакана для самога сябе адшукаў у дамашніх архівах размову з незабыўным Яўгенам Іванавічам Скурко, слынным Максімам Танкам. Мне пашчасціла працаваць разам з ім, калі ён узначальваў Саюз пісьменнікаў Беларусі. На ўсё жыццё аселі ў памяці і душы яго сяброўскія парады, мудрыя пажаданні і развагі. Роздум Максіма Танка пра дзіцячую літаратуру здаецца вельмі актуальным і для сённяшняй явы. Таму і перадаю сваю знаходку ў “ЛіМ”, з надзеяй, што з ёй пазнаёмяцца ўсе, хто працуюць для дзяцей.**

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**фота з асабістага архіва Міколы Мікуліча**

**У. Л.:** Вы, Яўген Іванавіч, заклапочана гаварылі на з’ездзе пра захоўванне творцаў пісаць для самага ўдзячнага чытача — дзяцей, усямерна падтрымліваць таленавітую моладзь, часцей наладжваць конкурсы для напісання новых кніг для дзяцей і юнацтва, большымі тыражамі выдаваць арыгінальныя кніжкі, з любоўю іх афармляць і ілюстраваць. Ідзе час, і хацелася б пачуць ваша слова пра новы крок дзіцячай літаратуры, узятыя ёю вышыні.

**М. Т.:** Новы крок для дзіцячай літаратуры — гэта цікавыя, самабытныя, карысныя кніжкі для нашых самых патрабавальных чытачоў. Поруч з прызнанымі майстрамі актыўна працуюць нашы маладзейшыя таварышы па пяры. Вось творы гэтых і многіх іншых аўтараў можна лічыць вышынёй, дасягненнем нашай дзіцячай літаратуры. Але ж, як кажуць, за гарызонтам паўстае новы гарызонт. Не можа не хваляваць, што мы ўсё ж мала маем захапляючых твораў для сучасных дзяцей. Чакаем, што на літаратурны Парнас узыдуць новыя таленты.

**У. Л.:** Яўген Іванавіч, вы зрабілі цудоўны падарунак нашай дзятве — выйшла з друку ваша кніга “Быліна пра касмічнае падарожжа Мураша Бадзіні”. Юныя чытачы, іх бацькі, выхавацелі, настаўнікі ўзбагаціліся хрэстаматыйным падручнікам адначасна па педагогіцы, фальклоры, касманаўтыцы, фантастыцы. З’яўленнем гэтага твора вы паказалі, як і пра што трэба пісаць для сучасных маленькіх вундэркіндаў. Калі не сакрэт, як знайшлі сюжэт для казкі? Чаму героем абралі не кагосьці з традыцыйных лясных звяроў — ваўка, лісу, зайца, вожыка, — а маленькага Мураша Бадзіню?

**М. Т.:** Я не думаю, што мая “Быліна пра касмічнае падарожжа Мураша Бадзіні” з’яўляецца нейкім адкрыццём у багатым жанры сучасных дзіцячых казак. Сюжэт гэты я выношваў даўно. У першым варыянце ў мяне Мураш Бадзіня быў вандроўнікам на зямлі, але падзеі ў космасе ўнеслі свае карэктывы і падказалі мне зрабіць яго касманаўтам.

Героем казкі выбраў Мураша таму, што гэты нястомны працаўнік у нечым, больш як усе лясныя жыхары, нагадвае чалавека — цікаўнага, нястомнага ў сваіх пошуках, вандроўках, імкненнях. Я сам вырас у лесе і часта любіў глядзець, як мурашы ўзводзяць свае будыны-мурашнікі, як яны пракладваюць свае сцяжынкі-дарогі, як яны гаспадараць у лесе і абараняюць яго ад розных шкоднікаў. Што да традыцыйных герояў-звяроў, дык яны, мне здаецца, досыць усімі намі “эксплуатаваліся”. Да ўсяго, мне хацелася напомніць, што хоць чалавек і цар прыроды на зямлі, але ў яе касмічных маштабах ён не больш за майго смешнага Мураша Бадзіню. Я рад, што мне ў нейкай меры ўдалося ў гэтым жанры наблізіцца да нашай сучаснасці, надзвычай багатай, але і складанай, калі гутарка ідзе пра яе адлюстраванне ў дзіцячай і не толькі дзіцячай літаратуры.



**У. Л.:** Многія пісьменнікі пішуць альбо спрабуюць пісаць казкі для дзяцей. І гэта, на мой погляд, станоўчая з’ява. Добра, што наша дзіцячая літаратура аздабляецца адным з папулярных жанраў — сучаснай казкай. Хацелася б, Яўген Іванавіч, пачуць вашу думку наконт сучаснай казкі. Гэта павінна быць тая ж традыцыйная, народная казка са звыклым пачаткам “жылі-былі” і шчаслівым канцом “і я там быў…”, толькі напоўненая нейкім новым подыхам і зместам? Альбо сучасная казка — гэта зусім новы літаратурны твор, у якім фантастыка і рэальнасць сінтэзуюцца самім жыццём, дзе могуць сумяшчаць свае дзеянні рэальныя героі і прыдуманыя?

**М. Т.:** Праблема сучаснай казкі не можа не хваляваць пісьменнікаў, бо мы жывём у часы неверагодных навуковых дасягненняў і адкрыццяў і перад намі стаіць праблема, як усё гэта ў паэтычнай форме данесці да дзяцей, зацікавіць іх лёсам і прыгодамі новых герояў, як гэта ўмелі калісьці рабіць нашы безыменныя творцы народных казак і нашы славутыя папярэднікі.

Як ствараць такія новыя сучасныя казкі, не парываючы з прыродай, жыццём, традыцыяй? Тут пакуль што і ў мяне больш пытанняў, прыблізных здагадак, як упэўненых адказаў на гэтыя пытанні.

Ясна адно: сучасная казка павінна, як і даўнішняя, абуджаць фантазію, захапляць прыгодамі сваіх герояў, заклікаць пазнаць яшчэ непазнанае, прывіваць любоў да светлага, добрага, справядлівага і непрымірымасць да ўсяго, што гэтаму перашкаджае.

Яшчэ да таго, як навучыліся рабіць самалёты, чалавецтва ўжо лятала на казачным дыване-самалёце. Яшчэ да таго, як вынайшлі многія цудадзейныя лекі, героі казак зналі жывую ваду, што лячыла раны і нават уваскрашала мёртвых, яшчэ да таго, як мы глыбей пазналі прыроду, героі казак гаварылі на мове звяроў, птушак, дрэў. Казкі маюць выключнае выхаваўчае значэнне, асабліва ў тым узросце, калі чалавек пачынае пазнаваць жыццё і навакольны свет.

**У. Л.:** У вашых “Лістках календара”, Яўген Іванавіч, ёсць такія радкі: “Аднекуль з’явілася мелодыя. Яна кужэльнай ніткай пацягнула за сабой вобразы, вобразы — рыфмы, апошнія леглі ў верш. А ўвесь гэты абвал выклікала мелодыя забытай матчынай песні…”

Нагадаю, Яўген Іванавіч, і прызнанне, якое вы зрабілі ў далёкім 1947 годзе ў “Казцы пра Мядзведзя”:

*А там, за сасновым за лесам, за борам,*
*Як золатам сінім, іграюць азёры!*
*А глянеш навокал — такая краіна:*
*Дзе ступіш — то рэха, то казка, быліна…*

Краіна тая адгадваецца проста — гэта ваш Нарачанскі край, ваша калыска, ваша пажыццёвая ўлюбёнасць. Ён, той ваш край, бяздонны і невычэрпны на народную мудрасць, бо аж праз трыццаць гадоў вы ў “Быліне пра касмічнае падарожжа Мураша Бадзіні” занатавалі зноў:

*Дзе Нарач хвалі сініць*
*І звон стаіць птушыны,*
*Пачуеце вы гэту*
*Пра Мураша быліну.*

Скажыце, Яўген Іванавіч, калі вы адчулі, што Нарачанскі край такі шчодры на казкі, быліны? Якую спадчыну народнай творчасці вы атрымалі ад маці?

**М. Т.:** З першымі сваімі казкамі кожны знаёміцца ў дзяцінстве. Расказваюць іх маці або нехта з блізкіх. І не дзіва, што месца свайго нараджэння кожны з нас доўга, а часам і ўсё жыццё лічыць пачаткам усіх пачаткаў, хоць з гадамі межы гэтай казачнай краіны ўсё больш пашыраюцца на ўсю Радзіму і нават на ўвесь свет.

**У. Л.:** Вашы дзіцячыя кніжкі выйшлі тыражом дзесяці пад мільён экземпляраў. Хрэстаматыйнымі сталі вашы казкі і вершы “Галінка і верабей”, “Конь і леў”, “Казка пра Мядзведзя”, “Казка пра Музыку”, “Журавель і чапля”, “Мухамор”, “Сярод лясоў наднёманскіх”, “Ірынка”, “Светлячок”, “Жук і слімак”, “Ехаў Бай”…

Такі шчаслівы лёс наканаваны і вашай новай казцы пра Мураша Бадзіню. Зразумела, для маці ўсе дзеці роўна любімыя. А як для вас? Якая, Яўген Іванавіч, вам самая дарагая казка і чаму?

**М. Т.:** Я згодзен з тым, што для маці ўсе дзеці роўныя, але самым малодшым, як вядома, удзяляецца заўсёды больш увагі. І для мяне раней напісаныя казкі — старэйшыя дзеці, якія ўжо жывуць самастойным жыццём. А вось тыя, якія я яшчэ не напісаў, але я іх нашу ў задуме, мяне хвалююць найбольш. Я трывожуся за іх, бо яшчэ не ведаю, якімі яны выйдуць з-пад майго пяра.

**У. Л.:** Неяк у часопісе “Вясёлка” быў надрукаваны малюнак трэцякласніцы Светы Сабіны. На ім — прыгожы букет кветак. Да чытачоў была просьба: “Напішыце, каму і за што вы хацелі б падарыць гэты букет?” У рэдакцыю прыйшло многа лістоў. Дзеці называлі сваіх самых дарагіх людзей — маму, тату, настаўніцу, важатую, сястрычку, сяброўку. Былі пісьмы і з такім пажаданнем: “Хацелі б падарыць гэты прыгожы букет кветак паэту Максіму Танку. Перадайце яму, каб часцей пісаў для нас казкі”.

Перадаючы гэта пажаданне вам, Яўген Іванавіч, хачу адначасова пацікавіцца, як вы адчуваеце свайго маленькага чытача, якім яго ўяўляеце сабе? У чым, на вашу думку, падабенства і розніца паміж вашымі юнымі чытачамі, скажам, даваеннага, пасляваеннага часу і сучаснымі?

**М. Т.:** Я вельмі рады, што маленькай Свеце Сабіне спадабаліся мае казкі, і шчыра ўдзячны за падарунак — намаляваны ёю букет прыгожых кветак. Што да падабенства і розніцы паміж юнымі чытачамі, ранейшымі і сучаснымі, мне здаецца, відавочна кожнаму. Дзеці сёння, бясспрэчна, ведаюць больш пра навакольны свет, як мы ў свой час. Гэтыя веды яны чэрпаюць са шматлікіх кніг, з багацейшага набору сучасных цацак, розных канструктараў, пра якія нам і не снілася, з тэатра і кіно, якія яны часта наведваюць. Але ёсць, мне здаецца, шмат і агульнага: іх цікавасць да вынаходства, любоў да цацак, зробленых імі самімі. Просты асядланы кіёк ім часта здаецца больш цікавым, як куплены ў магазіне размаляваны скакун. Змайстраваны імі лук выклікае не меншае захапленне, як нейкі каўбойскі пісталет. Зроблены ўласнаручна папяровы карабель абуджае іх мары да далёкіх марскіх і касмічных падарожжаў.

**У. Л.:** Дзякуй, Яўген Іванавіч, за шчырую, цікавую гутарку. У вас ёсць выдатны верш “Ехаў Бай”. Многія мастакі спрабавалі стварыць свой вобраз Бая-казачніка. Найбольшая ўдача, па-мойму, спасцігла мастака А. Волкава. У яго Бай, як і ў вершы, непаўторны. Калі глядзіш на яго, самі ўзгадваюцца радкі:

*— Ехаў казачнік Бай*
*Цераз сёлы і гай.*
*Баіць ці не?*
*— Бай!*

# Гісторыя вайны… на паштоўках

**Дар’я ШОЦІК**

**У Беларускім музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстаўка “1812 год. Вайна і мір”. Прадстаўленыя літаграфіі, гравюры і паштоўкі сярэдзіны XIX — пачатку XX стст. належаць прыватным калекцыянерам Уладзіміру Ліхадзедаву і Уладзіміру Пефціеву.**

Наведвальнікі змогуць пазнаёміцца з літаграфіямі серыі “1812 год”, якія створаны па малюнках жывапісца-баталіста, літаратара Васіля Верашчагіна. Ён з’яўляецца аўтарам дзвюх кніг пра вайну — “1812 год” ды каталога з тлумачэннем да яго карцін: “Напалеон I у Расіі”.

Імпрэзу вёў старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар газеты “Звязда” Алесь Карлюкевіч. Алесь Мікалаевіч зачытаў прывітальны ліст, дасланы міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Паўлам Латушкам: “На стварэнне гэтага праекта паўплывалі сяброўскія адносіны паміж дзяржаўнай установай і прыватнымі калекцыянерамі. Людзьмі, якія разглядаюць свае калекцыі як выключны матэрыяльны скарб, свядома ўкладаюць усе сродкі ў патрэбную і ганаровую справу — захаванне гісторыка-культурных каштоўнасцей. Дзякуючы ініцыятыве такіх мецэнатаў, як Уладзімір Ліхадзедаў і Уладзімір Пефціеў, нашы суайчыннікі маюць магчымасць дакрануцца да рэдкіх аб’ектаў культуры. Прыемна і тое, што музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, паспяхова выконваючы сваю асноўную місію — услаўленне подзвігу нашага народа, таксама далучаецца да распаўсюджвання сусветнай гісторыка-культурнай спадчыны. Ці будзем мы вучыцца на памылках мінулага, залежыць ад таго, што мы пра яго ведаем. Транслюючы каштоўны вопыт з пакалення ў пакаленне, ствараем сённяшнюю гісторыю, бо кожны крок культуры наперад — вывад, які мы робім, зыходзячы з вопыту папярэднікаў”.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў, у сваю чаргу, адзначыў:

— Вайна 1812 года — справядлівая, нацыянальна-вызваленчая вайна калісьці нашай адзінай краіны супраць напалеонаўскіх войскаў. У ёй народы Расійскай імперыі, яе войска вызначыліся гераічнасцю і мужнасцю, развеялі міф пра непераможнасць Напалеона, вызвалілі сваю Айчыну ад іншаземных захопнікаў.

Дырэктар музея Сяргей Азаронак падкрэсліў, што ўсе атрыманыя ад продажу ўваходных білетаў грашовыя сродкі будуць накіраваны на рэстаўрацыю і рэканструкцыю помнікаў 1812 года.

Прыемна адзначыць, што на выстаўцы адбылася прэзентацыя двух выдавецкіх навінак: кнігі “Помнікі 1812 года на старых паштоўках” Уладзіміра Ліхадзедава і Кірыла Сокалава і “Храналогія Айчыннай вайны 1812 года на старонках паштовак і ў графіцы” Уладзіміра Ліхадзедава і Уладзіміра Пефціева.

У завяршэнне імпрэзы прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная двум незахаваным помнікам, уявіць якія можна дзякуючы фатаграфіям: абеліску ў Клясціцах і помніку польскім і французскім салдатам войска Напалеона (бетонны крыж, які быў усталяваны ў 1920-х гадах на тракце паміж Вілейкай і Маладзечнам).

# Ад вясковай прозы да правінцыйнага дэтэктыва

**Сучасны літаратурны працэс усё актыўней пераўвасабляе класічную традыцыю. Нават жанр дэтэктыва, будучы папулярным у сваім строгім каноне і сёння, імкнецца стаць чымсьці іншым. Класіка па-ранейшаму актуальная, аднак сфера яе бытавання ўсё больш лакалізуецца межамі навукі і адукацыі. Жывая літаратура функцыянуе ў прасторы шматполюснасці, назіранне за ёй становіцца ўсё цікавейшым.**

**Алена МІКУС**

Як спалучаецца кантэкст вясковай прозы і алюзіі на дэтэктыўны жанр — пытанне, якое ўзнікае пры прачытанні тэкстаў аднаго з самых традыцыйных беларускіх аўтараў Ф. Сіўко.

Цэнтрам творчасці пісьменніка з'яўляецца феномен нацыянальнага бытавання, паказ патрыярхальнага ладу жыцця беларускай вёскі і даследаванне нацыянальных характараў. На апошнім пісьменнік відавочна робіць акцэнт, ствараючы дастойны шэраг архетыповых мастацкіх вобразаў ("Трое", "Мяціна дачка").

Глыбокі псіхалагізм тэкстаў Ф. Сіўко — у прастаце матывацыі. Персанажы дзейнічаюць на падставе архетыповых матываў — каханне, помста (у тым ліку кроўная, што адметна акцэнтуе архетыповасць), інстынкт самазахавання. Сюжэтная схема твораў нескладаная, найчасцей сацыяльна-бытавая. Дэманстратыўны прыклад у гэтым сэнсе — аповесць "Трое" — гісторыя дзетдомаўскага юнака, які аступіўся, трапіў у турму, уцёк разам з зэкам і цяпер мусіць цярпець яго нахабства, агрэсіўнасць, ваўчыную злосць. За знешняй прастатой гэтай гісторыі — складаная тэма агрэсіі і падпарадкавання, спагадлівасці і дабрыні, віны і ўскоснай адказнасці за забойства чалавека.

У тэкстах пісьменніка прысутнічае міфалогія, этнаграфія, гісторыя, побыт, філасофія, што ў сукупнасці адлюстроўвае нацыянальную рэчаіснасць. Шэраг цікавых і неадназначных мастацкіх характараў спрыяе роздуму над лёсамі персанажаў і жыццём увогуле. Гэта знак якасці добрага мастацкага тэксту, зробленага прафесійна, каларытна, таленавіта, з апорай на наяўную мастацкую традыцыю. Навуковая рэцэпцыя падобных твораў знаходзіцца ў полі прыняцця.

Неадназначнасць з'яўляецца тады, калі Ф. Сіўко пачынае гуляць на малаасвоеным полі папулярнай літаратуры. Маем на ўвазе дэтэктыўныя творы "Боты сіньёра Паскуаліні", "Чалавек з армянскім прозвішчам", "Выпадак на згоне зімы".

Першае пытанне, якое ўзнікае ў сувязі з прысутнасцю дзвюх паралеляў у творчым досведзе пісьменніка — пра выпадковасць/заканамернасці такога суіснавання. Іншымі словамі: для чаго пісьменнніку, які дасягнуў безумоўнага поспеху на дзялянцы літаратурнай

> *"У тэкстах Ф. Сіўко прысутнічае міфалогія, этнаграфія, гісторыя, побыт, філасофія, што ў сукупнасці адлюстроўвае нацыянальную рэчаіснасць. Шэраг цікавых і неадназначных мастацкіх характараў спрыяе роздуму над лёсамі персанажаў і жыццём увогуле. Гэта знак якасці добрага мастацкага тэксту, зробленага прафесійна, каларытна, таленавіта, з апорай на наяўную мастацкую традыцыю.*

традыцыі (яго аўтарытэт прызнаны навукай), мае свой пазнавальны, непаўторны стыль, ствараць дэтэктыўныя тэксты? Апрача безумоўнай упісанасці такой з'явы ў літаратурны кантэкст часу, які вызначаецца сінкрэтычнасцю і цікавасцю да формул масавай літаратуры, можна сказаць, што Ф. Сіўко ўвогуле ўласцівая схільнасць да таямніцы. Так, у аповесцях "Мяціна дачка", "Удог" гэта міфалагічная таямніца, канчатковае раскрыццё якой у прынцыпе немагчыма. Міфалагічная нераскрытасць таямніцы ў традыцыйных тэкстах знаходзіць выхад праз канкрэтную праяснёнасць дэтэктыва. У гэтым ёсць нешта экзістэнцыйнае — у суіснаванні двух відаў таямніц, першая з якіх — "рэч у сабе", а другая пазітывісцкая. Такім чынам, заканамернасць ёсць. Яна — у эвалюцыі цікавасці да сферы таемнага.

Неабходна дадаць, што "Чалавек з армянскім прозвішчам", "Выпадак на згоне зімы" прадстаўляюць сабой беларускі варыянт правінцыйнага дэтэктыва, што для творчасці Ф. Сіўко з'яўляецца вытлумачальным працягам устаноўкі на выкарыстанне традыцый вясковай прозы. Такі тып дэтэктыва дае магчымасць ужываць напрацоўкі з ужо асвоенага абсягу літаратуры (найперш у рэчышчы стварэння хранатопу і персанажаў). Выкарыстанне традыцый вясковай прозы ў правінцыйным дэтэктыве Ф. Сіўко адбываецца наўпрост — пісьменнік застаецца на ўзараным ім літаратурным полі, ствараючы вобраз беларускай вёскі і яе насельнікаў. Ён не спрабуе фантазіраваць на тэму дэтэктыўнага жанру, у чым бачыцца антыпостмадэрнісцкая пазіцыя. Аўтар рэалізуе ў сваёй творчасці традыцыйную манеру пісьма. У гэтым адрозненне дэтэктываў Ф. Сіўко ад сучасных тэкстаў, напісаных у гэтым жанры. Напрыклад, правінцыйныя дэтэктывы сучаснага рускага мэтра жанру Б. Акуніна (трылогія пра манахіню Пелагею) гуляюць з дэтэктыўнай формулай. Актуальным момантам становіцца не проста знаходжанне ісціны, а, напрыклад, іранічнае абыгрыванне гісторыі багатай цётачкі і яе белых племянных бульдогаў, якіх нехта спрабуе знішчыць, ствараючы пагрозу для жыцця і псіхічнай раўнавагі эксцэнтрычнай багатай гераіні.

Кантэкст правінцыйнага дэтэктыва прасочваецца ў сістэмных элементах тэкста Ф. Сіўко:

— месца дзеяння — вёска або правінцыйны раённы горад з патрыярхальным ладам жыцця, якое ідзе павольна, няспешна;

— герой-дэтэктыў — правінцыял-аналітык-сузіральнік.

Інавацыйным момантам пры стварэнні вобраза з'яўляецца наяўнасць у следчага ўласнай методыкі вышуку, якая на першы погляд выглядае неапраўдападобна, але каларытна. Яна заснавана на захапленні дэтэктыва-аматара дыялекталогіяй і анамастыкай. Адметна, што дыялекталогія як навука можа ўспрымацца ў кантэксце перыферыйнасці, таму што асноўныя полюсы развіцця лінгвістыкі найперш звязаны з праблемамі сучаснай літаратурнай мовы. Такая адзнака ўдала працуе на канцэпцыю правінцыйнага дэтэктыва, які факусіруе лакальную перыферыйнасць;

— матыў забойства — кроўная помста з'яўляецца адным з найбольш старажытных архетыпаў. А правінцыйная стылістыка прадугледжвае выкарыстанне архетыповых вобразаў, сітуацый, абставін;

— мараль — вясковая. У гэтым сэнсе звяртае на сябе ўвагу спагадлівае стаўленне следчага Юстынавіча да герояў яго дэтэктыўнага расследавання ("Саграшыў аднойчы, а пакараны два разы аказаўся чалавек", — з жалем адзначае герой пра забітага ў "Чалавеку з армянскім прозвішчам").

Канцэпцыю правінцыйнага дэтэктыва падкрэслівае таксама ўстаноўка тэкстаў на прымітывізм: гранічна простыя геройследчы, матыў для злачынства, метады яго здзяйснення.

У плане літаратурнага вопыту цікавы створаны Ф. Сіўко

> *"Выкарыстанне традыцый вясковай прозы ў правінцыйным дэтэктыве Ф. Сіўко адбываецца наўпрост — пісьменнік застаецца на ўзараным ім літаратурным полі, ствараючы вобраз беларускай вёскі і яе насельнікаў. Ён не спрабуе фантазіраваць на тэму дэтэктыўнага жанру, у чым бачыцца антыпостмадэрнісцкая пазіцыя.*

вобраз дэтэктыва, дамінантнай рысай якога з'яўляецца прастата. Усё — ад імені да мовы персанажа — працуе на гэту ідэю. Гэта правінцыял, навуковецсамавучка, які мае зусім нязначны досвед у расследаванні злачынстваў. Іншымі словамі, у тэксце ёсць канцэпцыя героя, якая магла б прэтэндаваць на цэласнасць, калі б не адно але: недахоп дэталяў, каларытных нюансаў. Відавочна, мала адной згадкі пра тое, што яго, непрафесійнага аматара лінгвістычных дысцыплін, запрашаюць выкладаць у ВНУ. Вобраз героя-следчага патрабуе большай эксклюзіўнасці, неардынарнасці, бо гэта ключавая фігура дэтэктыва.

У аповесці "Чалавек з армянскім прозвішчам" выкарыстоўваецца апазіцыя "афіцыйны следчы — герой-дэтэктыў", якая з'яўляецца тыповай для класічнага дэтэктыва. Першы дзейнічае метадамі, якія відавочна не прывядуць да ісціны, хаця выглядаюць лагічна і апрабаваныя папярэднім досведам. Герой-дэтэктыў выкарыстоўвае дзіўныя сродкі, праз якія адбываецца раскрыццё злачынства. У дадзеным выпадку яны маюць у сваёй аснове беларускі матэрыял — расследаванне адбываецца аналітычным метадам пры дапамозе дыялекталогіі і анамастыкі. Гэта варыянт лінгвістычнай гульні, актуальнай для постмадэрнісцкага часу.

А вось расследаванне неапраўдана рэдукавана — толькі ў развязцы прыводзяцца факты следства, праведзенага па-за старонкамі тэксту. Так чытач выключаецца з дэтэктыўнай гульні.

Творы Ф. Сіўко — аповесць "Чалавек з армянскім прозвішчам", апавяданне "Выпадак на згоне зімы" — непаўнакроўныя варыянты правінцыйнага дэтэктыва. Яны выкарыстоўваюць найперш здабыткі вясковай прозы, якая ў кантэксце традыцый беларускай літаратуры мае арыгінальнае аблічча. Элемент дэтэктыва — нязначны.

Сама ідэя вывесці ў якасці следчага беларускага местачкоўца-самародка з уласнай арыгінальнай методыкай вышуку, безумоўна, мае патэнцыял у плане стварэння новага тыпу сучаснага беларускага дэтэктыва. Але адной яе недастаткова. Што яшчэ раз пацвярджае, паколькі няпроста стварыць арыгінальны літаратурны прадукт у межах формулы дэтэктыва.

Такім чынам, у Ф. Сіўко ёсць дэтэктыўная формула, традыцыя, новая ідэя. На выхадзе маем спробу стварэння новага літаратурнага твора, а таксама цікавы вопыт пражывання беларускай літаратурай уласнага лёсу.

# Шчырасць і непасрэднасць

**Міхась КАВАЛЁЎ**

Пяру паэта і празаіка Яўгена Калашнікава належыць восем кніг для дзяцей на беларускай і рускай мовах. Дарэчы, абедзвюма Яўген Міхайлавіч валодае дасканала, па-майстэрску. Яго крэда — кніга для дзяцей павінна быць добрай, цікавай, прыносіць радасць, падабацца не толькі маленькім чытачам, але іх бацькам.

Створаныя пісьменнікам вобразы яркія, запамінальныя, пачуцці шчырыя, непасрэдныя, глыбокія, і гэта захоплівае чытача ў палон.

Вось, напрыклад, кніга казак "Волшебный цветок". Яна адрасуецца самым маленькім. Дзеці любяць жывёл і радуюцца, калі звяркі, асабліва маленькія, выратоўваюцца з бяды. Так і ў гэтых аповедах, добрых і вясёлых, а часам павучальных, мышкі, зайчыкі, мядзведзікі ды іншыя звяркі жывуць весела і дружна, выручаюць адно аднаго, не пакідаюць у бядзе. Казкі Яўгена Калашнікава, а іх у кнізе ажно чатырнаццаць, вучаць дабрыні, спагадзе, любові да прыроды і роднага краю.

У кнізе "Якія колеры ў вясёлцы?" змешчана больш як паўсотні цудоўных вершаў для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

Як адзначае ў прадмове да кнігі доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Іван Штэйнер, у дзяцінстве ў кожным чалавеку жыве паэт, які глядзіць на гэты сусвет зусім іншымі вачыма, чым астатнія. Потым дзіця расце, і паэт часцей за ўсё сыходзіць з яго душы. Тыя ж людзі, якія захоўваюць першародных пачуцця, застаюцца паэтамі, бо да канца жыцця навакольны свет яны будуць успрымаць вачыма дзіцяці. Яўген Калашнікаў у гэтых адносінах — сапраўдны паэт. Ён добра ведае фізічную аснову прыроднай з'явы, бо па прафесіі звязаны з фізікай, і тым не менш паказвае маленькаму чытачу, ці, хутчэй, слухачу, як дождж, памыўшы зямлю і нябёсы, дрэвы і кветкі, павесіў па-над плёсам каляровае паўкружжа. Дождж уяўляецца жывой істотай, што на цудах-кроснах з красачак тчэ вясёлку.

Зямляк паэта, пісьменнік і мастак Юрый Фатнеў, пра творчасць Яўгена Міхайлавіча сказаў так: "Вершы Я. Калашнікава аднолькава цікавыя і дзецям, і дарослым, у кожным з іх схавана іскрынка. Гумар не навязлівы, як і павучанне. Нават дарослых яго вершы хоць на хвілінку вяртаюць у дзяцінства."

Гэта так.

Свой паэтычны свет Яўген Калашнікаў будуе на аснове адвечных народных традыцый... Таму кнігі яго добрыя, радасныя, мілагучныя...




# Чаму хвалюецца чужое сэрца?

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Празаічная частка майскага нумара “Полымя” прадстаўлена імёнамі Яўгена Хвалея, Алеся Дзятлава, Івана Капыловіча і Янкі Сіпакова. Але маю ўвагу прыцягнула апавяданне Раісы Баравіковай “Радасці і пакуты чужога сэрца”. Зварот да творчасці пісьменніцы меў сваю прычыну. Не будзе перабольшаннем сказаць, што ўдзельнікі літаратурнага працэсу дастаткова часта знаходзяцца ў палоне стэрэатыпаў. Р. Баравікова плённа працуе ў празаічным жанры (напрыклад, апавяданні “Ты, я і Валодзя”, “Метэарытнае жалеза”, “Гэтыя кветкі не смяюцца” і іншыя. Але шэраг чытачоў па-ранейшаму ўспрымае творцу хутчэй як паэтэсу.

На першы погляд, апавяданне “Радасці і пакуты чужога сэрца” з’яўляецца дастаткова тыповым для прозы Р. Баравіковай. У яе творах часцей за ўсё дзейнічае сталая жанчына, якую аўтар прадстаўляе поўным імем: Надзея Паўлаўна, Вольга Пятроўна, Вера Мікалаеўна. У яе ёсць муж, дзеці, быт наладжаны. Здаецца, нішто не перашкаджае сямейнаму шчасцю ці яго бачнасці, але нейкае здарэнне прымушае гераіню паглядзець на сваё жыццё нібы збоку. Бадай, да таго ж тыпажу належыць і Таццяна Адамаўна, галоўная дзейная асоба апавядання.

Але пэўныя рысы, уласцівыя “Радасцям і пакутам чужога сэрца”, дазваляюць казаць пра наватарства ў творы. Як вядома, Р. Баравікова піша таксама фантастыку для дзяцей. У выніку ў апавяданні натуральна аб’ядноўваюцца дзве плыні: фантастычная і рэалістычная. Першая праяўляецца ў завязцы сюжэта: Таццяна Адамаўна сустракае ў тралейбусе невядомага мужчыну і не можа патлумачыць каханне, што ўспыхвае ў яе душы. Між тым галоўнай гераіні нядаўна зрабілі перасадку сэрца. Яна прыходзіць да высновы, што незнаёмая жанчына, якая міжволі выратавала ёй жыццё, аддаўшы сваё сэрца, калісьці кахала невядомага з тралейбуса.

Аднак такі нечаканы ход не становіцца аўтарскім картбланшам для бязмежнай плыні фантазіі. Наадварот, Р. Баравікова псіхалагічна дакладна і пераканаўча перадае адчуванне, настрой, думкі Таццяны Адамаўны, што праяўляецца нават у дробных дэталях. Напрыклад, пасля таго, як гераіня ўпершыню ўбачыла незнаёмага мужчыну (потым высветліла, што яго клічуць Павел Антонавіч), яна не змагла спаць у абдымках мужа: *“Ноччу Таццяна Адамаўна ўспуджана прачнулася ад таго, што нешта душыла яе, ціснула моцна-моцна на шыю, на плечы… Цьфу ты, гэта ж Валодзева рука! І яна асцярожна выслізнула з-пад яе… Дзіўна, столькі гадоў гэтая дужая рука так утульна саграгавала яе, а тут раптам стала такой цяжкой!... Яна нават адсунулася далей ад Валодзі, быццам ён таіў у сабе нейкую небяспеку”.* Або Таццяна Адамаўна праз гады звяртаецца да кнігі Стэндаля “О любви”, набытай у пачатку 1990-х гадоў. З аднаго боку, тут дакладна перадаецца атмасфера часу, калі шэрагу сем’яў, што мусілі выжываць, было не да літаратуры. З другога, разгубленасць гераіні, якая саромеецца падзяліцца з кімсьці сваім пачуццём і шукае адказы ў кнігах.

Імпануе і тое, што пісьменніца не навязвае чытачам уласнага меркавання і прапануе ім самім расставіць усе кропкі над “і”. Спрабуючы разгадаць таямніцу, Таццяна Адамаўна накіроўваецца да прафесара Пятроўскага з просьбай назваць імя асобы, з чыім сэрцам яна жыве. Яго адказ, а таксама інфармацыя, атрыманая ў бабулькі ля пад’езда, нібыта сведчаць, што гаворка ідзе пра памерлую жонку Паўла Антонавіча. Калі так, яна кахала яго, бо сэрца не можа памыліцца. Але гаворка з мужчынам, якая працягваецца менш як хвіліну, прыносіць цалкам супрацьлеглую інфармацыю. Калі кахання паміж мужам і жонкай не было, чаму ж тады так *“то ўспудзіцца, то запячэ, застогне, расхвалюецца”* сэрца, што цяпер належыць Таццяне Адамаўне? Наогул, ці варты Павел Антонавіч такіх пачуццяў? Кожны з чытачоў бліскучага апавядання Р. Баравіковай можа адказаць на гэтыя пытанні самастойна.




# Прысмак настальгіі

**Алена КАРП**

Тэма пятага нумара “Нёмана” — “«Сябрына»: Беларусь — Россия” — з аднаго боку, дазволіла прадставіць творчасць і беларускіх, і рускіх пісьменнікаў, з другога боку, ці не яна, заяўленая тэма, і жаданне адпавядаць ёй змусіла добрую палову аўтараў згадаць агульнае для абодвух народаў савецкае мінулае.

Апошні год існавання савецкай дзяржавы ўзнаўляе ў сваім рамане “Без права на славу” Мікалай Іваноў. Галоўны герой, разведчык, супрацоўнік спецслужбаў Ягор Буярашын непахісны, валявы, верны сваім прынцыпам. Здавалася б, дастаткова, каб заваяваць сімпатыі чытачоў (а аўтарская сімпатыя відавочная), аднак ці не тыя самыя характарыстыкі былі ўласцівыя вядомаму ў рускай літаратуры тыпу “скураных куртак”. Згадаем хаця б вядомае Пільнякова: “И то, что в кожаных куртках, — тоже хорошо: не подмочишь этих лимонадом психологий, так вот поставили, так вот знаем, так вот хотим, и — баста!” Адданы сваёй ідэі, герой не жадае бачыць, хто знаходзіцца па другі бок барыкад. “Подумаешь, собралась горстка перед Лубянкой. Две пожарные машины с водомётами вперёд — и через полчаса особо ретивые сидят по домам, сушат одежду”. У рамане, прынамсі, у прапанаваных главах, не знайшлося месца хаця б для аднаго вобраза “ретивого”. Шкада, аднабаковасць наўрад ці бывае на карысць мастацкаму твору.

Побач з раманам апавяданне Васіля Дварцова “Дневник офицера” выглядае яскравым кантрастам. Па-першае, тут ужо не выпадае казаць пра якую-кольвечы ідэалізацыю савецкай рэчаіснасці. Па-другое, герой апавядання, былы асабіст Георгій, маючы прыкладна той жа статус, што і герой рамана, праходзіць зусім іншы шлях. Калі Буярашын бачыць сябе выратавальнікам вялікай дзяржавы, то Георгій становіцца сведкам таго, як лёгка гэта дзяржава можа падмяць пад сябе асобнага чалавека. Яго гісторыя становіцца гісторыяй духоўнага сталення і пераадолення ўласнага страху: “…разве это не благодать, когда ты хоть немного от страха освобождаешься?”

Апавяданне Віктара Ліханосава “Одинокие вечера в Пересыпи” і нарысы Барыса Якімава “Глядя на солнце”, наадварот, блізкія паводле свайго пафасу. Абодва аўтары цалкам ці часткова суадносяцца са сваімі героямі, абодва скіроўваюць свой позірк у мінулае. Проза іх няспешная, медытатыўная, спавядальная і з выразным прысмакам настальгіі. У выпадку В. Ліханосава гэта настальгія па дзяцінстве, юнацтве, малой радзіме. Яна выяўляецца праз асабістую, а таму шчымлівую і шчырую гісторыю, пасля якой фінал апавядання: “Мы с матерью и не догадывались, что стояли на родной улице в последний счастливый год великой страны” — выглядае штучным, надуманым. Б. Якімаў смуткуе яшчэ і па тых справядлівых маральных асновах, заняпад якіх звязваецца ім з распадам СССР. Падобная выснова адносна згасання маральнасці чытаецца і ў вершы Мікалая Дабралюбава “Хлеб”: “Мы черствеем, как хлеб, которого много”.

Аўтары паэтычнай часткі (яна ў гэтым нумары выглядае надзвычай прадстаўнічa) разважаюць над праблемамі, што прынята называць вечнымі, і дэманструюць пры гэтым свае высокія ідэалы і версіфікатарскае майстэрства. Сярод іх варта вылучыць Вадзіма Дулепава, які ў сваёй нізцы “Дом всюду…” вызначыў агульны настрой нумара: “эпохи оседают, словно стены”, і здолеў аптымальна ў яго патрапіць вершам “привет, апрель, нескладный и патлатый!”, у якім чытаецца і гісторыя асобы, і гісторыя краіны. У ёй, аднак, няма ні роспачы, ні наканаванасці. Гэта светлыя ўспаміны, да таго ж выпісаныя свежа і неардынарна, што гарантуе паэзіі пазачасавасць.

Сапраўды, і ў дзевяностыя, і ў нулявыя, і на зломе эпох нішто не замінае чалавеку быць шчаслівым або няшчасным і самотным і вырашаць сваё прыватнае “быць або не быць”. Таму ў аповесці “Послание” Алены Паповай час — толькі фон, хоць і вельмі выразны, на якім героі спрабуюць пазбыцца сваёй адзіноты. Кампазіцыя аповесці дэтальна прадуманая аўтарам, усе сюжэтныя ніткі звязваюцца ў цэльнае палатно, і ніводны персанаж не застаецца без увагі. У выніку — адзін з самых цікавых твораў нумара, які, безумоўна, заслугоўвае быць прачытаным.

З агульнага савецка-настальгічнага настрою “выломваюцца” і апавяданні Раісы Баравіковай: жаночае “Роман не роман, а приятно” і фантастычнае “Лёгкие деньги”. У апошнім адразу некалькі канфліктаў: унутраны (перажывае герой, які нечакана стаў уладальнікам вялікай сумы грошай), знешні сямейны і невідавочнае непаразуменне паміж дзвюма цывілізацыямі. Урэшце для галоўных герояў усё шчасліва вырашаецца, яны атрымліваюць маральную перавагу. Аднак тое, што насельнікі іншай планеты ўяўляюць сабой “может, только видимость человека” — своеасаблівы намёк. Магчыма, іх праблемы не чужыя, іншаземныя, а рэальныя, якія пагражаюць і свету людзей.




# Перамог гісторык

**Соф’я МАРОЗАВА**

Калі меркаваць па “Маладосці”, праблемы чалавечых узаемаадносін (у прыватнасці, стасункі паміж мужчынам і жанчынай) знаходзяцца ў фокусе ўвагі сучасных празаікаў. Менавіта ім прысвечаны апавяданні майскага нумара. Алесь Макоўскі з іроніяй апавядае пра знаёмства самотнай маладой беларускі з іншаземцам (“Камандзіровачнае шчасце”); дэбютантка Аляксандра Федчанка-Хамянок прадстаўляе твор са смелай і арыгінальнай задумай — псіхалагічную навелу “Апошні некралог”; Алеся Кузьміч распавядае гісторыю мужчынскай дэградацыі (“Вочы на ўзроўні падлогі”), а таксама звяртае ўвагу на праблему віртуальных знаёмстваў (“А што за маніторам?”). Аднак, пішучы пра “самоту ў сеціве”, аўтарка не змагла ўтрымацца ад банальнасцей, пераказу віртуальных анкет ды горкіх высноў накшталт “нешта не складвалася ў жыцці”, “нешта сапсавалася ўжо тады”... Гэта засмучае, улічваючы схільнасць Алесі Кузьміч да псіхалагічнай абмалёўкі вобразаў (напрыклад, у персанажаў яе апавядання “Вочы на ўзроўні падлогі” цалкам верыцца).

Убаку ад згаданых тэм стаіць апавяданне Івана Карэнды “Збан”. Убачыўшы назву, чытач наўрад ці здагадаецца, што Збан — гэта возера. І тым больш не падумае, што нават у Збане можна ўтапіцца... Зрэшты, недарэчнасць некаторых падзей і іх адначасовы трагізм — звычайнае суседства як у літаратуры, так і ў жыцці, асабліва калі гаворка ідзе пра падзеі мінулай вайны. Апавяданне напісана добрым стылем і лёгка чытаецца, а падача тэмы ў цэлым традыцыйная.

І ўсё ж, мусіць, пры першым праглядзе часопіса найбольшыя чытацкія чаканні выклікае аповесць-нарацыя Івана Саверчанкі “Залаты амулет”, прычым з дзвюх прычын. Па-першае, твор прысвечаны Усяславу Чарадзею — самай загадкавай постаці беларускай гісторыі. Па-другое, аўтар — выдатны гісторык і майстра гісторыка-біяграфічнага жанру. Існуе нямала прыкладаў, калі ўласцівы гісторыкам спосаб мыслення спараджаў цікавыя літаратурна-мастацкія інтэрпрэтацыі з каларытнымі вобразамі і адмысловым паглыбленнем у эпоху...

“Залаты амулет” адзначаецца хуткасцю развіцця сюжэта. Ён нагадвае палёт на параплане над жыццём Усяслава Брачыславіча: вось герой “агледзеў Бярэзіну і Дзісну, Друць і Вілію, Обаль і Дняпро”, вось “на радасць князю Дабраслава нарадзіла сыноў Давыда, Барыса, Глеба, Рамана, Святаслава і Расціслава”, вось “абарончыя збудаванні паўсталі ў Сёмкавым Гарадку, Свіслачы, Гарадзішчы на рацэ Пціч, Цяцерыне, Навасёлках на рацэ Бярэзіне і Панізоўі на рацэ Гайна”... Нават бітвы тут выглядаюць як “прыйшоў-убачыў-перамог”, мала адрозніваюцца адна ад другой. Кадры змяняюцца так хутка, што напісанае нагадвае канспект рамана, аздоблены гістарычнымі дэталямі. Дэталяў шмат, падабраныя яны прафесійна і з любоўю (увага: часам трапляюцца замаскіраваныя пад факты аўтарскія дапушчэнні!), што робіць твор вельмі насычаным, інфармацыйным... Шкада ўсё ж, што аўтар рэдка спускаецца з агляднага параплана на грэшную зямлю, дзе сярод людзей выплаўляюцца шчасце і пакута, валадараць эмоцыі, амбіцыі і інтрыгі, а падзеі разгортваюцца непрадказальна... Аповед пазбаўлены як псіхалагізму, так і (збольшага) уласцівай асобе Усяслава Чарадзея таямнічасці. Яе праявы ўзнікаюць рэдкімі праблыскамі і нават не злучаюцца ў скразны матыў. Чаму аповесць названая “Залаты амулет” — асобнае пытанне. Амулет згадваецца ў творы толькі аднойчы і ніякай ролі ў лёсе героя і развіцці падзей не адыгрывае.

Усё ж “Залаты амулет” Івана Саверчанкі імкнецца да жанру гістарычнага нарыса. Таму і эпізоды “мастацкага кшталту” выглядаюць тут чужародна (містычнае зачацце князя-волата, сон Усяслава пра павукоў). Не дапамагае нават аўтарскае азначэнне жанру, пададзенае напачатку ў выглядзе каментарыя. Гісторык і пісьменнік змагаліся ў аўтару “Залатога амулета”, а полем іх бітвы быў тэкст. Гэтым разам гісторык перамог.


Аляксандр Клачкоў

# Вучоны і паэт

**Паэтычны небасхіл Горацкага краю багаты на таленты. 30 чэрвеня адзначае 60-гадовы юбілей Аляксандр Клачкоў, доктар тэхнічных навук, прафесар, загадчык кафедры сельскагаспадарчых машын БДСГА, аўтар 9 паэтычных зборнікаў. Жыццё яго ўяўляе сабой надзвычай арганічнае адзінства навукі і культуры, тэхнікі і лірыкі. Ён аўтар шэрагу кніг па механізацыі сельгасработ, больш як 300 навуковых прац і шматлікіх вынаходніцтваў. "Калі ты нешта не зрабіў у навуцы, потым гэта нехта зробіць, а калі ты не сказаў тое, што ў тваёй душы, гэта прападзе", — прызнаецца творца. За вершамі бачыш чалавека глыбокага і сур'ёзнага, які здольны па-філасофску асэнсоўваць само жыццё, імгненні часу, адчуваць побач з сабой подых і прысутнасць адвечнага.**

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА,**
**кіраўнік народнага аматарскага аб'яднання "Роднае слова", г. Горкі**

## Новы пачатак

*Фізічна адчуваю час пачатку,*
*Касмічных сіл*
*змяняецца расклад.*
*І сонца зацвярджае,*
*як пячаткай,*
*На новы год нязменна новы лад.*

*Зноў прыйдзе час,*
*калі снягі растануць,*
*І ручайкі да рэчак пабягуць,*
*І стануць птушкі*
*новай песняй славіць…*
*Дай, Божа,*
*песню тую нам пачуць.*

*Але не блытай новае з адвечным.*
*І ці заўсёды трэба новым жыць?*
*Адвечнае —*
*што не заменіш нечым,*
*А новае*
*ўвесь час вакол бяжыць.*

## Усмешка

*Плыве усмешка праз стагоддзі,*
*праз памяць і складаны лёс.*
*Напэўна, нехта скажа — годзе,*
*ды толькі ці туды аднёс*
*сваёй спакусы спадзяванні*
*няпэўныя, нібыта сны,*
*каб зразумець аднойчы ўранні*
*кошт маладосці і вясны.*
*Ужо не вернуцца ніколі*
*усмешак светлыя часы.*
*Далёка недзе, ў чыстым полі,*
*пад сонцам спеюць каласы.*

## Талент

*Гармонія танца і песні —*
*Адзінства і спраў, і душы:*
*Спявае жаўрук напрадвесні*
*У небе, у вечнай цішы.*
*Ляцяць лёгкай стужкаю гукі,*
*З'яднаныя памяццю мар.*
*Такое ствараюць не рукі,*
*Цуд творыць Сусвету ўладар.*
*Адтуль, з вышыні і пустэчы,*
*І гукі, і промні лаўлю.*
*І самыя простыя рэчы*
*Жыццём напаўняюць зямлю.*

## Нараджэнне песні

*Толькі першая нота,*
*яшчэ песні няма.*
*каб даведацца, хто ты,*
*раскажы мне сама,*
*падкажы тыя словы,*
*што радком ажывуць,*
*сэнс знайдзі адмысловы,*
*каб здалёку пачуць.*
*Потым можна паверыць*
*у бязмежжа нябёс.*
*Песню нечым памерыць —*
*лёс на крылах узнёс.*


Ірына Касянкова

# Безыменнаму Салдату прысвячаю

## Хачу ўспомніць імя

*Я даўно тут забіты ляжу,*
*У пакутах душа мая.*
*Я не дыхаю і не гляджу.*
*Хачу ўспомніць сваё імя.*

*Помню постаць матулі адну:*
*Ўся сагнутая, плечы дрыжаць.*
*Выпраўляе мяне на вайну.*
*Толькі плача, а хоча крычаць.*

*Помню я скрозь пажарышчаў дым*
*Сонца, быццам жыцця прамень.*
*Цяжка так паміраць маладым,*
*Калі зноў нараджаецца дзень!*

*Ўспамінаю апошні наш бой,*
*І — рамонкі ў запеклай крыві.*
*З нас ніхто не вярнуўся дамоў.*
*Ну а ты, мой нашчадак, жыві!*

*Я хачу, каб маё імя*
*Ты ці ў зорак, ці ў ветру спытаў,*
*Каб у міры жыла зямля*
*І каб я ў ёй спакойна спаў.*

## Сон

*Спіць старая Агата,*
*Сніць жахлівыя сны.*
*Чуе рэха гарматаў —*
*Боль мінулай вайны.*

*Муж ляжыць перад ёю.*
*Ён такі малады!*
*Ўвесь заліты крывёю:*
*— Піць… Сястрычка… Вады…*

*Крык адчайны прарвецца:*
*— Я ж Агата твая!*
*Не аддам цябе смерці!*
*Што за доля мая?!*

*Я цябе ўсё чакала,*
*Столькі слёз праліла*
*І так моцна кахала,*
*Што забыць не змагла.*

*Раскажы, мой каханы,*
*У які крочыш край?*
*Дзе ж ты быў пахаваны?*
*Пачакай, не знікай!*

*Можа, выжыў, мой любы,*
*І ідзеш да мяне,*
*Не сустрэў сваёй згубы*
*У крывавай вайне?!*

*Заціхаюць гарматы —*
*Рэха даўняй вайны.*
*Цяжкі сон у Агаты,*
*Як і ўсе яе сны.*

## Малітва маці

*Гаравала маці. Не прыйшлі з вайны,*
*Згінулі, не вернуцца родныя сыны.*
*Сэрца моцна сціснула, шрань у вачах.*
*І душу ахуталі полымя і жах.*

*Думкі закруціліся:*
*"А навошта жыць?*
*Ці вайну праклятую,*
*ці сябе вініць,*
*Што чацвёра хлопчыкаў*
*у чужой зямлі?*
*Што магілкі травамі,*
*зеллем зараслі,*
*Можа, дзе за вёскаю*
*бедныя ляжаць?*
*Каб магла хоць дзетачак*
*родных пахаваць!"*

*Так з адчаем крыкнула*
*Богу ў вышыню:*
*"Я замест крывіначак*
*легла б у зямлю!*
*Змілуйся, мой Божачка,*
*забяры мяне!*
*Ні аднога хлопчыка*
*смерць хай не кране!"*

*І любоў матуліна падняла сыноў.*
*Ўсе з вайны вярнуліся*
*да сябе дамоў.*
*Ды насустрач маці іх*
*выйсці не змагла —*
*За сыноў, за роднеых,*
*у зямлю лягла.*


Фота Кастуся Дробава

## Дэбют


Маргарыта Прыка

Маргарыта Прыка нарадзілася ў Магілёве, потым з сям'ёй пераехала ў Пінск. Цяпер — студэнтка інстытута журналістыкі БДУ. Наведвае літаратурнае аб'яднанне "Струмень" пад кіраўніцтвам В. Грышкаўца пры газеце "Пінскі веснік". Хобі — клубы гістарычнай рэканструкцыі, інструментальная этнічная музыка, паэтычныя open-air вечарыны.

**Анатоль ШУШКО**

* * *

*Я дачакалася цябе, мой светлы чэрвень,*
*так цёпла-зелена, іду на ўздым.*
*Ці плача кнігаўка, ці зззяе сонца-певень*
*ружова-жоўта-рыжы. Ранак — дым.*

*Я дачакалася цябе, мой час палёгкі,*
*празрысты золак, роснае паветра,*
*паслядажджовы ветрык*
*смачны, крохкі,*
*такі не дзьме ад Рыма да Сіэтла.*

*Я дачакалася цябе, і хутка — ліпень*
*змяняе ў лесе фарбы паслядоўна.*
*Век-ваўкалак абрынецца у кіпень,*
*Мы прагнем жыць*
*і хочам жыць цудоўна.*

## Радкі на шкле

*Надзея раптоўная ўсё пераменіць!*
*Убачу яднанне падзей і імёнаў.*
*Пачуцці, эмоцыі поўняцца, спеюць,*
*І чуць не жадаю пагроз і праклёнаў.*

*Усмешка раптоўная ўсё пераменіць!*
*Адкрыйся насустрач*
*магутнаму ветру.*
*І пройдзе журба,*
*цемру промень успеніць,*
*І верне вясна спадзяванні і веру.*

*Сустрэча раптоўная*
*ўсё пераменіць!*
*Мы знойдземся хутка*
*на гэтай планеце.*
*Вось снежань паверхі і дрэвы абеліць,*
*Вандроўнікі мы у бясконцым сусвеце…*

## У гонар футурыстаў

*З дудой паспрачаўся новы рынгтон:*
*Я модны, навейшы,*
*у далькажыках госць!*
*А дудка ўсё пела,*
*пра тое, што ёсць,*
*Ды хвалі гулялі*
*з дажджом ў бадмінтон.*

## Палескі вечар

*Вербена у шэрым двары.*
*Маланкаю ў ноч — ліхтары*
*адкрыюць нам новыя міфы,*
*прывіды Прыроды… Як ціха!*

## Вандроўніку ў часе

*Калі пабачу я пагляд тваіх вачэй,*
*калі адчую подых навальніцы,*
*тады маланкай будзе стаць лягчэй,*
*чым узляцець сузор'ем Мілавіцы…*

*Калі не вернемся мы ў гэты дом,*
*калі журбой азмрочыцца праменне,*
*калі травою зарастае дол,*
*ты не знікай у зорным мігаценні!..*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



Кніжны свет

29 чэрвеня 2012 г.

# Выдадзена ў «Мастацкай…»

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылося адкрыццё выстаўкі “Няхай світае свету!”, прысвечанай 40-годдзю выдавецтва “Мастацкая літаратура”. За чатыры дзесяцігоддзі ў адным з самых прэстыжных выдавецтваў краіны пабачыла свет 5 189 найменняў кніг — а гэта, па сутнасці, цэлая бібліятэка.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

Такая сімвалічная назва — “Няхай світае свету!” — для выстаўкі была абрана не выпадкова. Як патлумачыла дырэктар музея Лідзія Макарэвіч, “...у “Мастацкай літаратуры” былі падрыхтаваны кнігі дзясяткаў беларускіх пісьменнікаў, яны не толькі самі пісалі творы, але і дапамагалі новым выданням з’явіцца на свет. Гэта вялікая справа. Добра, што змяняюцца пакаленні творцаў, кніга набывае новы статус, але ўсё роўна застаецца жыць”.

Адзін са сталых аўтараў выдавецтва, паэт Навум Гальпяровіч падкрэсліў:

— Я вельмі ганаруся, што карані беларускага кнігавыдання — у маім родным горадзе. І хоць 40 год у параўнанні з 1150-годдзем Полацка і 500-годдзем выдання Скарынам першай кнігі, што мы адзначым праз некалькі год, падаецца ўзростам немаўляці, галоўнае — у працы. Важна, што за гэты час у выдавецтве выйшлі кнігі В. Быкава, У. Караткевіча, І. Шамякіна, М. Танка, іншых выдатных творцаў, што выдавецтва прыязна ставіцца менавіта да класікі, якая павінна быць у кожным доме. Для мяне і сёння, нягледзячы на тое, што ў краіне шмат выдавецтваў, “Мастацкая літаратура” — самае аўтарытэтнае.

Тое, што “Выдадзена ў «Мастацкай»” — гэта знак якасці, пацвярджаецца не толькі суб’ектыўным меркаваннем Навума Якаўлевіча, але і аб’ектыўнымі паказчыкамі — узнагародамі шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў “Мастацтва кнігі”. Усе іх можна пабачыць на выстаўцы ў ліку іншых экспанатаў, звязаных з гісторыяй выдавецтва. Дарэчы, і сёлета альбом “Валенцін Губараў. Важно всё” атрымаў Дыплом ІІ ступені ў намінацыі “Арт-кніга” IX Міжнароднага конкурсу “Мастацтва кнігі” дзяржаў-удзельніц СНД.

Што да іншых экспанатаў, прадстаўленых на выстаўцы, то сярод іх несумненную цікавасць выклікаюць рэдкія матэрыялы, падпісаныя першымі асобамі дзяржавы, у прыватнасці, Пастанова ЦК КПБ і СМ БССР аб заснаванні выдавецтва “Мастацкая літаратура” № 58 ад 6 сакавіка 1972 г. Тут можна таксама пазнаёміцца з ілюстрацыямі да кніг, зробленымі вядомымі мастакамі: Г. Паплаўскім, С. Волкавым, М. Басалыгам, К. Шаранговічам, В. Паўлаўцом, В. Александровічам, В. Макаранкам, В. Славуком, Т. Шэлест і іншымі, убачыць новыя серыі — “Зямля мая”, “Нашы героі”, “Беларуская аўтарская казка”, “Казкі XXI стагоддзя”, яны ўжо набылі папулярнасць і сталі візіткай выдавецтва.



*Наведвальнікі знаёмяцца з экспазіцыяй выстаўкі, прысвечанай 40-годдзю “Мастацкай літаратуры”.*

На асобным стэндзе прадстаўлены копіі лістоў ад замежных выдавецтваў і ўстаноў культуры, зацікаўленых у выданні перакладаў беларускіх кніг. Матэрыялы выстаўкі знаёмяць з калектывамі, на чале якіх у свой час стаялі Мікола Ткачоў, Міхаіл Дубянецкі, Анатоль Бутэвіч, Валерый Грышановіч, Серафім Андраюк, Георгій Марчук, сёння выдавецтва ўзначальвае Уладзіслаў Мачульскі. Галоўнымі рэдактарамі працавалі Анатоль Кудравец, Аркадзь Марціновіч, Мікола Кусянкоў, Уладзімір Марук, Віктар Праўдзін, цяпер галоўны рэдактар выдавецтва — Віктар Шніп.

Падчас адкрыцця выстаўкі Віктар Шніп зазначыў:

— За чатыры дзесяцігоддзі ў нашай установе неаднаразова змяняліся дырэктары, галоўныя рэдактары, яны ўсе былі розныя, з рознымі густамі, але іх аб’ядноўвае адно — клопат пра беларускую кнігу, пра яе запатрабаванасць не толькі ў краіне, але і за мяжой. Па сутнасці, выдавецкі працэс — няспынны. Мы ўвесь час працуем над рэалізацыяй усё новых і новых праектаў. Раней “Мастацкая літаратура” выдавала паэзію, прозу, драматургію, пераклады, цяпер жа мы бяромся за прадрыхтоўку кніг, якія паказваюць не толькі багацце нашай літаратуры, але і багацце гісторыі, культуры.

Віктар Анатольевіч распавёў, што ўжо вядзецца праца па падрыхтоўцы кнігі да 150-годдзя беларускай чыгункі. Гэта выданне будзе ўключаць больш як 700 здымкаў і станецца своеасаблівай энцыклапедыяй чыгункі на Беларусі.

*Прэзентацыя*

# Прататып Гедыміна жыве ў Мінску

**Прэзентацыя новай кнігі з серыі “Жыццяпіс вялікіх князёў літоўскіх” “Гедымін. Каралеўства Літвы і Русі (1316 — 1341)” — адбылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва разам з выстаўкай кніжнага праекта Ігара Гардзіёнка “Гедымін”. Выстаўка была пазачарговай, таму заняла ўсю прастору ўздоўж лесвіцы і дзве пляцоўкі каля яе. Паспрыяць з’яўленню гэтай кнігі ў якасці сямейнага чытання павінны выдатныя тэксты Алеся Краўцэвіча ў форме нарыса і ілюстрацыі Ігара Гардзіёнка, якія на выстаўцы былі прадстаўлены і як самастойныя карціны.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Ігара Гардзіёнка**

Аўтар выдання — археолаг, гісторык-медыявіст, доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч — упэўнены: каб прыцягнуць увагу да кнігі, трэба замаўляць яе аздабленне выдатным мастакам-ілюстратарам. Таму і прапанаваў працу над біяграфіяй манарха, што ўпершыню аб’яднаў у адной дзяржаве ўсе гістарычныя землі Беларусі: Літву, Палессе, Полаччыну, Віцебшчыну, Тураўшчыну, Магілёўшчыну, Берасцейшчыну і Гарадзеншчыну, Ігару Гардзіёнку. (Над яшчэ адной кнігай А. Краўцэвіча па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага “Ад Войшалка да Віцення. Выпрабаванне на трываласць” працуе Павел Татарнікаў.)

Як паведаміў Алесь Краўцэвіч, непасрэдна над кнігай пра Гедыміна ён працаваў некалькі гадоў: “Я вывучаю гісторыю ВКЛ і паступова іду вышэй па часе. І ўжо ведаючы Міндоўга, напісаўшы кнігу пра Войшалка, працей было пісаць пра Гедыміна. Сам працэс ідзе вельмі проста: чытаюцца дакументы, пакуль не ўзнікае “эфект прысутнасці” побач з гэтым чалавекам. Гэта як пасяліўся сусед — і праз некаторы час ты бачыш, што ён за чалавек, які ў яго характар. Гэтаксама і з гістарычнымі дзеячамі. Наклад выдання — 2 тысячы экзэмпляраў. Падрыхтавана кніжка да друку беларускім “Выдавецтвам С. Татарнікавай”, а сам друк выкананы ў Польшчы”.

Стварыць партрэт Гедыміна Ігару Гардзіёнку давялося, давяраючы ўласнай інтуіцыі: “Гэты перыяд нашай гісторыі — амаль белая пляма, дакументаў няшмат. Выданне — рэканструкцыя таго часу. Па сённяшні дзень столькі матэрыялаў не было нідзе напрацавана, нават выявы Гедыміна не было дакладнай. Таму мне вельмі цікава быць першым”.



*Алесь Краўцэвіч і Ігар Гардзіёнак падчас прэзентацыі.*

На пытанне, наколькі ілюстратару ўдалося ўбачыць задумку аўтара, спадар Алесь адказаў: “Калі пісаў кнігу, не ўяўляў выразнага твару князя. Ігар Гардзіёнак прапанаваў канкрэтны твар, які сумяшчае балцкія і славянскія рысы, спісаны з аднаго чалавека ў Мінску. Я ставіў толькі адну задачу і Гардзіёнку, і Татарнікаву — мастакі павінны малявацць партрэты вялікіх князёў так, каб яны калінебудзь упрыгожылі нашы грошы”.

*У падтрымку чытання*



**Марына Драгіна, загадчык аддзела літаратурна-мастацкіх і музычных праграм галоўнай дырэкцыі міжнароднага вяшчання (радыё “Беларусь”) Беларускага радыё:**

## «З кнігамі ў мяне своеасаблівыя адносіны»

— Ёсць у мяне звычка: я ўсё чытаю з канца. І гэта ніколі не перашкаджае. Калі фінал геніяльны, пачатак варты таго, каб да яго вярнуцца.

Дасюль помню, як аднойчы забылася своечасова здаць кнігі ў школьную бібліятэку. Набрала столькі, што ледзь данесла да дома. Бабулі ў двары дапамагалі падымаць выслізнуўшыя з рук асобнікі. Запоем чытала — за месяц канікул перачытала ўсё. А потым закруцілі не менш важныя дзіцячыя справы. Толькі ў канцы лета спахапілася. Строгая бібліятэкарка (дасюль помню выраз твару гэтай дамы) адчытала мяне. “Я магу расказаць, пра што кожная кніжка і хто мастак, што над ёй працаваў, толькі не скардзіцеся, калі ласка, тату з мамай”. Яна адказала мне: “На гэтым мы з вамі развітаемся”, — так, што я зразумела гэта як “бывайце назаўсёды”. Больш у бібліятэку я не хадзіла. Затое асвоіла бібліятэкі ўсіх суседзяў. (Тата быў ваенны, шмат пераязджалі, таму вялікай бібліятэкі не мелі — вазіць няма ручна).

З кнігамі ў мяне своеасаблівыя адносіны. Сама тэкстура — вы паспрабуйце пагладзіць старонкі! — валодае чароўнай энергетыкай. Не магу чытаць кнігі на кепскай паперы. Не затрымліваюцца ў мяне і дрэнныя пераклады (чытаю на чэшскай, польскай, украінскай, таму магу параўнаць). Люблю арыгінальныя закладкі.

Ёсць у нас сямейная рэліквія — адзін з першых зборнікаў беларускіх казак у нашай краіне. Яе старонкі і сёння любіць пагартаць мой дарослы ўжо сын. Бываюць кнігі, якія не прыжываюцца. Для іх шукаю новых гаспадароў, каму яны насамрэч патрэбныя. І калі знаходжу, шчаслівая, што ўладкавала кнігу ў добрыя рукі.

# Рим и Иерусалим в душу входят

**Ещё одной интересной книгой-альбомом порадовало читателей Издательство Белорусского Экзархата. Называется она просто, но вместе с тем значимо — “Наследие Православной Беларуси”. Помните стихотворение Янки Купалы “Спадчына”? В нём разговор идет о том, что попадает под определение *“Старонка родная”*. Наследие же, представленное в названном издании, также можно подвести под это определение, ибо православные храмы, монастыри, иконы и другие особо чтимые святыни земли белорусской также являются частицей *“Старонкі роднай”*. Разве что требуется некоторое уточнение: они, прежде всего, частица Беларуси Православной. А в книге и помещены многочисленные репродукции этих святынь, предоставленные иереем Сергием Бегияном.**

Ростислав ЛЕЖНЕВ

Своего рода приглашением к знакомству с изданием звучит наставление святителя Феофана Затворника: “Здесь будете вы воодушевляться к доброделанию примерами Святых… Здесь вы слышите и даже осязаете истину Божию; храните же и свидетельствуйте сию истину всюду пред всеми”. Конечно же, это своеобразное путешествие в мир Православия предваряет и небольшое вступление С. Бегияна, в котором, в частности, говорится: “Каждый человек, приходя к Богу, ищет неких доказательств своей вере и постепенно получает их. И тогда происходит утверждение веры в его душе. […] Но Христос Спаситель пресекает наши ожидания, скороспелой, “постановочной” святости словами: “Царство Божие внутри нас”. Дело в том, что Царство Божие сокрыто в нас, как сокровище на свалке. Необходимо провести раскопки, избавиться от греховного мусора, переплавить страсти в добродетели, освободить сердце — сокровище наше, — и тогда мы, чистые сердцем, “узрим Бога”. Так стоит ли нам предпринять поиски Рима или Иерусалима? Очевидно, нет”. С. Бегиян убеждён, что именно приобщение к православным святыням, взгляд на красоту их побудит читателя поискать эту красоту в себе, найти её и развить до того состояния, когда уже не нужно “ни Рима, ни Иерусалима”.

Книга построена таким образом, что в ней представлены святыни всех епархий белорусской земли, начиная с Брестской. В соответствующем подразделе отмечается: “Прошло почти тысячелетие с тех пор, как Брестскую землю озарил свет Евангелия”. Трудным путём шло православие по этой земле. Но истинная вера укреплялась через гонения. Однако в 1990 году епархия была восстановлена. За год до этого был восстановлен в деревне Аркадия, неподалёку от областного центра, и освящён храм во имя святого




преподобномученика Афанасия, игумена Брестского, известного ещё и как писатель Афанасий Филипович. На снимках видно, что представляет собой эта обитель, в которой хранятся почитаемые святыни — частица мощей самого святого Афанасия и частица мощей преподобных старцев Оптинских. Сберегается и один из списков Ченстоховской иконы Божией Матери.

Небольшой храм, а сколько того, что пронизано самой святостью, заставляя, узрев красоту православную, найти, почувствовать её в самом себе. Что же в таком случае говорить о святынях, скажем, древнего Полоцка, где витает сам дух святой преподобной Евфросинии, защитницы земли белорусской? А как не “посетить” благодаря книге (хотя, конечно, ещё лучше поехать туда) Жировичский Свято-Успенский мужской монастырь XV века — духовный центр белорусского православия? Расположенная в 11 километрах от Слонима, эта святая обитель является местом пребывания Жировичской иконы Божьей матери. Да и сам монастырь, как известно, обязан чудесному явлению иконы Пресвятой Богородицы.

Немало в книге адресов, где “слышишь и даже осязаешь истину Божию”. Иначе и быть не может, поскольку книга эта, как точно заметил С. Бегиян, — “доказательство трудов человеческих, предпринятых во имя Бога. А на таких трудах всегда лежит отпечаток вечности, потому что объект посвящения — Господь — вечен. Красота таких произведений безупречна, так как они отображают истину, безупречность произведения — мерило его истинности”.

Отрадно и то, что с “Наследием православной Беларуси” смогут познакомиться и многие гости нашей страны. Приобретению её поспособствует то, что вступительный текст и подписи под иллюстрациями даны как на русском языке, так и в переводе А. Цариковой на английский.

# Навука пра літаратуру

**Выхад кожнага навукова-крытычнага зборніка — падзея важная і заканамерная. Па-першае, гэта дае магчымасць зафіксаваць у часе культуры актуальныя веды, па-другое, дэманструе дасягненні і імкненні сённяшняга дня. Асноўная мэта такой кнігі — быць дапаможнікам, дарадцам і люстэркам асветы.**

Ірына БАЖОК

Зборнік навукова-крытычных артыкулаў кандыдата філалагічных навук Анжэлы Мельнікавай “Літаратура і час: постаці, тэндэнцыі, плыні” (Гомель, 2011), як і ўсё напісанае аўтарытэтным даследчыкам папярэдне, створаны з гранічнай любоўю да нацыянальнай літаратуры. Манера пісьма крытыка выклікае на ўнутраную размову.

Зборнік складаецца з трох раздзелаў: “Крытычныя штуды”, “Рэцэнзіі” і “Літаратуразнаўства”. Кожная з частак арганічная, аднак ні ў якім разе не прэтэндуе на энцыклапедычную ці анталагічную паўнату і дасканаласць. Кніга А. Мельнікавай “Літаратура і час” — гэта ў першую чаргу зборнік выбранага, таго, пра што захацелася сказаць тут і цяпер. За кожным з артыкулаў адчуваецца вопыт, глыбокае асэнсаванне аўтарам праблемы ці падзеі. Складваецца ўражанне, што А. Мельнікава асабіста ведае свайго “героя”, з’яўляецца яго сябрам.

А. Мельнікава з тых крытыкаў і літаратараў, для каго мастацкі твор — рэальнасць, а мастацтва — арганічны складнік жыцця (уяўляецца, што большасць навукоўцаў у дачыненні да сябе гэты факт адмаўляе). Аўтар зборніка верыць сваім “героям”, асэнсоўвае іх творы, выкарыстоўваючы ўласны жыццёвы вопыт і веды. Таму аповед гучыць вельмі шчыра і гарманічна.

Унікальнасць метаду асэнсавання даследчыка заключаецца ў тым, што яна справядліва адкрывае беларускае ў еўрапейскім, а не наадварот (тут варта згадаць і папярэднія напрацоўкі А. Мельнікавай у гэтай галіне, а менавіта кнігу “Беларуская літаратура XX стагоддзя ў еўрапейскім кантэксце”). Перад намі ўзор смелага і добрасумленнага літаратуразнаўства.

Увогуле, крытыку А. Мельнікавай можна назваць антрапанацыяцэнтрычнай. Галоўнымі “героямі” першага раздзела зборніка “Крытычныя штуды” з’яўляюцца Жанчына і Гісторыя. Сімпатыя даследчыцы да гэтых аб’ектаў відавочная. Аднак часам здаецца, што падобная “ўлюбёнасць” перашкаджае ацаніць розныя бакі творчасці таго ці іншага пісьменніка. А. Мельнікава ўмее з разуменнем гаварыць не толькі з чытачом, з “героем”, але і з сабой, выступаючы ў ролі філосафа (“З узростам пачынаеш больш ашчадна ставіцца да часу: не прапусціць бы галоўнае, пачынаеш задаваць сабе пытанні: для чаго, навошта, што табе дае чытанне таго ці іншага твора? Ці набліжае цябе да Сапраўднага?” і інш.). У першым раздзеле даследчыца разважае над творамі М.Вайцяшонак, Я.Чыквіна, У. Караткевіча, Л.Рублеўскай, К. Тарасава, Н. Марціновіч, Я. Лайкова. Ці варта адносіць да недахопаў першага раздзела тое, што ў ім не адлюстраваны пэўныя творчыя недапрацоўкі пісьменнікаў, — пытанне спрэчнае і складанае.

Рэдкая рыса літаратурнага (ды і не толькі) характару А. Мельнікавай — уменне прызнаць іншага крытыка. Аналізуючы кнігі І. Афанасьева, І. Штэйнера, М. Тычыны і інш., аўтар захапляецца досціпам таленавітых даследчыкаў літаратуры. Варта адзначыць, што раздзел “Рэцэнзіі” мае вялікае значэнне для гісторыі літаратурнай крытыкі як галіны літаратуразнаўства. Сюды варта аднесці і артыкул “Гомельская школа ў беларускім літаратуразнаўстве” з наступнага раздзела зборніка.

Раздзел “Літаратуразнаўства” глыбока, аналітычна, спакойна, грунтоўна распавядае пра творчасць К. Чорнага. Тут жа змешчаны вельмі важны артыкул па адной з самых цікавых і складаных галін — кампаратывістыцы. А. Мельнікава гаворыць пра актуальнасць пытання ў айчынным і сусветным літаратуразнаўстве, пра ролю параўнання ў мастацтве. Вельмі карыснымі з’яўляюцца навуковыя палажэнні наконт мэты параўнальнага літаратуразнаўства, яго методыкі і метадалогіі, цікавы аналіз тыпаў літаратурных адносін і інш.

Зборнік навукова-крытычных артыкулаў А. Мельнікавай з’яўляецца цэласным, карысным і цікавым. Разнастайнасць выбраных артыкулаў гаворыць у першую чаргу пра багатую, творчую і кампетэнтную натуру аўтара, што паўстае грунтоўным тэарэтыкам, справядлівым крытыкам, сур’ёзным літаратуразнаўцам, удумлівым і ўдзячным чытачом.

## Азбука Морзэ

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА
Юзэфа ВОЎК,
Лявон ЦЕЛЕШ

● У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася кніжна-дакументальная выстаўка-прагляд “У сэрцы з Радзімай”. Падрыхтаваная разам з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, яна знаёміць з творамі пісьменнікаў і паэтаў беларускага замежжа, прапануе наведвальнікам каля 70 кніг па гісторыі стварэння беларускіх дыяспар: энцыклапедычны даведнік “Хто ёсць хто сярод беларусаў свету”, створаны ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай “Беларусы ў свеце” Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны сумесна з грамадскім аб’яднаннем “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў” пры падтрымцы Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей; навукова-папулярнае выданне “Беларускае замежжа”, выдадзенае Дэпартаментам па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь; “Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў” — зборнік успамінаў 73 прадстаўнікоў беларускай дыяспары, якія пасля 1944 года апынуліся ў Аргенціне, Аўстраліі, Бельгіі, Нямеччыне, Францыі, Чэхіі і іншых краінах свету, і іншыя выданні. Асобнае месца ў экспазіцыі займаюць рэдкія выданні з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры: матэрыялы, прысвечаныя прадстаўнікам літаратурнага аб’яднання беларусаў у Польшчы “Белавежа”, а таксама жыццю беларусаў у Латвіі. Гасцей мерапрыемства чакаюць цікавыя сустрэчы і адкрыцці.

▬ Прэзентацыя серыі “Бібліятэка рарытэтаў” выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” прайшла ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. У лютым 2012 года ў выдавецтве ўбачыў свет альбом “Жывая вера. Ветка”, ён распавядае пра ўнікальны рэгіён на тэрыторыі Беларусі, цэнтр старавераства — Ветку. У альбом уключаны раздзелы, прысвечаныя іканапісу, залачонай разьбе, шыццю, мастацтву залатароў. Праект ажыццёўлены сумесна з Урадам горада Масквы. Гэта кніга стала працягам серыі, якую адкрыла выданне “Радзивиллы. Альбом портретов XVIII — XIX веков”. Другая кніга серыі — фотаальбом факсімільных акварэльных замалёвак “Дмитрий Струков. Альбом рисунков. 1864 — 1867” — у гэтым годзе стала ўладальнікам Гран-пры IX Міжнароднага конкурсу “Мастацтва кнігі” дзяржаўудзельніц СНД.

● У Дзяржынску адбылося адкрыццё выстаўкі-кірмашу праваслаўнай кнігі “Радасць слова”. Арганізатарам гэтай дабрачыннай акцыі выступіла Рэспубліканская духоўна-асветная праграма “Сям’я — Яднанне — Айчына”, а яе каардынатарамі сталі Рэспубліканскае аб’яднанне “Бацькі і настаўнікі за адраджэнне праваслаўнага выхавання” і Выдавецтва Беларускага Экзархата. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў кірмашу прыцягнула багата аформленае факсімільнае выданне “Слуцкага Евангелля”, а таксама кнігі для дзяцей: “Евангелле для самых маленьких”, “Біблія для дзяцей”, “Малітвы аб дзецях”, мноства новых выданняў народных казак. У межах выстаўкі-кірмашу ў Дзяржынскай дзіцячай школе мастацтваў прайшоў дабрачынны канцэрт “В этом доме пребудет любовь”.

▬ Раман Вадзіма Гаўрылава “Мир потерянных иллюзий” не так даўно ўбачыў свет у выдавецтве “Белпрынт”. Гэта ўжо шосты раман аўтара, у якім ён звяртаецца да фантастыка-прыгодніцкага жанру, разглядае сувязь мінулага і сучаснасці. Кніга складаецца з двух тамоў і мае выдатнае афармленне.

# Когда ребёнок кричит “SOS!”, или Разговорник для родителей

**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО**

Книга профессора Московского государственного университета, известного учёного и талантливого педагога **Юлии Гиппенрейтер “Общаться с ребёнком. Как?”** прочно удерживает первые позиции в списке наиболее востребованных изданий. Многократно переиздавалась, дополнялась иллюстрациями — оказывается, читатели и своих детей привлекают к науке общения, а тем, как известно, больше по сердцу книжки с картинками. Дети и мы, мы и дети… Друг для друга мы немножко инопланетяне: взрослые давно забыли, как воспринимают мир их отпрыски, что их тревожит, что радует.

Отчего дитя бунтует? Психологи выделили четыре основные причины серьёзных нарушений детского поведения. Возглавляет список борьба за внимание. Логика вполне очевидна: послушному тихоне внимания уделяют куда меньше, а неслух получает замечания постоянно.

Следом идёт борьба за самоутверждение. Детское “я сам” особенно обостряется у подростков. Они прекрасно понимают, что их решения ошибочны, но продолжают стоять на своём из принципа.

Дети не ангелы. И довольно часто ими руководит желание отомстить. Отец с матерью уделяют всё своё внимание новорожденному, или постоянно ссорятся, или вовсе разошлись, мать привела отчима… “Мне плохо, пусть и вам будет плохо” — таков мотив вызывающего поведения.

Замыкает печальный список потеря веры в собственный успех. Например, у ребёнка нелады в классе, он не может построить отношения, и как следствие — запущенная учёба. Такое “смещение неблагополучия” происходит из-за низкой самооценки: “Нечего стараться, всё равно ничего не получится”.

Итак, плохое поведение ребёнка — не что иное, как сигнал о помощи. Как понять его правильно и помочь (ведь мы же взрослые люди, умудрённые жизненным опытом) — даёт ответы на страницах своей книги Юлия Борисовна.

Здесь пойдёт разговор и о том, как не отмахнуться от большой проблемы, не потерять детское доверие. Мы заняты своими делами, у нас нет времени внимательно выслушать, а если и нашли — как часто под рукой готовые ответы, которые напрочь отбивают у ребёнка охоту с нами разговаривать. Для вдумчивых родителей, которые действительно




готовы поработать над собой, чтобы не войти в жестокое противостояние с собственным чадом, написана эта книга. Что будем делать? Учиться, учиться и ещё раз учиться!

Первая часть издания так и называется — “Уроки общения с ребёнком”. В ней Юлия Борисовна расскажет о правилах, которые родители должны соблюдать. Это безусловное принятие ребёнка таким, как есть. Книга подскажет, как его слушать, и укажет на причины, мешающие нам делать это внимательно, объяснит правила разрешения конфликтов и поможет устанавливать дисциплину, а также посоветует, куда девать “кувшин” наших эмоций.

Начнём, пожалуй, с безусловного принятия: “Безусловно принимать ребёнка — значит, любить его не за то, что он красивый, умный, способный, отличник, помощник и так далее, а просто так, просто за то, что он есть!” Подводный камень любви оценочной заложен нашей культурой: ребёнку прямо сообщают, что его принимают *условно*, то есть любить будут, *“только если…”* Но воспитание — это не дрессура, а родители существуют не для того, чтобы выработать условные рефлексы. Удовлетворение потребности в любви — необходимое условие нормального развития ребёнка. Известный семейный терапевт Вирджиния Сатир утверждает: четыре объятия в день совершенно необходимы просто для выживания, а для хорошего самочувствия нужно не менее восьми!

“Ладно-ладно”, — скажете вы, — “мы все учились понемногу чему-нибудь и как-нибудь”. Есть у нас в дипломе отметки о сданном экзамене по психологии. А толку? Дайте нам реальную ситуацию, покажите, как это работает!” Для тех, кому проще воспринимать науку общения на конкретных примерах, — часть вторая — “Письма о подростке”. Это реальная история. Её герой — Федя, старший из четырёх детей в сельской семье. Двое младших — от второго брака матери. Хлопот полон рот — и хозяйство, и малыши требут заботы, а Федя словно с цепи сорвался: курит, дерётся с сестрёнкой, ночевать не приходит, учиться отказывается. Мать и отчим решили отправить его в Москву к бабушке с дедушкой — на исправление. То есть к недополученной родительской любви у Феди добавилась ещё и разлука с матерью и друзьями, а также московская школа, в которой, понятно, его не ждали с распростёртыми объятиями. Заранее предупреждаем — чуда не было. Было огромное терпение, большая любовь и умение понять. Запирался от учительницы в туалете, демонстративно лез под стол играть с машинками вместо того, чтобы делать уроки. Что смогла сделать бабушка? В конце четверти внук сдал три предмета на “отлично”, а курение свелось к половинке сигареты в день. Каким образом? Вы узнаете из её писем дочери, которые она любезно разрешила опубликовать. Наиболее яркие моменты, о которых идёт речь, в конце раздела снабжены комментариями психолога.

# По красочным страницам детства…

**Екатерина БЕДУЛИНА**




Дети любят яркие цвета, книжки-раскраски, игры, весёлые встречи с друзьями. Книги серии “Читаем сами”, представленные издательством “Харвест”, подарят радость, ребёнок будет улыбаться и смеяться вместе с героями. Выбор большой: собрание лучших рассказов и сказок о приключениях забавных весёлых медведей — **“Сказки про медведей”**, всеми любимого мультяшного героя Кеши — **“Похищение блудного попугая” Александра Курляндского**, сборник сказок **Братьев Гримм “Рапунцель”.**

### Встречи на поляне и полёт неугомонного Кеши

Наверняка каждый в детстве любил приключения. **“Сказки про медведей”** — собрание лучших детских сказок об этих животных: “Маша и медведь”, “Два жадных медвежонка”, “Три медведя” (Льва Толстого) дают вам прекрасный повод встретиться с медведями на уютной сказочной поляне.

Автор **“Похищения блудного попугая”** Александр Курляндский — популярный детский писатель, сценарист и создатель первого отечественного анимационного сериала “Ну, погоди!”. В детстве никто и не предполагал, что он станет кинематографистом, ведь мальчик рос в семье инженеров. Начал Курляндский с “Ну, погоди!”, но на его счету и такие мультфильмы, как “Великолепный Гоша”, “Возвращение блудного попугая” и “Вы не были на Таити?”. Все его персонажи — симпатичные животные, а это как нельзя лучше доказывает любовь автора к братьям нашим мень-




шим. С особой теплотой вспоминает Александр Ефимович своих питомцев — спаниеля Стёпку, кота Сюзика и киску Алиску.

Курляндского называют “человеком потрясающей




фантазии”, а мультфильм “Возвращение блудного попугая” — творением “с не стареющим юмором и иронией”, который можно пересматривать не один десяток раз. Кеша — не просто мультипликационный герой. Его характер детально прописан и изначально задуман таким образом, чтобы завоевать симпатии зрителей. Тяга к приключениям у попугая является не чем иным, как “предлогом для освобождения от контролирующего и всевидящего социума” верного, но скучного друга Вовки.

### «Ах, косы твои девичьи…»

Красочные иллюстрации Джонни Груэля приглашают в мир, созданный двумя братьями-сказочниками.

Сюжет **сказки Братьев Гримм “Рапунцель”** очень прост: одна пара жила по соседству с колдуньей. Однажды женщина увидела, что у соседки растёт рапунцель, и попросила мужа добыть ей этого лакомства. Муж решил украсть листьев для жены, но колдунья поймала его и разрешила брать у неё рапунцеля сколько угодно в обмен на обещание отдать ей первенца. Когда у жены родилась девочка, колдунья забрала её в падчерицы и назвала Рапунцель. Девушка достигла двенадцати лет и выросла очень красивой, но мачеха заперла её в башне в лесу. В ней не было дверей, только одно окно на вершине, и чтобы добираться до падчерицы, колдунья звала: “Рапунцель, Рапунцель, проснись, спусти свои косоньки вниз”. Тогда Рапунцель свешивала вниз свои длинные золотистые волосы, и колдунья взбиралась по ним. Однажды некий принц обнаружил башню, забрался к девушке и предложил ей стать его женой. Рапунцель согласилась, но её мачеха, узнав об этом, остригла ей косы и выгнала девушку из башни в чащу леса, а принца ослепила. Блуждавший по лесу принц случайно наткнулся на детей, которые помогли влюблённым встретиться. Слёзы Рапунцель вернули принцу зрение, и “жили они долго и счастливо”...

В книге собраны и другие сказки Братьев Гримм: “Смышлёная Гретель”, “Гном — не знаю кто он”, “Спящая красавица”, “Бременские музыканты”.

## Да 1150-годдзя Полацка




# Горад, прыдуманы Богам

**Калі б у Беларусі не было горада — калыскі дзяржаўнасці, гістарычнага і культурнага цэнтра; горада — загадкі, якую нам ніколі не разгадаць да канца; горада — натхнення для творцаў, то яго, безумоўна, варта было б прыдумаць. Але за нас такі горад ужо прыдумалі раней — Бог, Лёс, Кон… Гэта Полацк. Ён зачароўвае, вабіць, інтрыгуе, раскрывае таямніцы, стварае новыя містыфікацыі.**

Чэслава ПАЛУЯН

Зачараванымі Полацкам можна назваць і аўтараў кнігі “Полацк. Гонар вякоў” — кандыдата гістарычных навук, дацэнта кафедры паліталогіі і гуманітарных дысцыплін Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва Сяргея Тарасава і фотамастака Ігара Супрунёнка. Выдатны фотаальбом, выход якога прымеркаваны да 1150-годдзя з дня заснавання Полацка, пабачыў свет у выдавецтве “Беларусь” пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны. Адметна, што кніга змяшчае тэкст на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай.

Аўтар тэксту гэтага фотаальбома нарадзіўся ў Мінску, але знайсці чалавека, які ведаў бы Полацк гэтак жа добра, як Сяргей Васільевіч, складана. Падчас прэзентацыі выдання, што прайшла ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, вядомы гісторык прызнаўся:

— Мяне заўсёды цягнула распавесці пра Полацк не толькі ў навуковых артыкулах і манаграфіях, але і ў папулярнай форме. Расказаць гісторыю горада, вызначыць яго ролю і ў той жа час выказаць сваю любоў да Полацка. Бо калі апісваеш культурны слой, напластаванні глебы ў навуковым артыкуле, не заначыш: “я гэта люблю” ці “ў будынку веяла водарам стагоддзяў”. Тым не менш з Полацкам мяне звязваюць 37 гадоў жыцця. А гісторыя нашага знаёмства вось якая: яшчэ калі я вучыўся ў восьмым класе, мама прынесла мне выразку з газеты “Вечерний Минск”, дзе было напісана, што ў Інстытуце гісторыі НАН збіраюць школу юнага археолага. Гэта школа стала маім першым крокам у навуку, і ўжо ў 1975 годзе ў складзе экспедыцыі на чале з Георгіем Штыхавым, вядомым археолагам, доктарам гістарычных навук, я ўпершыню трапіў у Полацк. У канцы 1970-х гадоў працаваў там з экспедыцыяй Ленінградскага ўніверсітэта, а ў 1980-х ужо сам праводзіў раскопкі ў самым старажытным горадзе нашай краіны. З кожным годам, дзесяцігоддзем любоў да Полацка толькі павялічвалася.



*Помнік Еўфрасінні Полацкай ў Полацку. Фота з альбома “Полацк. Гонар вякоў”.*

У Полацку хутка склалася кола сяброў-аднадумцаў, якія арганізавалі літаратурны клуб і часта праводзілі там сустрэчы. “Нават цяпер, калі я прыязджаю ў Полацк, гуляю ў своеасаблівую гульню: думаю, каго з сяброў сустрэну ў бліжэйшыя паўгадзіны. І не было ні разу, каб я каго-небудзь не сустрэў, — зазначае Сяргей Васільевіч. — Аднойчы ў нашым коле сяброў з'явіўся Ігар Супрунёнак, выдатны фатограф, ён прыходзіў на раскопкі, на літаратурныя, творчыя імпрэзы і неяк прапанаваў мне зрабіць сумесны праект пра Полацк — з маім тэкстам і яго здымкамі. Я адразу пагадзіўся. Гэта ідэя доўгі час лунала ў паветры, да таго моманту, пакуль я не атрымаў прапанову ад выдавецтва «Беларусь».

У Полацку шмат фатографаў, і не дзіўна, што яны здымаюць свой родны горад усё жыццё, у розны час дня, паравіну года, рознае надвор'е. Дзякуючы фотамастаку Ігару Супрунёнку кніга “Полацк. Гонар вякоў” атрымала незвычайныя здымкі. Нават палачане спрабавалі пазнаць на іх свае родныя мясціны, і далёка не ўсё ў іх атрымалася. Тым і вылучаецца выдатны фотамастак, што ён можа пабачыць самае звыклае ў незвычайным ракурсе.

Што да адметнасцей тэксту выдання, Сяргей Васільевіч зазначыў:

— Я пісаў яго сваім сэрцам, не па храналогіі, з пазначэннем таго, што адбывалася крок за крокам, але блокамі, эпохамі, праз якія праходзіў гэты горад. Да прыкладу, эпоха Рагвалода і Рагнеды — пачатак, усталяванне горада і княства, яго ўзнясенне і падзенне. Эпоха Еўфрасінні Полацкай. З іменем гэтай жанчыны звязана не толькі манаства, гісторыя знакамітага крыжа, але і шмат гістарычных падзей. Асобна распавядаю тут пра Сафійскі сабор. Лічу, што гэта помнік, якому можна і варта прысвяціць усё жыццё. У ім, як нідзе больш, сабралася столькі нашай гісторыі, лёсу. Ён да сённяшняга дня дасканала не даследаваны і не разгаданы. Хочацца яго пабачыць такім, якім сабор быў у ХІ ст., і я спадзяюся, што з цягам часу ў нас гэта атрымаецца. Асобны раздзел кнігі прысвечаны полацкім майстрам, рамеснікам, цэхам, гандлярам, адметнасцям іх працы.

Звяртае аўтар увагу і на ліхалецці, што таксама былі ў Полацку, на яго ператварэнне ў пазаштатны гарадок Расійскай імперыі. Ёсць у кнізе і выдатныя здымкі гарадоў Полацкай акругі, зробленыя з вышыні птушынага палёту. Гэта Лепель, Браслаў, Расоны, Мёры.




**Адметнае выданне, прысвечанае самаму старажытнаму гораду Беларусі, — манаграфія “Полоцк” серыі “Древнейшие города Беларуси”, што пабачыла свет у выдавецкім доме “Беларуская навука”. Над падрыхтоўкай манаграфіі працавалі супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Прэзентацыя гэтага ва ўсіх адносінах важкага тома прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі.**

— Гісторыя Полацка не можа не выклікаць цікавасці і захаплення, і не дзіўна: па колькасці знакамітых гістарычных асоб, ураджэнцаў горада, Полацк не мае сабе роўных, — падчас прэзентацыі выдання падкрэсліў дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дарэчы, ураджэнец Полацка Вячаслаў Даніловіч, — Але, на жаль, так сталася, што да апошняга часу гісторыя самага старажытнага горада нашай краіны не мела належнага адлюстравання ў выглядзе фундаментальнай, комплекснай манаграфіі. Цяпер сітуацыя карэнным чынам змянілася. У кнізе “Полоцк” на базе навейшых дасягненняў прадстаўлена гісторыя горада ад першых насельнікаў яго тэрыторыі да XVIII ст.

Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя падчас выступлення згадаў цэлыя пакаленні даследчыкаў мінуўшчыны, якія доўгі час працавалі “ў стол”, і толькі сёння настаў час, калі мы можам пазнаёміцца з некаторымі іх адкрыццямі. Распавёў Аляксандр Аляксандравіч і пра наступныя кнігі серыі “Древнейшие города Беларуси”: “На вокладцы выдання змешчаны ключ, які, мне здаецца, адкрывае невядомыя старонкі не толькі Полаччыны, але і іншых старажытных гарадоў. Мы ўжо выдалі кнігу пра Віцебск, у працэсе падрыхтоўкі — кніга, прысвечаная Пінску. Робіцца крокі і ў кірунку выдання падобных манаграфій, прысвечаных Мінску і іншым гарадам, якія маюць багатую гісторыю”.

## Пад вокладкай

**Юзэфа ВОЎК**



**Браво, А. Имя Тени — Свет /Алена Браво. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 360 с.**

Новая кніга серыі “Библиотека журнала «Нёман»” стане сапраўдным падарункам для чытачоў. Бо яе аўтар, Алена Брава, — у ліку тых пісьменнікаў, чые кнігі чакаюць, чые творы чытаюць, чыім героям суперажываюць. І гэта не выпадкова, бо аўтару ўласціва бездакорнае пачуццё мовы і стылю, уменне трымаць увагу чытача. Таму творы Алены Брава здольныя задаволіць нават самых патрабавальных аматараў літаратуры. У выданне ўвайшлі ўжо вядомыя чытачу аповесці “Камендацкі час для ластавак”, “Дараванне”, “Рай даўно перанаселены”, а таксама іншыя творы ў аўтарскім перакладзе на рускую мову.




**Рагойша, В. П. Мой Трыглаў: Кніга пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча / В. П. Рагойша. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 340 с.**

Трыглаў — самая высокая гара ў Юлійскіх Альпах (Славенія), таму не дзіўна, што менавіта такую назву абраў для сваёй новай кнігі артыкулаў і эсэ вядомы даследчык беларускай літаратуры, доктар філалагічных навук, прафесар Вячаслаў Рагойша. Трыглаў Вячаслава Пятровіча — самыя высокія творчыя вяршыні нашай літаратуры — Янка Купала, Якуб Колас, да іх арганічна далучаецца Максім Багдановіч. Здаецца, пра гэтых пісьменнікаў нам ужо вядома ўсё, ці амаль усё. Але Вячаслаў Пятровіч адкрывае чытачу новыя старонкі іх жыцця і творчасці. Да прыкладу, у выданні ўпершыню цалкам публікуюцца лісты Якуба Коласа да рускай паэтэсы Святланы Сомавай, тут жа распавядаецца пра іх прыязныя ўзаемаадносіны. У ліку цікавых гісторый з кнігі — расповед пра творчую спрэчку Максіма Багдановіча з выдатным рускім музыказнаўцам і кампазітарам Барысам Астаф'евым.




**Гоголь, Н. В. Тарас Бульба / Н. В. Гоголь. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата, 2011. — 320 с.**

Адна з самых яркіх аповесцей Мікалая Гогаля прысвечана гераічным старонкам гісторыі запарожскага казацтва. Тут менш містыкі, менш міфалогіі, легенд, але больш — мужнасці духу. Героі “Тараса Бульбы” верныя воінскаму брацтву, адважныя, яны вераць у Бога і сапраўды любяць сваю Радзіму.




**Борисова, А. Там… / Анна Борисова. — Москва: Астрель, 2012. — 320 с.**

Расійскаму пісьменніку Барысу Акуніну мала аднаго творчага амплуа. Спачатку ён стварыў містыфікацыю Анатоля Бруснікіна, аўтара гістарычных раманаў. Першыя дзве кнігі, напісаныя пад маскай Бруснікіна, сталі бестселерамі, а правы на экранізацыю трэцяй былі набытыя, яшчэ калі раман знаходзіўся на стадыі рукапісу. Ганна Барысава — новае творчае амплуа Акуніна. Пад гэтым псеўданімам ён ужо напісаў тры раманы, для якіх уласцівы больш псіхалагізм, чым для іншых акунінскіх твораў. І вось — новая кніга. “Там…” — раман-гіпотэза пра тое, што чакае кожнага з нас на другім беразе ракі Стыкс. Героі кнігі праходзяць гэты шлях па-рознаму. Нехта — дарогай, пракладзенай хрысціянствам, ісламам ці будызмам, іншыя — больш пакручастымі маршрутамі.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**

# Ноч напярэдадні

## Навела



Сяргей Рублеўскі

Усе ночы — напярэдадні. А тыя, што перад рыбалкай, яшчэ і самыя кароткія. У рэшце рэшт, для мяне. Прадчуванне казачнай прыгоды спачатку не дае заснуць, а калі зліпнуцца вейкі, неўзабаве пачынае шарэць неба — які там сон… Нават у куточках расплюшчаных вачэй ад ночы анічога не застаецца. Але яна можа помніцца, як, напрыклад, нядаўні начлег на беразе Касплі, калі я застаўся адзін у свеце.

Задумаў гэты паход па любімай рацэ ў час работы над рукапісам кніжкі для тых, хто можа злавіць рыбу нават на голы кручок. Раптам адчуў, што без начнога надточвання рыбацкай адзіноты мой рукапіс будзе няпоўным, дык і пачаў ладзіцца да рыбалкі з начоўкай загадзя, прымервацца да яе ў думках, планаваць.

Ад вёскі Пранікі, адзінай, куды можна лёгка даехаць на легкавушцы, вырашыў узняцца як мага вышэй уверх па рацэ, на вёслах, пераначаваць у намёціку, а на світанні, спінінгуючы, спускацца ўніз да самага Суража, дзе Каспля ўпадае ў Дзвіну. Пераход на ўвесь светлавы дзень.

Так атрымлівалася ў той дзень, што ў Пранікі я змог паехаць толькі адвячоркам, дык вырашыў узнімацца ўверх па рацэ, пакуль не пачне цямнець, а тады ўжо станавіцца на начлег.

А ёсць і асаблівая рыска ў верхняй плыні Касплі, да якой мне заўсёды хочацца дайсці. Гэта Верхнія Храпуны, якія стаяць акурат на мяжы з Расіяй і помныя тым, што калісьці тут, на разліўным пашырэнні, мы з сябрам Петраком налавілі шмат мерных, пасосеньску сытых шчупакоў. Не мае аніякага значэння, што поспех амаль ніколі не паўтараецца.

Той чэрвеньскі адвячорак быў на дзіва ціхі і цёплы. Я даволі ўпэўнена прайшоў першы перакат і ў чарговы раз усцешыўся са сваіх заграбаста выгнутых вёслаў ды з лёгкай хады новай лодкі.

Яшчэ даволі высокае сонца абяцала працяглы шлях.

Другі перакат быў якраз такі, з плыткай вадой. Калі лодка зашаргацела па шурпатым гравіі, я прыпыніўся і пераабуўся, змяніў гумавікі на адмысловыя тэпці, якія зазвычай носяць у лазні ці на пляжы — вырашыў тупаць па цёплай вадзіцы ў іх. Апусціў ногі ў плынь — і адразу ўспомніў, як у дзяцінстве ў старых школьных кедах лавіў з дзедам рыбу крыгай…

Лёгка прайшоў я і гэты перакат і з задавальненнем дастаў з заплечніка сухія шкарпэткі. З усмешкай згадаў выслоўе, якое любіць паўтараць мая мама: "Усё трэба планаваць". Парадавала і чарговае пацвярджэнне таго, што я ўжо добра ведаю плынь Касплі, яе віры-ямы, перакаты і абмытыя, у тым ліку і тэкстам адной маёй кніжкі з адпаведнай назвай, валуны.

Я плыў і плыў уверх, звяртаючы ўвагу на асабліва прывабныя мясціны. Натраплю на такую — прыпынюся ды колькі разоў закіну бляшню. На жаль, ніхто не адгукаўся на мае праверадныя прынады, і я злёгку пашкадаваў: прыхапіў з сабой адмысловую рашотку з дзяржальнай для запякання на вуглях рыбы, а здабычы нямашака…

Калі пачало шарэць і плечы ахінула вечаровая свежасць, я пачаў больш уважліва аглядаць рэчышча, выбіраючы прыдатную для начлегу мясціну. Берагі Касплі не назавеш гасціннымі: узгорыстыя, аблепленыя зараснікамі хмызоўя ды высокімі, па пояс, ніткамі шчыльнай травы.

І ўсё ж мне прыглянулася колькі пляцовак — высочанькіх, але з добрым падыходам, роўных, як падстаўленыя небу далонькі. Падплыву, прымеруся, зірну на сонца: высакавата — і плыву далей. Неўзабаве я зразумеў, што такіх няспраўджаных намераў будзе яшчэ шмат — пакуль не агорне трывога, якая апусціцца на ваду, запаўзе ў рукавы загусцелым вечаровым моракам. Так і атрымалася.

Хоць і абмежаваны, але выбар месца для начлегу ўсё ж быў.

На правым беразе з-за вербалозаў вытыркаліся макаўкі сасонніку: няхай сабе і малады лясок, а ўсё ж прытулак для звяр'я, суседства з якім зусім непажаданае падчас адзіноты на дзікім начным беразе. Натуральна, я выбраў супрацьлеглы бераг, і не таму, што разлічваў пазбегнуць непрыемнага суседства і якой небяспекі. Проста густое хмызоўе падступала да самай вады, а што за ім — не было бачна. Невядомасць таксама ахоўвае, бо не дае падстаў для гульні ўяўлення.

Месца, дзе я вырашыў прыстаць, амаль нічым не адрознівалася ад іншых. Мне падалося, што бераг тут не надта ўзгорысты, узвышаецца павольна, але высветлілася, што ён такі ж, як і паўсюль — нібы пяколак: перапад вышыні прытойвала высозная трава. Найперш я і абтаптаў яе, абціснуў ступакамі і такім чынам зрабіў невялічкую пляцоўку для свайго намёта. Дзякаваць кітайцам, расхінуўся ён без праблем, хоць да гэтага ўстанаўліваў яго толькі аднойчы.

Паходнае жытло ўсцешыла мяне сваёй утульнасцю, а яшчэ тым, што ўваход на замку-маланцы меў, можна сказаць, двайныя "дзверы", як кабінет высокага начальніка: у дадатак — і густую сетку ад камар'я, якая таксама расшпільвалася.

Тым не менш я адразу запаліў касцёр, падаючы дымам знак крывасмокам: маўляў, лёгкага наедку ў вас не будзе. А потым абпырскаў сябе спецыяльным сродкам супраць пісклявых назол. Гэта было апошняе папярэджанне. Камары, на шчасце, прынялі яго да ўвагі.

Паколькі не злавіў ніводнай рыбіны, перакусіў кансервамі і пачаў аглядаць наваколле. Рачная плынь пад святлом поўні і зорак здавалася цьмяным, даўно не прапраціраным гаспадыняй люстэркам.

Раптам схамянуўся ад гучнага брохкання, потым падалося — ад шлопання шуфлем па рачной плыні і нарэшце — ад булькання вады, калі ў яе кідаюць цяжкое каменне. Прытым даносіліся гэтыя гукі зусім зблізку. Я пачаў углядацца ў цьмянае люстэрка і заўважыў, што, абуджаючы адшліфаваную цішынёй паверхню, раку пераплывае невялікі чорны "валун". І здагадаўся: ну, вядома, бабёр! Заяўляе пра свае першасныя правы на гэты ўчастак ракі і прыбярэжжа. Маўляў, я тут гаспадар, і не думай усталёўвацца надоўга, плыві прэч...

Вось так не толькі з майго боку выявілася жаданне жыць без суседзяў. Такое ахоўнае адасабленне, а ў бабра яшчэ і памкненне аб'явіць сваё ўласніцтва на прывабны касплянскі куток Божага свету. Ад нечакана выяўленага суіснавання мне стала толькі весялей на душы. Гэта ўсё ж адзінота аддаленага ад людзей, але не пазбаўленага шчодрасці і разнастайнасці свету чалавека.

Я прысеў да агню і падставіў далоні пад струмені цеплыні — па звычцы: было ж вельмі цёпла той чэрвеньскай ноччу…

Даволі доўга сядзеў і прыслухоўваўся да гукаў — бульканця вады на перакаце, нечаканага ўскрыку начной птушкі, кароценькага, але частага рыкання невядомага звера ў маладым ляску насупраць...

Я ведаў, што прыляпіўся да дзікага, нерушнага берага: наўкруг — жураўлінныя балоты, хмызоўе, а бліжэйшая і адзіная вёска — толькі Верхнія Храпуны.

"Ці далёка адсюль да яе — хто ведае. Шкада, калі недалёка. Там жа асаблівы шчупаковы разліў, нібы выдаўжанае па рачной плыні возера і камяністы сухі бераг… Заначаваць на ім было б куды спакайней, больш звыкла, больш..." — разам з гэтымі згадкамі-думкамі я незаўважна быў паглынуты начным спакоем.

Але ўжо а трэцяй гадзіне ночы, нібы заблукалая жамярына праз маленькую дзірачку, вылецеў з майго намёціка сон.

Было зарана, і я не ведаў, што рабіць. Больш дакладна, ведаў, ды не мог. Трэба было перавязаць павадок, і карцела гэта зрабіць, але я яшчэ не развеяўся начны змрок... А надтачыць на прыродзе перапынены сон немагчыма: "прадраў" вочы — і болей не заснеш. Гэта ў бацькавай хаце я магу прачнуцца і засынаць нанова колькі разоў запар, як у калысцы. А прырода не закалыхвае, не люляе, толькі прытульвае. І думаць мне ні пра што не хацелася, я проста быў.

Пакрысе ўзяўся збіраць рэчы, складваць іх у лодку, аглядаць свае прынады, прыкідваць, з якой бляшні пачаць раніашнюю лоўлю. Так я тоўкся ў сваім берагавым кутку-прытулку і не заўважаў, як пакрысе святлее наваколле. Усё пайшло сваёй чаргою. Я нарэшце абладзіў спінінг і наважыўся адплываць.

А калі адплыў, раптам скалануўся ад гучнага бухання на вадзе і зусім побач, за бухматым хмызам на берагавой водмелі. Здалося, што гэта невядомыя рыбакі пачалі лавіць рыбу ў загон — паставілі сетку і ўзнялі пярэпалах, выпужваюць шчупакоў з куп'я водарасцей. Але думка была недарэчнай: ну якія рыбакі ў такой глушы, адкуль яны сюды могуць прыплысць... Дзівакі ж не вераць, што ў свеце ёсць хто-небудзь падобны да іх.

Я вывеў лодку з чаратоў і заўважыў вялізную ласіху ў вадзе, а на беразе, непадалёк ад хмызоў, — маленькае ласянё, даўгалыгае, з поўсцю светла-карычневага колеру...

Забаяўся, што ласіха з дзіцёнкам пачнуць пераходзіць раку і мы сутыкнёмся на плыні. Дык пачаў пужаць жывёлін, узняў крык, потым нечакана для сябе зымітаваў сабачы брэх. Такім чынам інтуітыўна перайшоў на "мову", якая, верагодна, больш зразумелая ласісе. Яна пачала выходзіць з вады і клікаць да сябе дзіцёнка. І вось тут я пачуў кароткае, такое ж частае нутраное рыканне, якое ўчора на пачатку ночы даносілася да майго намёта з супрацьлеглага берага. Выходзіць, ласіху і там патрывожылі, можа, драпежнікі, і яна перабралася на гэты бераг, але ўнюхала чалавечую прысутнасць, пах кастрышча, і вырашыла вярнуцца назад — туды, дзе меншая небяспека.

Вось што значыць зайсці на чужую, не мне адведзеную прыродай дзялянку! Міжволі адчуеш сябе прыкрым лішкам, прычынай страху, турбот і клопатаў Божых істот.

І вось першы раз гэтым ранкам закідваю спінінг... А праз пару гадзін, не спакусіўшы ніводнага шчупака, разумею, што на ўдачу наўрад ці можна спадзявацца: не спрыяе надвор'е.

І вада ў Касплі не такая празрыстая, як заўсёды, і вецер раз-пораз мяняе свой кірунак, нібы з усіх бакоў акурат над галавой зганяе ў шчыльную чараду зброддзівыя абл...кі. І дождж нечакана ўсчынае свой пошчак, а тады раптоўна ацiхае, нібы ад спуду.

У гэты дзень, праплыўшы да Суража кіламетраў дваццаць, я злавіў толькі двух шчупакоў. Аднаго непадалёк ад месца начлегу, а другога — акурат каля Пранікаў, адкуль выплываў учарашнім адвячоркам. А тут яшчэ колькі разоў зачапіліваўся бляшнёй за рыбацкія сеткі, падплываў, узнімаў іх, абкарэлых тванню, гнілымі водарасцямі, з тухлай смярдзючай рыбай у ячэях... І летась так было, і пазалетась... У тых самых мясцінах. Відавочна, яны аднолькава прываблiваюць і спінінгістаў, і тых, хто ставіць сеткі. Але гэта толькі засмучае. Вось дзе шкодніцтва, дык шкодніцтва! Ловяць жа на спажыву, а тады лянуюцца ці не маюць часу праверыць свае сеткі, забываюць пра іх, пакідаюць у рацэ, як непатрэбную старызну, балазе, не плялі самі, а купілі на рынку за капейкі... Труцяць, засмечваюць раку, паводзяць сябе ў храме прыроды, як вандалы, і ў рэшце рэшт пакрысе пазбаўляюцца будучыні.

Даволі доўга плыў я з сумным настроем...

Успамінаў, як напоўніцу адорвала нас з сябрам Касапля сваімі шчадротамі, як амаль у кожны вір падторквала шчупака — падсякай борздзенька ды цягні. І жэрахаў, нібы жывыя срэбныя кавалы, раскідвала па ўгрэтых жнівеньскім сонцам водмелях, каб которы паказаў адно са значэнняў слова "знянацку".

Дык, можа, я імкнуся на Касплю па ўспаміны, якія трывалай лёскай звязаны са спадзяваннем? Можа, за згадкамі пра маладыя гады? У адну і тую ж раку нельга ўвайсці двойчы, двойчы па ёй нельга і праплысць, а шматкроць, мусіць, можна. Як сведчанне таму — паўтарэнне рыбацкай няўдачы. Гэта толькі поспех непаўторны, бо надта акрыляе…

Дык можаце цяпер уявіць, як засмуціла ў гэту маю вандроўку з начлегам на беразе немаведама чаму бузяная вада ў рацэ. Думаў, можа ў вярхоўі, на Смаленшчыне прайшлі дажджы? А што ж яшчэ? Бузяная Вымнянка, левабярэжны прыток, — значна ніжэй…

Выцягнуць шчупака з такой вады — усё адно што ржавага бочкавага селядца з расолу.

Калі спінінгую на Касплі, дык блізу Шапуроў зазвычай сустракаю Андрона з Суража. Заядлы спінінгіст, ужо немалалога веку чалавек, які падлеткам пасля вайны самаруч рабіў блёшні са снарадных гільз, як і дзясяткі гадоў таму, ловіць спінінгам са звыклай просценькай інерцыйнай шпуляй. Але як ён трапна кладзе бляшню на ваду! Стоячы на лодцы пасярэдзіне плыні, закідвае яе ў бераг так, што прынада падае акурат за паўметра ад чаратоў, ці іншых водарасцей, ці ад якога каменя... Андрон такім чынам абмацвае, абгруквае, нібы спрактыкаваны бондар дзежку, берагавую мяжу аселасці шчупакоў. Нібы і сапраўды выбівае іх, "зрывае" з месца.

Заядлы рыбак, ён вядзе ўлік сваіх уловаў. За вясну-восень у яго набіраецца без малога восем соцень шчупакоў. Але ў той дзень Андрону ні адзін не адгукнуўся, дык ён кінуў спінінг і пачаў лавіць на вуду.

— А на самым пачатку чэрвеня добра бралася, — усё адно як у апраўданне даўняй, амаль забытай і прытым не сваёй віны, — сказаў мне наўздагон Андрон. — Я амаль ад самага Панізоўя сплаўляўся. І на пяць кілаграмаў рыбіны былі... Сёлета ўжо больш як сотню шчупакоў спаймаў.

Нічога не сказаў яму ў адказ, толькі падумаў: "І чаму я цураюся больш цеснага знаёмства з гэтым удачлівым рыбаловам?"

Калі прыплыў у Сураж, дык прымірэнча адзначыў адну шчадроту, якой адарыла мяне на гэты раз улюбёная рака. Яна ўсё ж абмыла маю душу чыстай плынню. Плынню птушыных хваласпеваў, гукапісам узбярэжнага хмызоўя. І дарма, што кожная птушачка-спявачка трымаецца сваёй галіны, свайго зялёнага кутка, гэта я, плывучы ўздоўж іх чаргавання, такім чынам стварыў уражанне пульсацыі ўзлеглых з дзюбак песень.

# Што там, за маскай?

**На пачатку тыдня ў нашай сталіцы завяршыліся гастролі Свярдлоўскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра музычнай камедыі.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Аляксандра Дзмітрыева**



*Сцэна са спектакля.*

**Візіт артыстаў** з расійскага Екацярынбурга вылучыўся сярод падзей сёлетняга артсезона, вядома ж, не толькі працягласцю (тры тыдні) і прадстаўнічасцю (прыехалі 230 чалавек). Той, хто пазнаёміўся з іх творчасцю, можа шчыра сказаць: музычна-тэатральны Мінск вітаў амаль незнаёмых гасцей з далёкага Урала, а праводзіў, і праводзіў ужо зусім па-сваяцку, — добрых сяброў. Таленавітых прафесіяналаў. Натхнёных майстроў. Дваццаць адзін вечар запар яны выходзілі на сцэну свайго творчага пабраціма — Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Да таго ж, выступалі на выязных сустрэчах з гледачамі Маладзечна, Барысава, Гомеля... За час гастроляў сыгралі 23 спектаклі. А для самага апошняга, дваццаць першага вечара падрыхтавалі разам з мінскімі калегамі вялікую канцэртную праграму.

"Зайздрошчу гэтаму тэатру ў тым, што ён ніколі не быў абдзелены афіцыйнай увагай", — прызнаўся журналістам дырэктар БДАМТ А. Пятровіч і патлумачыў: "Мне расказалі, што ў часы, калі кіраўніком Свярдлоўскай вобласці быў Барыс Ельцын, ён не прапусціў ніводнай прэм'еры гэтага калектыву. І на кожнай ранішняй планёрцы звяртаўся да сваіх падначаленых з абавязковым першым пытаннем: "Ну, хто ўчора быў у тэатры?" Такім чынам ён «прывучыў» мясцовае начальства хадзіць на спектаклі, а гэта, само сабой, істотна паўплывала на статус тэатра ў грамадстве, паспрыяла яго своечасовай дзяржаўнай падтрымцы і развіццю. Радуе, што гэты калектыў, жывое ўвасабленне "Залатой маскі", знайшоў магчымасці прыехаць да нас".

**Афіша гасцей** уключала восем разнажанравых спектакляў, якія не ідуць на нашай сцэне. Гэта паспяховыя пастаноўкі, адзначаныя рознымі тэатральнымі прэміямі, у тым ліку прэстыжнай "Залатой маскай", якой работы ўральцаў ганараваліся ўжо 16 разоў. Аднак дырэктар уральскага тэатра М. Сафронаў заўважыў: "Калі ласка, не падумайце, што мы "хаваемся за маскай". Мы выбіралі ўсё лепшае з нашага рэпертуару, пра што пішуць у Расіі і што хацелася паказаць, каб у вашага гледача склалася як мага больш поўнае ўяўленне пра Свярдлоўскі тэатр".

Нават самая пераборлівая публіка пераканалася, што "за маскай" — моцны самавіты Тэатр, з жывымі класічнымі традыцыямі, арыгінальным рэпертуарам, трапнай і мудрай рэжысурай (Кірыла Стрэжнеў), выбітнымі музыкантамі, дырыжорамі (Барыс Надэльман, Віктар Олін), яркімі салістамі: сталымі, тытулаванымі, маладымі. Тэатр, які нездарма называюць лабараторыяй расійскага мюзікла (кампазітары пішуць адмыслова для яго трупы).

Кожны вечар — прыемнае адкрыццё, пра якое можна разважаць гадзінамі.

Музычныя хронікі часоў Расійскай імперыі "Кацярына Вялікая" кагосьці ўразілі шыкоўным сцэнічным увасабленнем, кагосьці — тонкай псіхалагічнай трансфармацыяй вобразу прынцэсы Фіке — Вялікай княгіні Кацярыны Аляксееўны ва ўвасабленні Марыі Вінянковай, трапнасцю ролі імператрыцы ў выкананні Ніны Шамбер, неадназначнасцю персоны Рыгора Арлова, пераканаўча сыгранага Уладзімірам Аляксеевым. А для кагосьці сапраўдным адкрыццём сталася партытура кампазітара С. Дрэзніна, які сучасную амерыканскую "мюзіклавую матрыцу" напоўніў рускім інтанацыйным зместам. Багатая меладыйная мова, прасякнутая найтанчэйшымі вакальнымі рэмінісцэнцыямі творчасці А. Варламава, А. Гурылёва, М. Глінкі, С. Рахманінава, рускага песеннага фальклору і рытуальных царкоўных спеваў, віртуозна спалучаецца з блюзавымі гармоніямі ды сінкопамі, рытмікай рока і рэпа...

Спектакль за спектаклем — і мы пераканаліся, якой кранальнай і сучаснай можа быць музычная прыпавесць пра вайну "Ахоўвай мяне, любая"; якім рамантычным атрымліваецца шпацыр па "Парку савецкага перыяду", калі гучыць жывая музыка яшчэ незабытага часу. Мы адчулі, што "гогаль–могаль" (так вызначаны жанр двухактовага мюзікла В. Пантыкіна "Мёртвыя душы") — не салодкі дзіцячы кактэйль, а магічны мікс, дзякуючы якому дасціпная містыфікацыя М. Гогаля раскрывае свой неўміручы падтэкст. Мы зразумелі, што музычную камедыю-фарс А. Фельцмана "Цётка Чарлі" не трэба параўноўваць з папулярным тэлефільмам "пра дону Розу", бо самадастатковы твор Свярдлоўскага тэатра захапляе дынамікай і віртуознай пластычнасцю мізансцэн, камедыйным майстэрствам і пачуццём эстэтычнай меры артыстаў Ігара Ладзейшчыкава, Паўла Дралава, Аляксея Шамбера, Таццяны Макравусавай, Святланы Бяражной...

**Гала-канцэрт** "Зоркі тэатра ззяюць для вас..." прайшоў не тое што з аншлагам: прастору залы "ўшчыльнялі", наколькі дазваляла інструкцыя, дадатковымі крэсламі. Сузор'е артыстаў, якіх не пералічыць. Шыкоўныя ансамблевыя сцэны з удзелам зводнага аркестра, хору, балета і салістаў двух тэатраў; супольнае выкананне вядомых песень. Інтэрнацыянальныя дуэты беларускіх і расійскіх артыстаў. Унікальныя сюрпрызы ўральскіх сяброў: куплеты лялькі Алімпіі з "Казак Гофмана" Ж. Афенбаха, дзе гераіня віртуознай Людмілы Лакайчук паўстала ў аблічы сучаснай сакратаркі; выступленне музычнай групы "Ізумруд" і эфектнае сола Ютэна Ханчына на ксілафоне; нумары "Эксцэнтрык-балета Сяргея Смірнова"; скрыпічны "двубой" Кацярыны Галавуры і Кацярыны Клімчуковай...

***Збор ад гала-канцэрта накіраваны на стварэнне помніка Уладзіміру Мулявіну на яго радзіме, у Екацярынбургу. Манумент будзе ўсталяваны на вуліцы "Уралмаша" і ўрачыста адкрыты падчас гастроляў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, запланаваных на верасень наступнага года.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння высока эрудзіраванага музыканта, харавога дырыжора, кампазітара, аранжыроўшчыка, педагога, знаўцы беларускага песеннага фальклору Канстанціна Паплаўскага. Разам з Генадзем Цітовічам ён быў стваральнікам і кіраўніком унікальнага калектыву, вядомага сёння як Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча. Музыкантамі сталі дзеці К. Паплаўскага: старэйшая дачка Крысціна з юных гадоў праслаўлялася як піяністка, сын Чэслаў, скрыпач, выступаў у "Песнярах", а народная артыстка Беларусі Ядвіга Паплаўская і сёння на эстрадзе.

Народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Аўгуст Мілаванаў прымае віншаванні з 75-годдзем. Выпускнік БДТМІ (курс Д. Арлова), ён пачынаў сваю акцёрскую кар'еру на сцэне НАДТ імя Якуба Коласа. З 1962 г. перайшоў у Купалаўскі тэатр, дзе стварыў дзясяткі разнапланавых і запамінальных вобразаў. Сярод іх — Гэлі Гэй ("Што той салдат, што гэты"), Герастрат ("Забыць Герастрата!"), Вяршыла ("Мудрамер"), Амількар ("Месье Амількар, або Чалавек, які плаціць"), Арнхольм ("Жанчына з мора"), Праспера ("Бура"), Тэўе ("Памінальная малітва"), Ромул ("Ромул Вялікі")... Акцёр нямала здымаецца ў кіно.

Квартэт драўляных духавых інструментаў "Riviera" пад кіраўніцтвам М. Расохі выступіў у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Праграма "Немец пры двары Радзівілаў" складалася з твораў кампазітара Я. Д. Голанда, які служыў у нясвіжскага князя Караля Станіслава Радзівіла і зрабіў неацэнны ўнёсак у развіццё нашай музычнай культуры. Канцэрт ладзіўся пры падтрымцы Пасольства ФРГ у Беларусі.

Творы беларускіх і польскіх кампазітараў прадставіла праграма "Гукі славянскай душы", якую падрыхтаваў Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь (мастацкі кіраўнік Н. Міхайлава) пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. Канцэрт, які адлюстраваў глыбінныя духоўныя, культурныя і гістарычныя повязі, што спрадвек існуюць між беларускім ды польскім народамі, прагучаў у мінулую нядзелю ў касцёле Заслаўя. А днямі "Гукі славянскай душы" завіталі ў сталічную канцэртную залу "Верхні горад".

Заўтра ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры — эксклюзіўная імпрэза, якая спалучае ў сабе сучасную харэаграфію і акрабатычны танец на пілоне (не блытаць з эратычным шоу на шосце!). Экзатычны для Беларусі Тэатр танца на пілоне



*Тэатр танца на пілоне.*

стварыла Вольга Рэпіна, выпускніца нашага харэаграфічнага каледжа і БДАМ (педагог В. Елізар'еў), якая працавала ў балеце музычнага тэатра. Выступленне адбудзецца пры падтрымцы Федэрацыі спорту і танца на пілоне з удзелам цыркавога шоу "Kresiva".



# Наш «Офіс» — лепшы!

Маладзёжны тэатральны форум краін СНД, Балтыі ды Грузіі адбыўся ў сталіцы Малдовы. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, які прадставіў на конкурсным паказе ў Кішынёве спектакль "Офіс" (п'еса нямецкага драматурга Інгрыд Лаузунд, рэжысура Кацярыны Аверкавай), вярнуўся дадому з перамогай. Найлепшай работай маладога рэжысёра на постсавецкай прасторы назваў гэту пастаноўку старшыня журы конкурсу, народны артыст Латвіі Адольф Шапіра падчас урачыстай цырымоніі закрыцця форуму. А ўдзельнікамі спаборніцтва былі 12 спектакляў, "дэлегаваных" на форум пасля папярэдніх нацыянальных адбораў, праведзеных у краінах-удзельніцах.

Аднаактовая сцэнічная гісторыя, разыграная таленавітымі прадстаўнікамі маладога пакалення купалаўцаў — Міхаілам Зуем, Сяргеем Рудзенем, Вольгай Скварцовай-Кавальскай, Паўлам Харланчуком ды Вікторыяй Чаўлыткай, не толькі заняла ганаровае першае месца. Беларускі спектакль атрымаў запрашэнне на Міжнародны тэатральны фестываль імя А. П. Чэхава (Масква) і Міжнародны тэатральны фестываль у Тбілісі, якія адбудуцца ў наступным годзе.

Як паведамілі нам з тэатра, яго ўдзел у кішынёўскім міжнародным форуме ажыццёўлены пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі. Купалаўцы ўдзячныя Інстытуту імя Гётэ ў Мінску за дапамогу ў пастаноўцы "Офіса" і Цэнтру беларускай драматургіі і рэжысуры за арганізацыйную падтрымку праекта. А таксама — Нацыянальнай кампаніі "Белавія", што была партнёрам тэатра ў гэтай паспяховай творчай справе.

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

# І домам стала Беларусь

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

**Дзень 3 ліпеня Генрых Вагнер адзначаў не толькі як знамянальную дату, векапомную для ўсёй краіны, але і як сваё вялікае асабістае свята. Чаму? Дакладны адказ на гэта пытанне дае біяграфія кампазітара.**



*Народны артыст Беларусі Генрых Вагнер падчас аўтарскага вечара ў сталічнай філармоніі 6 лютага 1998 года.*

Гады яго жыцця, пазначаныя лічбамі "1922 — 2000", былі напоўненыя трагічнымі ўзрушэннямі, няспынныя творчай працай, чарадою радасных падзей. Усё самае страшнае для Г. Вагнера здарылася ў юнацтве, калі ён, ураджэнец польскага горада Жырардава, студэнт-піяніст Варшаўскай кансерваторыі, мусіў пакінуць радзіму, ратуючыся ад гітлераўскага генацыду і навек развітваючыся з самымі блізкімі, ды шукаць прытулку па той бок мяжы. Быў 1939-ы, пачатак Другой сусветнай вайны... А самае радаснае адбылося ў Беларусі, якая не проста прытуліла бежанца, а замяніла яму родны дом, з цягам часу дала магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю па дзвюх спецыяльнасцях, знайсці сямейнае шчасце, займацца педагогікай, стаць прафесарам, дасягнуць творчых поспехаў, за якія Г. Вагнер быў узнагароджаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміяй БССР, званнем народнага артыста і неафіцыйным тытулам класіка беларускай музыкі XX стагоддзя.

Вядома, вайна дагнала яго і на новай радзіме, але гады расстання з ёю суправаджаліся ўжо зусім іншымі перажываннямі, верай у хуткую перамогу над фашысцкімі акупантамі ды вялікім творчым энтузіязмам. Знаходзячыся ў эвакуацыі, малады музыкант працаваў канцэртмайстрам у Душанбэ, затым прычыніўся да дзейнасці франтавога тэатра, створанага ў 1943 годзе, супрацоўнічаў з легендарнымі артыстамі Георгіем Менглетам, Ленанідам Уцёсавым, беларускай брыгадай па канцэртным абслугоўванні савецкіх байцоў. І марыў пра вяртанне ў Мінск ды працяг вучобы ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. 2 ліпеня 1944-га Г. Вагнеру споўнілася 22 гады. А наступны дзень прынёс радасную вестку пра вызваленне сталіцы Беларусі, куды ён змог вярнуцца пасля заканчэння вайны.

Працаваў Г. Вагнер амаль ва ўсіх жанрах, звяртаўся ў творчасці да шырокага кола тэм і вобразаў. Глыбокія асабістыя перажыванні натхнялі кампазітара на антываенны пафас у паэмах "Вечна жывыя" для жаночага хору без слоў і сімфанічнага аркестра, "Героям Брэста" для мецца-сапрана, чытальніка, хору і сімфанічнага аркестра на вершы Р. Барадуліна, "Чытаючы Васіля Быкава" для сімфанічнага аркестра, мецца-сапрана і дзіцячага голасу, оперы "Сцяжынаю жыцця" паводле аповесці В. Быкава "Воўчая зграя", музыцы да мастацкага фільма "Паланэз Агінскага". На аснове сваіх балетаў "Падстаўная нявеста", "Святло і цені" і "Пасля балю" ён стварыў аркестравыя сюіты; пакінуў у спадчыну харавую і разнастайную інструментальную музыку, у тым ліку канцэрты і мініяцюры; узбагаціў рэпертуар юных выканаўцаў. Шмат зрабіў у галіне прыкладной музыкі, пісаў песні, стаў аўтарам першай беларускай тэлеоперы "Ранак" (паводле паэмы А. Куляшова "Песня аб слаўным паходзе"). І здзейсніў высакародны творчы ўчынак, падрыхтаваўшы да пастаноўкі новую аркестравую рэдакцыю оперы А. Туранкова "Яснае світанне"...

На жаль, нават самыя лепшыя старонкі творчасці класікаў айчыннай музыкі XX стагоддзя амаль зніклі з сённяшняга канцэртна-тэатральнага жыцця, забываюцца самі прозвішчы яшчэ не так даўно знаных аўтараў. Бяспамяцтву супрацьстаіць калектыў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. Дзякуючы энтузіязму яго маэстра М. Фінберга творы беларускіх кампазітараў-класікаў і цэлыя манаграфічныя праграмы гучаць на музычных фестывалях у малых гарадах. Свежыя аранжыроўкі для камерных калектываў аркестра, высокі выканальніцкі ўзровень раскрываюць мастацкія вартасці забытых твораў, даюць ім новае жыццё і забяспечваюць поспех у публікі. Некалькі гадоў таму на музычным фэсце ў Мсціславе пад рубрыкай "Славутыя імёны Беларусі" прагучала прэм'ера канцэрта, які прадставіў разнажанравую спадчыну Г. Вагнера. Яго музыку пачулі заўсёднікі "Муз Нясвіжа" і фэсту ў Заслаўі: зухаваты "Аберэк", самабытнае і сакавітае "Гульбішча", вострахарактарныя, па-тэатральнаму кідкія "Маскі"... А новую праграму "Знаныя імёны: народны артыст Беларусі Генрых Вагнер", што прагучала сёлета на X свяце мастацтваў "Мірскі замак", аркестр прысвяціў 90-годдзю з дня нараджэння кампазітара.

Віталь МАСЛОЎСКІ

# Жывая старонка былога

## Да 65-годдзя першай пастаноўкі спектакля "Канстанцін Заслонаў" паводле п'есы А. Маўзона

**Гэты выпадак** прыгадаў у сваёй кнізе "Людзі і маскі" вядомы драматург, тэатральны дзеяч і крытык Яўген Рамановіч. "Ліпень 1948 года ў Маскве быў сонечны і спякотны. Ля будынка славутага Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра М. Горкага кожнага вабіла стракатая, багата арнаментаваная афіша: "Гастролі Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. А. Маўзон «Канстанцін Заслонаў»". Высокі гонар выступаць на сцэне найлепшага ў свеце тэатра выпаў на долю беларусаў. Гэта напоўніла калектыў купалаўцаў невыказнай радасцю і пачуццём асаблівай адказнасці за свае пастаноўкі.

Вечарэе. Паступова напаўняецца тэатральная зала. Сярод гледачоў — прадстаўнікі маскоўскай грамадскасці, знакамітыя людзі сталіцы, тэатральныя крытыкі. За пяць хвілін да пачатку спектакля ў кабінет адміністратара ўваходзяць некалькі гледачоў.

— Выбачайце! — пачынае адзін з іх. — Мы праездам у Маскве. Мы ўзялі білеты і былі ўпэўнены, што ідзём на спектакль Маскоўскага тэатра — МХАТа. Мы так любім гэты тэатр, што нават не глядзелі ў афішу. Нам усё роўна, які спектакль, абы МХАТа. А сёння ён не іграе. Ды мы нічога і не зразумеем па-беларуску. Вазьміце назад білеты.

Адміністратар, хітра ўсміхаючыся, адказвае ім:

— Калі ласка, касірка неадкладна возьме вашы білеты, але вы ўжо ўсё роўна спозніцеся ў іншы тэатр, а таму я вам раю паглядзець у нас адзін акт: калі вам не спадабаецца альбо вы не зразумееце нашай мовы — у першым жа антракце мы вернем вам заплачаныя за білеты грошы.

Гледачы, параіўшыся паміж сабою, пайшлі ў залу.

У антракце гледачы, якія прасілі вярнуць грошы за білеты, прыйшлі да адміністратара.

— Нам падабаецца і ўсё зразумела, — узбуджана і задаволена гавораць яны. — Мы застанёмся. Скажыце, калі ласка, хто выконвае ролю Заслонава?

— Барыс Віктаравіч Платонаў. Дык вось праграма, — гаворыць адміністратар.

— Дзякуем. Разумна і тонка іграе. Паглядзім, што будзе далей..."

Вось такі цікавы "факт біяграфіі" спектакля паводле п'есы А. Маўзона "Канстанцін Заслонаў". Яго прэм'ера адбылася на сцэне Купалаўскага тэатра на год раней, 9 мая 1947-га, на другую гадавіну Вялікай Перамогі савецкага народа над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. І сёлета — юбілейная дата ў гісторыі пастаноўкі. І яе прэм'ера ў Мінску, і паказ у Маскве не засталіся незаўважанымі. Усесаюзная газета "Правда" адзначыла гэту работу купалаўцаў як "один из лучших спектаклей о Великой Отечественной войне в репертуаре советского театра" ("Правда", 1948, 18 жніўня).

Рэжысёр спектакля Канстанцін Саннікаў і выканаўцы галоўных роляў Барыс Платонаў, Глеб Глебаў, Ірына Ждановіч былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР у 1948 годзе.

Чым так прывабіў спектакль і знаўцаў-тэатралаў, і многіх гледачоў у розных гарадах неабсяжнай савецкай краіны? Перш за ўсё тым, што ён распавядаў пра падзеі вайны, якія балюча адгукаліся ў лёсах мільёнаў людзей. Ды і да нашага часу незагойнымі ранамі смыліць успамін пра тыя горкія дні амаль у кожнай беларускай сям'і.

Яшчэ ў 1945 годзе Кандрат Крапіва, выступаючы на пленуме Саюза пісьменнікаў БССР, назваў тэму фашысцкай навалы адной з асноўных у літаратуры і адзначыў, што ў ёй раскрыцці "ёсць велізарныя цяжкасці для пісьменніка, якія заключаюцца ў тым, што ў драматычным творы гэту грандыёзную барацьбу трэба паказаць не ў агульным плане, а ў выглядзе барацьбы канкрэтных людзей, якія змясцілі ў сабе ўсю веліч гэтых падзей".

Драматургічных твораў было напісана шмат. І старэйшымі (К. Крапіва, К. Губарэвіч), і маладымі аўтарамі (А. Маўзон). Праўда, не ўсе п'есы вытрымалі выпрабаванне часам. Але лепшыя, у іх ліку і драма А. Маўзона, і сёння вартыя ўвагі чытача і гледача.

**Аркадзь Маўзон** (сапр. Арон Маўшэнзон) нарадзіўся ў 1918 годзе ў Віцебску. Вучыўся ў драматычнай студыі пры БДТ-1, працаваў потым акцёрам і асістэнтам рэжысёра ў БДТ-2, у газеце "Віцебскі рабочы", на кінастудыі "Беларусьфільм", у Міністэрстве культуры. Друкавацца пачаў з 1946 года. Як драматург паспяхова дэбютаваў у 1947 годзе драмай "Канстанцін Заслонаў", пасля чаго быў прыняты ў СП СССР. Напісаў дванаццаць п'ес, тры кінасцэнарыі. Выступаў у перыядычным друку з артыкуламі пра драматургію і тэатр.

Драма "Канстанцін Заслонаў" адразу ж атрымала вельмі высокую ацэнку сярод п'ес ваеннай тэматыкі і праз два гады пасля першай пастаноўкі выйшла асобным выданнем. Пачыналася другое жыццё твора. Цяпер чытач, узяўшы кніжку ў рукі, мог прасачыць па яе старонках цяжкія дні і ночы гераічнага супрацьстаяння беларускага народа фашысцкім захопнікам, уявіць жывыя карціны барацьбы і вобразы тых, хто стаў легендай.

П'еса А. Маўзона прыцягвае ўвагу перш за ўсё гістарычнай рэальнасцю галоўнага яе героя — Канстанціна Заслонава, інжынера, начальніка дэпо станцыі Орша ў даваенны час. Канстанцін Заслонаў быў, як вядома, адным з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі. Ужо ў кастрычніку 1941 года ён атрымаў заданне камандавання стварыць падпольныя дыверсійныя групы ў раёне горада Орша. Тры месяцы, пакуль Канстанцін Сяргеевіч працаваў начальнікам рускіх паравозных брыгад у дэпо, ён кіраваў дзейнасцю падпольна-дыверсійных груп. Менавіта легендарнасць, значнасць асобы героя і захапілі маладога драматурга. Калі п'еса ўпершыню ставілася на сцэне тэатра імя Янкі Купалы, рэжысёр Канстанцін Саннікаў гаварыў пра задачу паказаць веліч духу нашага народа, абудзіць у памяці гледача гераічную барацьбу суайчыннікаў падчас мінулай вайны. Такога ўвасаблення п'есы на сцэне вымагаў і яе жанр гераічнай драмы, у якой аўтар, зыходзячы з рэальных гістарычных падзей, намаляваў яркія вобразы, стварыў моцныя характары.

Характары дзейных асоб драмы "Канстанцін Заслонаў" выяўляюцца ва ўмовах цяжкай, самаадданай мужнай барацьбы супраць захопнікаў, антычалавечай ідэалогіі. Заданне, з якім накіроўваецца Заслонаў у акупіраваную немцамі Оршу, надзвычай небяспечнае. Ён павінен арганізаваць у дэпо і на станцыі падпольную дыверсійную работу. Заслонаў усведамляе, што чакае яго там, але трымаецца спакойна і ўпэўнена. Вось у гэтым спакоі і ўпэўненасці перш за ўсё і бачыцца моцны, валявы характар. Хаця ў п'есе паказаны толькі адзін бок дзейнасці Заслонава ў перыяд барацьбы з фашыстамі, гэтага аказалася дастаткова, каб аўтар глыбока і пераканаўча раскрыў сутнасць характару смелай натуры інжынера-падпольшчыка.

Тэма барацьбы савецкіх патрыётаў дапамагае асабліва ярка высвеціць канфлікт п'есы. Хаця драма "Канстанцін Заслонаў" вылучаецца як падзейная і сюжэт яе займальны, але на першым плане характары персанажаў, што ўплываюць на рух гэтых падзей. Няглядзячы на адкрыты канфлікт п'есы, у самім дзеянні ёсць пэўны падтэкст. Найбольш ярка ён адчуваецца ў паводзінах галоўнага персанажа. Калі Заслонаў прыходзіць наймацца на працу ў дэпо, самае важнае для яго пры ўнутранай матывацыі гэтага ўчынку, — пераканаць ворагаў, што ён ім патрэбны як спецыяліст, інжынер. Да таго ж ён добра разумее, што тыя могуць прозта адмовіцца ад яго паслуг або прапанаваць працу чорнарабочага на вугальным складзе. У такім выпадку магчымасцей для падпольнай дзейнасці ў Заслонава было б няшмат. Знешне гаспадарамі абставін выглядаюць немцы. Але Заслонаў выдатна адчувае ўсе нюансы сітуацыі, і гэта дапамагае яму стаць па сутнасці пераможцам і над абставінамі, і над праціўнікам. Таму Заслонаў сам ставіць умовы і вядзе дыялог настолькі ўмела і вынаходліва, што "абгрывае" сваіх працадаўцаў.

*ХІРТ. Думаю, пан маёр, інжынера можна ўзяць.*

*НЕЙГАУЗ. На вугальны склад чорнарабочым.*

*ЗАСЛОНАЎ. На жаль, гэта мне не падыходзіць.*

*НЕЙГАУЗ. Ставіце ўмовы?*

*ЗАСЛОНАЎ. Я прыйшоў сам. Апрача таго, даруйце, пан маёр, скажу ўсё, што думаю. Па-першае, гэта непрактычна. З вашага боку непрактычна і нелагічна. Я інжынер. Спецыяліст. Мог бы вам памагчы як след наладзіць работу ў дэпо. А вы мяне — у чорнарабочыя. Што ж, не ў Оршы, дык у Мінску, Смаленску, Брэсце мяне скарыстаюць болып рацыянальна. Даруйце, але... Да пабачэння* (ідзе да выхаду).

*ХІРТ. Пачакайце. Пан маёр пажартаваў. Прызначаю вас начальнікам рускіх паравозных брыгад. Заўтра роўна ў восем раніцы з'явіцца на работу. Усё!*

Вобраз Заслонава — найбольшая ўдача драматурга. Перад намі чалавек, надзелены жывым, глыбокім розумам і спагаднай душой, якому вельмі і вельмі цяжка пасылаць на смерць таварышаў па барацьбе. Або заставацца жывым самому, калі той, хто выканаў ягонае заданне, гіне на вачах інжынера. Вельмі выразнай атрымалася ў п'есе сцэна допыту немцамі Аксаніча, які па загадзе Заслонава падаваў сігналы савецкім самалётам, але быў выдадзены здраднікам Бураўчыкам. Уменне валодаць сабой, вялікая моц духу Заслонава не што іншае, як унутраны гераізм. А гэта даецца больш цяжка, чым адвага ў адкрытым баі.

Больш як дзесяць гадоў спектакль "Канстанцін Заслонаў" быў у рэпертуары Купалаўскага тэатра і цікавасць у гледачоў выклікаў нязменна-годную. Вельмі добра памятаю гэта я сам, бо школьнікам-падлеткам у 1950-х гадах бываў на спектаклі і з вялікім захапленнем сачыў за развіццём падзей на сцэне. Мне пашчасціла неадноўчы бачыць у гэтай пастаноўцы мой улюбёны асноўны склад выканаўцаў.

Усё далей адыходзяць ад нас падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Нястрымны бег часу аддаляе мінулае, аднак гады не сціраюць з народнай памяці яркія старонкі нашай гісторыі.

Іна СУДАРАВА

# Творчасць і танкі

**Беларускія пісьменнікі-фантасты Анатоль Драздоў і Андрэй Мураўёў добра вядомыя айчынным і расійскім аматарам фантастыкі па кнігах у жанры альтэрнатыўнай гісторыі і крыптагісторыі. Тэма нашай гутаркі — іх творчае супрацоўніцтва над праектам з рабочай назвай “По полю танки грохотали...”.**

**— Анатоль Фёдаравіч, Андрэй, распавядзіце, з чаго пачалося вашае супрацоўніцтва? Чаму вырашылі працаваць над кнігай разам? Аб’яднала тэма? Жанр?**

**Анатоль Драздоў:**

— З Андрэем мы даўно знаёмыя. Узрост у нас розны, але сябруем, маем сходныя погляды на літаратуру і гісторыю. У жніўні 2011-га я скончыў працу над раманам “Рота Его Величества” і знаходзіўся, шчыра кажучы, у творчым застоі. Андрэй заўсёды поўніцца ідэямі — ён і параіў мне напісаць кнігу пра Вялікую Айчынную вайну, пра танкістаў. Гэта прапанова мне спадабалася, але я зразумеў, што без дапамогі не спраўлюся, бо задача, што паўстала перада мною, даволі складаная. Таму я, як бы ў адказ, прапанаваў Андрэю супрацоўніцтва. Ён падумаў і пагадзіўся.

**Андрэй Мураўёў:**

— Потым выявілася, што нашыя погляды наконт таго перыяду Вялікай Айчыннай вайны супадаюць па многіх пунктах. Мы пазнаёміліся са шматлікімі ўспамінамі сведкаў тых гадоў, і гэтыя ўспаміны, на наш погляд, самі прасіліся, каб іх запісалі. Сваіх ідэй у нас таксама было мноства. Акрамя таго, цікава было выявіць, як пойдзе працэс сумеснай творчасці. Ці зможам мы аб’яднаць некалькі ідэй у адну і атрымаць добры, цікавы тэкст.

**— Чаму вы абралі тэму вайны?**

**А. Д.:**

— Гэта мая тэма. У мяне пяць раманаў, выдадзеных за апошнія два гады, і з іх тры — пра Вялікую Айчынную. Трэба адзначыць, што чытачам яны вельмі даспадобы. Адзін раман вытрымаў нават тры перавыданні.

**А. М.:**

— А мяне заўсёды палохала, бянтэжыла тэма Вялікай Айчыннай вайны. Яна ж надта адказная. Але — цікавая. Удвух яе лягчэй распрацоўваць, і я вырашыў, што разам з Анатолем усё атрымаецца як належыць.

**— Раскажыце, калі ласка, пра будучы раман. Пра назву, герояў, сюжэт. Магчыма, пра які-небудзь цікавы момант.**

**А. Д.:**

— Пакуль мы яго назвалі “По полю танки грохотали…”. Якою назва будзе на вокладцы, невядома, але, я ўпэўнены, яна зменіцца.



*Пісьменнікі-фантасты Андрэй Мураўёў, Анатоль Драздоў, Сяргей Буркатоўскі (вядучы распрацоўшчык праекта World of Tanks).*

Калі гаварыць пра сюжэт, вось каротенька: двое нашых сучаснікаў пасля смерці раптоўна абуджаюцца савецкімі танкістамі 22 чэрвеня 1941 года ў Брэсце… Кніг з падобнымі сюжэтамі ў жанры альтэрнатыўнай гісторыі цяпер даволі многа, але наш раман будзе адметны тым, што ў сваім часе гэтыя двое мужчын будуць смяротнымі ворагамі і смерць іх — вынік помсты адзін аднаму. Калі яны ўсведамляюць тое, што здарылася, дзе яны апынуліся, дык усё роўна ненавідзяць адзін аднаго. Проста зменяцца абставіны, з’явіцца іншы вораг, больш жорсткі і небяспечны. Каб выжыць, героі будуць вымушаны ваяваць. Іх унутраны канфлікт — аснова нашага сюжэта. Раман насычаны апісаннем танкавых баёў, ён дынамічны, не дае чытачу спакою, “загадвае”, каб яго прачыталі да канца. Я перадаю вам меркаванні тых, хто ўжо пазнаёміўся з рукапісам.

**— Калі не сакрэт, што яны яшчэ сказалі? Як ацанілі твор?**

— “Ух!!!” — так вось і сказалі *(аўтары смяюцца)*. Тым не меней мы вырашылі дапрацаваць тэкст. Так атрымалася, што выданне кнігі прыпынілася, і мы падумалі, што трэба скарыстаць гэты час для паглыблення вобразаў герояў, для больш яркай афарбоўкі дзеянняў.

**— Чаму ж прыпынілася выданне?**

— Калі толькі пачыналі працу над кнігай, дык не думалі, у якое выдавецтва яе даслаць. Нашы сябры, стваральнікі папулярнай камп’ютарнай гульні “Свет танкаў”, даведаліся пра нашу задумку і выказалі жаданне пазнаёміцца з рукапісам. На той момант мы мелі толькі пяць глаў. “Танкісты” азнаёміліся з імі і заявілі: “Мы гэта возьмем!” Мы ж не здагадваліся, што яны маюць планы па выданні кніг. Цяпер вось ствараецца выдавецтва, але ж гэта вельмі нялёгкая і марудная справа, таму ўсё і прыпынілася. Гэта не камерцыйны праект. Выдавецтва плануе выпускаць літаратуру пра танкі, мастацкую і дакументальную. Патрабаванні да дакладнасці тэксту самыя высокія. У нашым творы сюжэт фантастычны, але гістарычныя падзеі, дэталі — усё павінна быць аўтэнтычным. Наш рукапіс вывучалі, вобразна кажучы, з лупай.

**— А не было думкі ў іншае, менш патрабавальнае выдавецтва рукапіс накіраваць?**

— Гэта было б лёгка. Рукапіс адарвалі б з рукамі, бо наша “танкавая” тэма — вельмі папулярная. Аднак нам больш імпануе магчымасць выдання ў “Свеце танкаў”. Абяцалі высокі тыраж і адметнае мастацкае афармленне. Прапанавалі не менш як дзесяць ілюстрацый у кнігу; на такое цяпер не кожнае выдавецтва пойдзе. Таксама раману гарантуюць моцную рэкламную падтрымку.

**— У працэсе напісання, безумоўна, узнікаюць спрэчныя моманты. Як вы з гэтым спраўляецеся? А можа былі якія-небудзь вострыя пытанні адзін да аднаго?**

**А. Д.:**

— У нас гэта — першы вопыт сумеснай працы. Трэба сказаць, усё няпроста. Мы ж розныя людзі. Але паважаем адзін аднаго, таму ў спрэчках заўсёды прыходзім да згоды. Кожны самастойна працуе над якім-небудзь эпізодам ці главой, а потым мы зводзім напісанае ў адно цэлае, правім тэкст, перапісваем, калі трэба. На фінішы цяжка ўжо вызначыць, які фрагмент каму належыць. Гэта на самай справе сумесная работа.

**А. М.:**

— Раз на тыдзень-два мы сустракаліся, абмяркоўвалі планы наступных глаў. (Сюжэт цалкам узгаднілі на пачатку напісання), вырашалі, што каму лепш рабіць, на што больш увагі звярнуць. Было так, што адзін з нас вырываўся далёка наперад, пакуль я (*смяецца*) “пакутаваў” над цяжкім для сябе фрагментам. Аднак правалаў у нас не было ніколі, нават першая версія твора атрымалася даволі “ядомай”.

**— На ваш погляд, якая будучыня ў рамана? Як чытач яго сустрэне? Як вы самі яго ацэньваеце?**

**А. Д.:**

— Мой вопыт кажа: кнігу будуць чытаць. Гэта пацвярджаюць першыя водгукі. Што датычыць адзнак, тут, выбачайце, не мы іх будзем ставіць.

**А. М.:**

— Тэма танкаў сёння вельмі папулярная. Тэма трапленцаў — таксама. Мікс з усяго гэтага павінен стаць хітом. Атрымаецца так, ці не — пытанне, на якое адказ мы атрымаем у самай блізкай будучыні. Магу сказаць толькі, што цікавасць да тэксту расце. А многае — у руках выдавецтва.

**— Вы плануеце працягваць супрацоўніцтва? Магчыма, ужо абмяркоўваеце новыя праекты?**

**А. Д.:**

— Як я ўжо гаварыў, раман пра танкістаў — наш першы сумесны праект. Пра будучае гаварыць даволі рана, я лічу. Раскажу лепш пра свае ўражанні. Супрацоўніцтва мае і плюсы, і мінусы. Мінус у тым, што аўтар губляе свой стыль. Было такое: перачытваеш і бачыш — не твой гэта тэкст. З іншага ж боку, аднаму даволі цяжка стварыць такую колькасць эпізодаў, вобразаў, “закруціць” сюжэт. Правільна кажучы: адна галава — добра, а дзве — лепш. Маё меркаванне такое: плюсы пераважваюць мінусы.

**А. М.:**

— Пагаджуся. У мяне, напрыклад, слаба атрымліваюцца тыя рэчы, у якіх Анатоль Фёдаравіч — майстар. Аднак, магчыма, і я магу нешта прапанаваць майму калегу. Акрамя таго, пастаянны і крытычны погляд з боку ў працэсе творчасці дае магчымасць трымаць сюжэт у межах разумнага. Мне спадабалася працаваць разам, але ставіць гэта на паток мы пакуль не плануем. Цяпер рэдагуем наш “танкавы” твор і паціху вяртаемся да сваіх уласных праектаў. Іх шмат, і яны патрабуюць увагі.

# Класікамі не вычэрпваецца

**Аляксандр СІЛЕЦКІ, пісьменнік-фантаст**

Апошнім часам часта скардзяцца: і тыражы падаюць, і чытач кніг не купляе, маўляў, ужо зусім здзічэў народ!

На мой погляд, завышана доля розных перавыданняў нашых, на жаль, нешматлікіх класікаў. Разумеецца, класікі патрэбны, але толькі класікамі літаратура не вычэрпваецца. Узяць, напрыклад, Англію. Ужо на што, здавалася б, кансерватыўная краіна, якая паважае сваіх вялікіх, але там жорстка вытрымліваецца прапорцыя: на працягу года доля іх перавыданняў не павінна перавышаць пяць працэнтаў. Гэтага дастаткова. А поўныя зборы твораў і наогул выпускаюць два-тры разы за стагоддзе, інакш — лішак. Ну, а 95 % — гэта сучасныя пісьменнікі. У сапраўднай жывой літаратуры кожныя гадоў пятнаццаць змяняюцца пакаленні, прыходзяць новыя аўтары — са сваім бачаннем свету, са сваімі ідэямі, і толькі такая яўная колькасная перавага тых, хто друкуецца сёння, вызначае развіццё літаратуры. І, каб гэта развіццё не згасала, трэба выдаваць новыя кнігі, друкаваць агляды і рэцэнзіі, няхай нават і не заўжды хвалебныя.

На жаль, стала ўжо звычнай канстатацыя: спытайце на вуліцы ў любога прахожага, якіх двух-трох сучасных беларускіх аўтараў ён ведае, — і вы наўрад ці пачуеце выразны адказ. Дрэнны чытач цяпер пайшоў ці ўсё ж вінавата нецікавая, не патрэбная чытачу літаратура? У маленькай Нарвегіі, дзе насельніцтва ў два разы менш, чым у нас, актыўных пісьменнікаў, якія друкуюцца не радзей, чым раз у год, крыху больш як тры сотні, а рэальная колькасць кніжных навінак зашкальвае за чатыры сотні. Усе выдавецтвы, зразумела, прыватныя. Пры гэтым дзяржава не застаецца ўбаку: штогод яна гарантавана выкупляе ў выдаўцоў частку тыражу любой выдадзенай кнігі і бясплатна размяркоўвае па ўсіх бібліятэках краіны. Выгадна выдаўцам, выгадна і аўтарам — у кожнага нейкая колькасць кніг аказваецца рэалізаванай абавязкова, і аўтар не застаецца без ганарару. А тут ужо на падхваце і тэлебачанне, і розныя газеты і часопісы, якія рэгулярна і аператыўна друкуюць рэцэнзіі і літаратурныя агляды. У выніку — і аўтараў ведаюць, і кнігі чытаюць.

У нас жа сітуацыя зусім іншая. У адным толькі Саюзе пісьменнікаў Беларусі — каля шасці соцень чалавек. Тады ж колькі, па логіцы, павінна выпускацца кніг?!

Здаецца, кіраўніцтва Саюза ўсур’ёз занепакоена тым, што пара ўжо, нарэшце, “выводзіць на арбіту” і новых аўтараў (прычым неабавязкова маладых, проста — новых). А такое “абнаўленне” непазбежна звязана з пашырэннем тэматыкі, з “узаконьваннем” жанравых разнавіднасцей, раней занядбаных, паколькі новае пакаленне творцаў, хочуць таго прыхільнікі замшэлых культурных традыцый ці не, сёння арыентуецца на зусім іншыя прыярытэты, ад якіх цяпер не адмахнуцца, калі мы маем намер і далей развіваць айчынную літаратуру. І такім “пашыральнікам” літаратурнай прасторы, здольным прыцягнуць і свежыя пісьменніцкія сілы, і згубленых некалі чытачоў, якраз і зяўляецца, на мой погляд, фантастыка. Калі не трымаць яе на кароткім павадку, то ўжо хутка стане відавочным, што ніякі гэта не лёгкі жанр. Хутчэй, наадварот.

У 2009 годзе паводле рашэння Саюза пісьменнікаў Беларусі ў выдавецтве “Харвест” (недзяржаўным, адзначу) пачаўся выпуск серыі “Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы”. Колькі цікавых і даволі якасных аўтараў змаглі, нарэшце, убачыць свае творы надрукаванымі! Толькі за тры месяцы “Харвест” выдаў 12 тамоў новай серыі — больш, чым за мінулыя 20 гадоў.

Некаторыя скептыкі ўсміхнуцца: падумаеш, у той жа Расіі лік выдаваемай за год фантастыкі ідзе на многія сотні — а я запярэчу: там пра кнігавыдавецтва як даходны бізнес пачалі клапаціцца літаральна на зары перабудовы, а ў нас жа яшчэ зусім нядаўна не было амаль нічога. А чытача трэба прывучаць да добрай кнігі. Не да глянцавых вокладак, а да зместу пад гэтымі вокладкамі. Рэкламаваць добрых аўтараў, шчодра выдаваць творы і рабіць так, каб гэтыя кнігі, як і іх аўтары, увесь час былі на слыху і на віду — у перыядычным друку і на тэлеэкране. Не проста тыя, пра рэкламу якіх парупіцца выдавец, а тыя, каго павінны выяўляць талковыя і адукаваныя крытыкі (іх патрэбна таксама рыхтаваць). І я падкрэсліваю: менавіта крытыкі — не журналісты, не ўпартыя філолагі і ўжо тым больш — не калегі па пісьменніцкім цэху.

Аказваецца, інтарэс да сучаснай “роднай” літаратуры можна адрадзіць. А для гэтага, перш за ўсё, трэба выдаваць кнігі. Многа кніг. Самых розных жанраў і самага рознага ўзроўню выканання. А што да запісвання ў “класікі”, тут галоўны суддзя — час: ён усё расставіць па сваіх месцах.

# Помніць, каб жыць
## Куток Язэпа Семяжона на роднай зямлі

Таццяна АПАЦКАЯ

*О Беларусь, мая калыска,*
*Жыццё маё, прытулак мой!*
*З гарачаю любоўю нізка*
*Схіляюся перад табой.*

*У. Караткевіч*

Вядомы паэт-перакладчык, член Саюза пісьменнікаў з 1954 г., ветэран вайны, выкладчык замежных моў, грамадскі дзеяч, публіцыст і фалькларыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, уладальнік ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэна Дружбы народаў, ордэна Айчыннай вайны I ступені, дзвюх Чырвоных Зорак, польскага ордэна — наш зямляк Язэп Семяжон.

Эдуард Пякарскі — вядомы савецкі этнограф, лінгвістгеограф. З 1927 года член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР, а з 1931 г. — ганаровы акадэмік Акадэміі навук СССР, аўтар першага поўнага “Слоўніка якуцкай мовы” (1899), многіх навуковых прац па этнаграфіі, лінгвістыцы, фалькларыстыцы і геаграфіі.

У народзе здаўна вядома паданне пра тое, што ля калыскі дзіцяці збіраюцца чараўніцы і прарочаць яму лёс. Не прыходзяць яны толькі да тых, хто, як ім вядома, пасля і пальцам не варухне дзеля людзей, будзе ўсё жыццё дбаць толькі пра сябе. Добрыя чараўніцы сталі пры калысках Язэпа Ігнатавіча і Эдуарда Карлавіча. Язэп Семяжон стаў найбольш яркім прадстаўніком сучаснага мастацкага перакладу, таленавітым майстрам, дзякуючы якому многія творы сусветнай класікі загучалі на беларускай мове ўпершыню альбо атрымалі новае нараджэнне. А пра нашу вёску даведаліся далёка за межамі Беларусі.

Куток Язэпа Семяжона быў створаны ў сельскай бібліятэцы, якой загадвае Ніна Лукашонак. Для яго былі сабраныя фотаздымкі, копіі рукапісаў, кнігі, успаміны, аўтографы — усяго каля 500 адзінак. Гэта даніна памяці і ўдзячнасці славутаму земляку, які ніколі не забываў пра сваю радзіму і клапаціўся пра захаванне памяці пра Э. Пякарскага. Таму ў кутку адлюстраваныя розныя старонкі з жыцця і дзейнасці іх абодвух, а таксама звесткі з гісторыі Пятровічаў і суседніх вёсак. Аднак у найбольшай ступені гэта куток Язэпа Семяжона: сям'я, радзіма, удзел у тэатры У. Галубка, ваенныя дарогі, выкладанне замежных моў у суворараўскім вучылішчы і іншых установах, публіцыстыка, перакладчыцкая, літаратурная і грамадская дзейнасць.

Стварэнне кутка падтрымаў міністр культуры Беларусі Павел Латушка. У сваім звароце ён дзякуе тым, хто клапатліва збіраў матэрыялы пра жыццё і творчасць Я. Семяжона.

Гэтыя словы і пажаданні адрасуюцца многім. Сярод іх — Ірына Лапцёнак, аўтар кнігі “Паэт-перакладчык Язэп Семяжон. Адметнасць творчай індывідуальнасці”. Яна працавала з архівам паэта і прадаставіла вялікую

**У народзе ёсць такая прымаўка: калі не ведаеш, адкуль выйшаў, невядома, куды пойдзеш. Пятровіцкая зямля, якая сёлета святкуе 400-годдзе, слаўная сваёй гісторыяй, таленавітымі землякамі, пра якіх варта распавесці.**



*Мастак С. Федарэнка.*

колькасць фотаздымкаў, на аснове якіх створана прэзентацыя-фільм. З дапамогай прэзентацыі можна здзейсніць падарожжа ў мінулае і асвятліць усё жыццё і дзейнасць паэта-перакладчыка. Падзякі вартыя М. Івашына, дырэктар Пятровіцкай СШ; Л. Макарэвіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры; пісьменнік У. Казбярук; дырэктар ТАА “Белбудрэсурсы” С. Раманаў; землякі — В. Семяжон, Н. Процька, Л. Хусанава, Н.Кулік, а таксама — Мінскае суворараўскае ваеннае вучылішча.

Дзякуючы родным пляменніцам Валянціне Мацюк і Надзеі Касцяневіч мы даведаліся шмат цікавага з жыцця Язэпа Семяжона і атрымалі для экспазіцыі іх сямейныя фотаздымкі. Стала вядома, што Язэп Ігнатавіч цудоўна спяваў, а любімай песняй была “Ой, бярозы ды сосны”. Беларуская песня стала неад'емнай спадарожніцай паэта, як і яго землякоў. А палюбіў Я.Семяжон родную мову, родную песню яшчэ ў дзяцінстве, калі слухаў спевы матулі. Нават спрабаваў іх запісваць і збіраць. Любоў гэтую перадаў ён і сваім дзецям Пятру і Наталлі, якія з'яўляюцца захавальнікамі яго спадчыны.

І вельмі важна, каб нашы нашчадкі, нашы дзеці памяталі і зберaглі тое, што дорага было нам. Пра гэта вельмі клапаціўся Язэп Семяжон, працытуем яго ліст: “Яшчэ раз дзякуй усім вам за добрую памяць, за вашу ветлівасць і — не сумняваюся — шчырую гасціннасць, якая будзе мець месца пасля ўрачыстай часткі. Спадзяюся, што на такім хвалюючым вечары, сапраўдным пленуме сяброў маладосці, якім некалі, як апёраным птушкам — з гнязда, судзіла доля выпырхнуць за парог сваёй першай школы, пайсці ў самастойнае жыццё і паспець, як і мы, што былі першымі, пасівець і састарыцца, а таксама ўзмужнелым людзям сярэдніх год, якія прыйшлі ў сцены школы і скончылі яе пасля нас, не гаворачы ўжо аб зусім маладых юнаках, нашых наследніках, што стаяць перад жыццём і ў каторых усё іхняе шчасце і радасць у жыцці яшчэ наперадзе, — усім вам на гэтым свяце будзе па-святочнаму добра і весела. Веру, што ў кожнага з вас будзе, што ўспомніць і расказаць, падзяліцца з моладдзю жыццёвым вопытам, успомніць і ўшанаваць памяць тых, хто не змог і не прыйшоў пабыць разам з вамі на такім сходзе.

А такіх будзе многа, бо, як сказаў паэт, пра равеснікаў майго пакалення:

*Нас болей мёртвых,*
*чым жывых,*
*на свеце ацалела”.*

Вучні Пятровіцкай сярэдняй школы і вучні сярэдняй школы № 43 Мінска ўшаноўваюць памяць Язэпа Семяжона. У Пятровіцкай школе захоўваюцца кнігі з аўтографамі, падараваныя паэтам, і ліст землякам. А вучні мінскай школы ўдзельнічалі ў стварэнні летапісу в. Пятровічы і адкрыцці кутка. У іх выкананні на радзіме паэта гучалі песні на беларускай і іншых мовах. І гэта было вельмі дарэчы, бо Я. Семяжон перакладаў творы замежных аўтараў з 33 моў свету. Але калі чытаеш радкі яго перакладаў, разумееш, што гэта пра нас з вамі, пра самога паэта, які любіў бываць на радзіме, стараўся дапамагчы кожнаму.

Перакладаючы верш Рабіндраната Тагора, паэт сам, здаецца, не заўважыў, што гэтыя словы ён сказаў пра сябе:

*Не паміраць,*
*а жыць на белым свеце,*
*Сярод людзей*
*я жыць хачу ўдвайне!*
*І, можа, тут, між дрэў,*
*у вечным леце*
*Жывыя сэрцы*
*знойдуць кут і мне.*

*Жыццё ў сваёй рухомасці*
*заўсёды:*
*За стрэчай — ростань,*
*радасць — за тугой.*
*Што ж, мо і я,*
*пясняр майго народа,*
*Ступлю ў бяссмерце*
*хоць адной нагой.*

*Калі ж не суджана*
*ў вяках мне пасяліцца, —*
*Такой бяды! —*
*да скону дзён сваіх*
*З людзьмі я буду*
*песнямі дзяліцца,*
*Крывёю сэрца акрапіўшы іх.*

*Хай цешаць вас,*
*як канны ўздоўж дарог,*
*А зблекнуць з часам —*
*кіньце за парог.*

Язэп Семяжон лічыў, што дзякуючы мастацкім перакладам можна зблізіць і з'яднаць народы. Сваё жыццё ён, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, юбілеі якіх мы святкуем у гэтым годзе, прысвяціў служэнню Беларусі, вяртанню народу гістарычнай памяці. Ён пераклаў з лацінскай славутую паэму Міколы Гусоўскага “Песня пра зубра” і з польскай мовы паэму Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш”. Хочацца заначыць, што па яго перакладах з гэтымі творамі знаёмяцца сёння школьнікі.

Вобраз Я. Семяжона ўвекавечыў мастак Святаслаў Федарэнка. Ён стаў добрым сябрам усім землякам Язэпа Семяжона. Яго падарункі: партрэт Язэпа Семяжона, кніга “Песня пра зубра” з аўтографам паэта, альбом мастацкіх работ — вельмі каштоўныя і дарагія для невялікага музея і ўсіх жыхароў Пятровіцкага краю. Хочацца ўзгадаць словы У. Караткевіча:

*“На Беларусі Бог жыве,” —*
*Так кажа мой просты народ.*
*Тую праўду*
*сцвярджае раса ў траве*
*І вечны зор карагод.*

Бог жыве і ў нашых Пятровічах, якім ён дараваў у 1914 годзе таленавітага земляка. З Божай ласкі ён перажыў арышт у 1937-м, Бог паслаў яму ў Літве пад хутарам Буда людзей, якія знайшлі яго, цяжкапараненага, і ўратавалі, ды многае іншае было дадзена Богам. Нягледзячы на складаны час, пасады, якія Язэпу Ігнатавічу даводзілася займаць, у хаце заўсёды былі іконы і шанаваліся ўсе царкоўныя святы.

Бог жыве ў душах тых, хто клапоціцца пра будучае. Бо, як сказаў Караткевіч, “Варты жалю той, хто не ведае былога дня і таму не можа разабрацца ў сённяшнім і прадбачыць будучы… Хто не памятае мінулага, хто забывае мінулае — асуджаны зноў перажыць яго. Безліч разоў…” Па гэтым законе жыў і Язэп Семяжон, бо пераклаў вершы многіх вядомых замежных паэтаў, думаючы пра радзіму і сваіх землякоў: “Калі буду жыў, усё ж прыеду некалі на тыя свае школьныя сцежкі і сустрэнуся з вамі, дарагія мае землякі і юныя сябры. І гэта будзе сустрэча з маёй маладосцю.

Дык, значыць да сустрэчы! Магчыма, вясной, на чарговым выпускным вечары дзесяцікласнікаў?

Жадаю ўсім вам добрага здароўя і добрага запалу ў працы і вучобе. Шчасця вам у жыцці. Заўсёды ваш Язэп Семяжон” (з ліста Язэпа Семяжона землякам, 1977 г.).

Яго мара так і не спраўдзілася. Але пачынае здзяйсняцца іншая. Мы не забылі запаветы Язэпа Семяжона. Сабраны дакументы, вядзецца хадайніцтва перад выканаўчым камітэтам і іншымі інстанцыямі, каб былі ўстаноўленыя мемарыяльныя дошкі Эдуарду Пякарскаму і Язэпу Семяжону. Спадзяёмся, што гэта адбудзецца ў 2014 годзе, калі мы будзем адзначаць 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Язэпа Семяжона. А сёння верым, што пачатая праца па стварэнні кутка перарасце ў музей двух славутых асоб і вёска Пятровічы стане месцам, куды, як марыў наш зямляк, “змогуць часта наведвацца экскурсіі адпачываючых і турыстаў з нашай краіны, так і з-за яе межаў”.

Таму праца па зборы матэрыялаў не завершана. Будзем рады любой дапамозе, успамінам, кнігам з перакладамі і аўтографамі Язэпа Семяжона.



*Бібліятэка ў вёсцы Зарэчча, дзе размешчаны куток.*

*Слова краязнаўцы*



**Вераніка Забрамская, дырэктар Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея, распавядае пра новую экспазіцыю ўстановы:**

— Лёс музея ў Смаргоні быў няпросты, бо ў маі 1986 года Міністэрства культуры БССР прапанавала змяніць яго профіль і замест гісторыка-краязнаўчага стварыць музей-тэатр "Батлейка". Праз некаторы час пытанне пра музей зноў абмяркоўваецца, у выніку прымаецца рашэнне зрабіць у Смаргоні музей Беларускага народнага тэатра. Толькі ў 1998 годзе Смаргонскі райвыканкам прымае рашэнне перадаць будынак крамы на баланс аддзела культуры для яго рэканструкцыі пад музей. Вось з таго часу і пачынаецца плённая работа па стварэнні новай экспазіцыі Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Першы яе раздзел прысвечаны тэме "Крэва ў XIV — XVII стст." Вядома, што ў Крэўскім замку вызначыўся лёс ВКЛ. Вялікую ўвагу плануем надаць транзіту, бо па старой дарозе з Крэва на Смаргонь не раз праязджалі важныя дзяржаўныя асобы. У 1655 годзе ў Смаргоні знаходзілася стаўка маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 — 1667 гг. У снежні 1812 года Напалеон пакінуў армію ў нашых мясцінах і накіраваўся ў Парыж.

Тэма другога раздзела — "Шляхамі кірмашовымі". У зале мы паспрабуем прадставіць кірмаш, на які прыязджалі рамеснікі з розных куткоў краю. Тут размесцім шапікі, склады, прылады.

Трэці раздзел — "Святло і цемра. Стагоддзе XX". Гэта экспазіцыя змяшчае тры гістарычныя тэмы. Першая сусветная вайна і пасляваенная разруха на Смаргоншчыне, разбурэнне Смаргоні за гады Вялікай Айчыннай вайны, бежанцы. "Дзень вашай цішыні" — галоўнымі экспанатамі стануць жывапісныя работы, партрэты людзей, якія ў хуткім часе павінны былі пайсці на вайну. Пакінуў такія рарытэты таленавіты мастак Павел Южык. "У знямеласці шэрай" — апошняя тэма раздзела, якая прапаноўвае карту СССР з пазначанымі лініямі франтоў. Тут будуць і ўзнагароды, фотаздымкі, асабістыя рэчы землякоў, удзельнікаў баёў на розных франтах. Трэба згадаць акупацыйны рэжым, партызанскі і падпольны рух, вызваленне і ўшанаванне памяці загінуўшых.

Чацвёрты раздзел — "Мы ўсе ў край свой закаханы". Тут можна будзе пабачыць шмат матэрыялаў, прысвечаных гісторыі, дзеячам літаратуры і мастацтва, якія нарадзіліся на Смаргоншчыне.

*Музейны ўнікат*

# Мазыр… як музейны «востраў»

**Адной з адметнасцей Берліна з'яўляецца музейны востраў, уключаны ў спіс ЮНЕСКА. Але манаполія немцаў была парушана ў Мазыры. Канцэнтрацыя ў цэнтры горада шэрагу адпаведных устаноў, што ўваходзяць у Аб'яднаны краязнаўчы музей аддзела культуры Мазырскага райвыканкама, дазваляе казаць пра існаванне своеасаблівага музейнага "вострава" ў сталіцы паўночнага Палесся. З ім мы пазнаёмімся дзякуючы старшаму навуковаму супрацоўніку ўстановы Віталіне Сайфутдзінавай.**



*Частка Мазырскага замка.*

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара

Гісторыя музейнай справы на Мазыршчыне багатая на пераўтварэнні і рэарганізацыі. Музей, заснаваны ў 1948 годзе, першапачаткова меў абласны статус, паколькі горад пэўны час з'яўляўся цэнтрам Палескай вобласці. У 1954-м ён набыў статус гарадской краязнаўчай установы. Доўгі час размяшчаўся на вуліцы Ленінскай, але пасля будаўніцтва на гэтым месцы кінатэатра страціў свае плошчы. Таму пэўны час супрацоўнікі былі вымушаны займацца толькі захаваннем калекцый. Музейная справа ў рэгіёне атрымала новы імпульс у 1990-я гады, калі ў адрамантаваным будынку на Гары Камунараў адкрылася новая экспазіцыя краязнаўчага музея. Колькасць структурных адзінак, якія вялі даследаванні ў сваім кірунку, з часам павялічвалася, у 2000 годзе ўстанова атрымала назву Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей (цяпер Аб'яднаны краязнаўчы музей аддзела культуры Мазырскага райвыканкама).

Большасць яго частак знаходзіцца побач адна з адной, у цэнтры горада. Па-першае, гэта ўласна краязнаўчы музей. Па-другое, музей народнай культуры Мазыршчыны "Палеская веда" (адкрыўся ў 1999 годзе). Яго экспазіцыя — вынік працы навукоўцаў у этнаграфічным кірунку. Асноўная мэта экспазіцыі — паказаць сістэму ведаў чалавека пра свет, светабачанне людзей, што жылі на мазырскім Палессі.

Па-трэцяе, выставачная зала, што месціцца ў адным будынку з мазырскай кнігарняй "Светач". Тут прэзентуецца творчасць мастакоў горада і рэгіёна. Чацвёрты структурны элемент музея — музей-майстэрня мастака-кераміста Мікалая Пушкара. Наведвальнікі могуць пазнаёміцца з творчасцю майстра, а таксама ўбачыць ва ўсіх падрабязнасцях працэс стварэння керамічнага вырабу. Пятая частка Аб'яднага музея знаходзіцца ў вёсцы Раманаўка за Мазыром. Гэта музей партызанскай славы.

Думаю, галоўным музейным унікатам Аб'яднанага краязнаўчага музея можна лічыць шосты элемент агульнай структуры: дэкаратыўна аформлены гістарычны цэнтр горада "Мазырскі замак". Як вядома, амаль усе беларускія замкі, якія захаваліся, знаходзяцца на захадзе Беларусі. На Палессі яны наогул адсутнічаюць. Між тым, гісторыя Мазыра сведчыць пра існаванне там умацаванняў. Замак, які ўпершыню ўзгадваецца ў летапісе за 1519 год, вытрымаў набегі татар, мяцеж князя Міхаіла Глінскага, напады ворагаў ВКЛ. Але ў 1649-м па загадзе віленскага ваяводы Януша Радзівіла Мазырскі замак быў спалены (за ўдзел жыхароў горада ў паўстанні Хмяльніцкага) і больш не выкарыстоўваўся ў якасці абарончага збудавання.

Ідэя яго аднаўлення лунала яшчэ з другой паловы мінулага стагоддзя, але была рэалізаваная толькі на пачатку 2000-х гадоў. З-за шэрагу прычын вырашылі абмежавацца стварэннем дэкаратыўнага замка — пакуль што адзінага ў Беларусі. Урачыстае адкрыццё адбылося ў 2005 годзе і было прымеркавана да 850-годдзя горада.

Замак размешчаны на тым жа месцы, дзе калісьці знаходзіліся гістарычныя збудаванні: на гары Камунараў, што глядзіць на цэнтральную Савецкую вуліцу, плошчу Леніна і Прыпяць. Ён уключае ў сябе драўляную крапасную сцяну і тры вежы, якія называюцца "Збройная", "Паляўнічая" і "Адміністрацыйная".

Істотна, што замак выкарыстоўваецца як музейны і турыстычны аб'ект. Падчас гарадскіх свят тут абавязкова праводзяцца мерапрыемствы. Запрашаюцца рыцарскія клубы, члены якіх займаюцца гістарычнай рэканструкцыяй. Госці могуць пагуляць у шахматы вышынёй у 35 — 40 см або пастраляць з сапраўднага лука. Вялікай папулярнасцю карыстаецца музейнае мерапрыемства "Сустрэча маладых". Акрамя таго, у замку ў перыяд навагодніх свят ужо некалькі гадоў размяшчаецца рэзідэнцыя палескага Дзеда Мароза.

*Экскурс у мінулае*

# Пінск вярнуўся ў шасцідзясятыя

**Упэўнены, шэраг маладых жыхароў Пінска з цяжкасцю могуць уявіць, як выглядала іх малая радзіма ў 1960-я гады. Між тым, менавіта тады ў горадзе пачалося будаўніцтва шматкватэрных дамоў, кінатэатра "Дружба" і гасцініцы "Прыпяць", а ў кватэрах з'явілася тэлебачанне. Супрацоўнікі Музея Беларускага Палесся прапанавалі сваім наведвальнікам вандроўку ў мінулае.**



*Інтэр'еры побыту 1960-х гадоў.*

Даніла АРЦІМОВІЧ, фота аўтара

Акцыя "Эпоха 1960-х", якая праводзілася ўстановай, была прымеркавана да "Ночы музеяў". Наогул, Музей Беларускага Палесся ўзяў удзел у ёй ужо ў другі раз. Летась наведвальнікі ўбачылі выстаўку халоднай зброі XIX — пачатку XX стагоддзя, аўтарскія работы па шкле і фарфоры, а таксама вясельныя фотаздымкі XX — пачатку XXI стагоддзя. Асаблівую атмасферу святу надало выступленне тэатра ценяў Уладзіміра Пугача, лідара групы "J-Mors", і кавер-бэнда "Чыкага".

Атмасферу 1960-х пінчукі адчулі ўжо перад пачаткам мерапрыемства. На плошчы каля Езуіцкага калегіума, у яго будынку размяшчаецца музей, духавы аркестр выконваў мелодыі, сярод якіх меламаны маглі пазнаць хіты тых часоў. А вось пластычныя мініяцюры навучэнцаў Пінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, што займаюцца па спецыяльнасці "Народная творчасць", адлюстравалі сучаснае харэаграфічнае мысленне і сталі цудоўным кантрастам да мінулага.

Праграма ўключала адразу тры выстаўкі: "Пінчына спартыўная", "Пінск і пінчане" і "Падарожжа ў Пінск 60-х гадоў XX стагоддзя". Ідэю правесці першую з іх прапанаваў ветэран лёгкай атлетыкі Фёдар Яшын. Уласныя медалі, кубкі, значкі... Супрацоўнікі музея з гумарам кажуць, што дзякуючы ім можна вывучыць сусветную геаграфію. Ф. Яшын перадаў сваю калекцыю ў музей. Акрамя таго, супрацоўнікі ўстановы вырашылі прадставіць і іншыя дасягненні мясцовых спартсменаў. Напрыклад, значных поспехаў дасягнуў матабольны клуб "Аўтамабіліст", васьміннаццікратны чэмпіён Беларусі; клуб каратэ-до "Эдэльвейс" і шэраг іншых калектываў.

Дастаткова развіта ў рэгіёне і авіямадэляванне. Паводле інфармацыі супрацоўнікаў Музея Беларускага Палесся, яшчэ ў 1920-я гады, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы, мясцовыя жыхары станавіліся чэмпіёнамі Еўропы ў гэтай галіне. А ў 1952 годзе быў устаноўлены міжнародны рэкорд па даўжыні пералёту, пераўзыдзены толькі нядаўна. Тады самалёт, запушчаны на Піншчыне Яўгенам Смалко, знайшлі каля Масквы.

Дзве наступныя выстаўкі мелі розны характар: "Пінск і пінчане" прадстаўляла фотаздымкі, "Падарожжа ў Пінск 60-х гадоў XX стагоддзя" — мэблю і інтэр'еры. Але іх яднала агульная рыса: сталыя наведвальнікі змаглі перанесціся ў свет сваёй маладосці і нават удакладніць свае звесткі пра гарадскую тапаніміку. Вандроўцы па музеі, неаднаразова даводзілася чуць успаміны або дыялогі, падчас якіх высвятлялася месцазнаходжанне таго ці іншага аб'екта. Што да моладзі, дык, магчыма, іх уражанні пасля вечара аказаліся куды больш моцнымі, чым пасля заняткаў па гісторыі.

Упэўненым клічнікам у праграме мерапрыемстваў стала светлавая праграма, падрыхтаваная пінскім Тэатрам агню. Такім эфектным ходам горад вярнуўся ў наш час. Цікава, у якую эпоху патрапяць наведвальнікі музея ў наступным годзе?

# Мастацтва і артылерыя

Не так даўно ў Музеі гісторыі Магілёва з'явіўся каштоўны экспанат — арыгінальнае выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Кніга была набытая дзякуючы фінансавай падтрымцы грамадзян, а таксама спонсарскай дапамозе. І на гэтым праца па ўзбагачэнні музейных фондаў не скончылася.

Ужо ідуць перамовы пра пакупку ў прыватнага калекцыянера яшчэ адной унікальнай кнігі. Гэта французскае выданне 1651 года працы Казіміра Семяновіча "Вялікае мастацтва артылерыі". Інжынер і тэарэтык артылерыі, філасоф-гуманіст, удзельнік шматлікіх войнаў і аблогаў, ён у Амстэрдаме ў 1650 годзе выдаў кнігу "Artis Magnae Artilleriae pars prima" на лацінскай мове. Гэта праца на доўгі час стала дапаможнікам для артылерыстаў усяго свету. Французскі пераклад і выданне 1651 года былі зроблены пад наглядам аўтара. Падобных экзэмпляраў няма пакуль ні ў адной дзяржаўнай установе Беларусі.

Юзэфа ВОЎК

# Вёска, багатая на гісторыю

**Непадалёк ад Дзяржынска ў маляўнічай мясцовасці знаходзіцца вёска, вядомая з XVI стагоддзя, — Дзягільна. Людзі засялілі гэту тэрыторыю яшчэ ў бронзавым веку, пра што сведчыць археалагічны помнік — гарадзішча, якое захавалася на беразе невялікай рэчкіПератуць. Археолагі знайшлі тут помнік перыяду бронзавага веку — сякеру-клін.**

Лявон ЦЕЛЕШ

## Народны герой Казахстана

У 1550 годзе кароль Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага Жыгімонт II падараваў маёнтак Койданава і прылягаючыя да яго землі Мікалаю Радзівілу. Найбуйнейшаму ў Беларусі магнацкаму роду землі Койданаўшчыны належалі да 1831 года. З вёскай Дзягільна звязаны жыццёвы шлях вядомага пісьменніка, вандроўніка, даследчыка сённяшняга Казахстана і яго народа Адольфа Янушкевіча, які нарадзіўся ў 1803 г. у Нясвіжскім палацы. Яго бацька Міхал служыў у Радзівілаў і быў даверанай асобай Міхала Гераніма Радзівіла, які і хрысціў Адольфа. Маці Тэкля — унучка роднай сястры Тадэвуша Касцюшкі. У 1821 годзе Янушкевічы набылі маёнтак Дзягільна, і ў гэтым жа годзе іх сын Адольф паступіў у Віленскі універсітэт на літаратурнае аддзяленне.

Падчас вучобы Адольф часта наведваў сваіх родных у Дзягільне, дзе адпачываў душою і сэрцам. Скончыўшы ўніверсітэт, вандраваў па Еўропе, дзе сустракаўся з землякамі: паэтам Адамам Міцкевічам, Антонам Эдвардам Адынцом і іншымі вядомымі ў той час людзьмі. Адам Міцкевіч пазней выведзе вобраз Адольфа ў сваёй паэме "Дзяды". У час паўстання 1830 — 1831 гадоў Янушкевіч возьме ў ім чынны ўдзел, будзе адным з кіраўнікоў паўстанцаў, а ў сакавіку 1831 года, паранены, трапіць у палон. Пасля паражэння паўстання яго прыгаварылі да смяротнага пакарання, якое потым замянілі на пажыццёвую высылку ў Сібір. Толькі ў 1856 годзе ён вярнуўся зусім хворым на радзіму, дзе ў хуткім часе памёр ад сухотаў. Пахаваны на могілках, на жаль, сёння закінутых, якія мясцовыя жыхары называюць "панскімі".

У высылцы Адольф Янушкевіч вандраваў па бяскрайніх стэпах цяперашняга Казахстана, знаёміўся з побытам, традыцыямі, фальклорам мясцовых жыхароў. Ён быў першым, хто абараніў культуру казахскага народа, і верыў, што прыйдзе час, калі качэўнікі з гэтых мясцін зоймуць пачэснае месца сярод народаў свету. Дзённікі і лісты з падарожжа па Казахстане былі выдадзеныя на польскай мове ў 1861 г. у Парыжы братамі Адольфа Яўстахіем і Рамуальдам. У 1966 г. выйшаў расійскі пераклад кнігі пад назвай "Дневники и письма из путешествия по казахским степям" казахскай даследчыцы Фаіны Сцякловай, якая ў 1978 г. наведвала Дзягільна. Да 200-годдзя Адольфа Янушкевіча ў Польшчы ўбачыла свет кніга "Listy z Siberii", дапоўненая матэрыяламі Фаіны Сцякловай з расійскіх і Яна Трынкоўскага з польскіх архіваў. Даследчыца Беларушчыны Ганна Матусевіч пераклала гэта выданне з польскай мовы на беларускую. Кніга "Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў" выйшла ў 2008 г. у выдавецтве "Медисонт".

У Казахстане шануюць нашага суайчынніка як народнага героя. У сталіцы краіны, Астане, яго імя нададзена адной з вуліц. Нядаўна я завітаў у Дзягільна, на старыя могілкі, дзе пахаваныя Адольф Янушкевіч, яго маці, бацька і іншыя родзічы. Тры гады таму разам з прадстаўнікамі грамадскасці з Мінска і Дзяржынска ўпершыню наведаў гэтыя мясціны. Пра тое, што тут могілкі, нагадваў толькі вялізны крыж, устаноўлены перад імі. Узгорак густа зарос хмызняком і травою. Навесці тут нейкі парадак спрабавалі Ганна Матусевіч з дачкой Веранікай. Але ж без дапамогі мясцовых улад не абысціся. Сёння кусты вырублены, але па-ранейшаму нельга вызначыць, дзе хто пахаваны.

Наведаў я таксама і старажытны будынак, у якім жыла сям'я Янушкевічаў. Ён узвышаецца на пагорку, прыкладна за 600 метраў ад могілак. Цяпер тут гаспадарыць індывідуальны прадпрымальнік. Раней быў інтэрнат для калгаснікаў, затым доўгі час будынак пуставаў. Новаму гаспадару спатрэбілася шмат намаганняў і грошай, каб крыху падрамантаваць яго: ачысціць ад смецця, уставіць вокны, наслаць падлогу. На мой погляд, гэты будынак пачатку XIX стагоддзя належала б узяць пад ахову дзяржавы і надаць яму статус архітэктурнага помніка.

## Сталіца Койданаўскай рэспублікі

Вірлівыя падзеі пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя не прайшлі бокам ад Дзягільна. У гэты час улада ў Беларусі, у тым ліку на Койданаўшчыне, мянялася, як у вядомай кінакамедыі "Вяселле ў Малінаўцы". З лютага 1918 па ліпень 1920 года Койданаўшчына была акупіравана спачатку кайзераўскімі, а затым польскімі войскамі. У перыяд паміж гэтымі акупацыямі ўлада належала бальшавікам. Паводле загаду рэўкама большасць мясцовых жыхароў падлягала мабілізацыі ў Чырвоную Армію. Аднак многія вырашылі стаць дэзерцірамі і схавацца ў лесе. У выніку жорсткіх баёў паміж польскімі і чырвонаармейскімі часцямі палякі мусілі адступіць. Пасля спынення ваенных дзеянняў на ўсім савецка-польскім фронце была створана 10-кіламетровая "нейтральная" зона, у якую ўвайшлі Койданава, Дзягільна і іншыя населеныя пункты. На "нейтральнай" зоне ўсталявалася савецкая ўлада. Зноў выйшаў загад, што ўсе дэзерціры павінны добраахвотна з'явіцца ў рэўкам для накіравання ў вайсковыя часці. Але разрозненыя атрады дэзерціраў аб'ядналіся і разагналі Койданаўскі рэўкам. Кіраўніком паўстанцаў быў Павел Калечыц, які ў перыяд паміж нямецкай і польскай акупацыямі ўзначальваў койданаўскую міліцыю. Менавіта ён у лістападзе 1920 года аб'явіў пра стварэнне Койданаўскай незалежнай рэспублікі. База паўстанцаў знаходзілася ў вёсках Дзягільна і Касілавічы, а штаб — у Дзягільне. Праіснавала "рэспубліка" ўсяго чатыры дні і была разгромлена чырвонаармейцамі 12-га палка. Усе кіраўнікі паўстання загінулі ў няроўных баях, іншыя заўчасна скончылі сваё жыццё ў сталінскіх лагерах. Але яшчэ доўга пасля разгрому рэшткі паўстанцаў змагаліся супраць савецкай улады.

## Загад аб капітуляцыі

У пачатку ліпеня 1944 года ў размяшчэнні артылерыйскага дывізіёна савецкіх войскаў з'явіўся нямецкі парламенцёр з белым сцягам, які паведаміў, што нямецкі генерал жадае сустрэцца з савецкім генералам, каб абгаварыць умовы капітуляцыі. Для перамоў з немцамі вылучылі начальніка штаба 121-га корпуса. І вось 8 ліпеня на камандны пункт гэтага корпуса, які знаходзіўся ў Дзягільне, прыбыў часова выконваючы абавязкі камандуючага 4-й нямецкай арміяй генерал-лейтэнант В. Мюллер. Менавіта тут, у Дзягільне, нямецкі генерал падпісаў загад аб капітуляцыі, у выніку чаго савецкія салдаты ўзялі ў палон каля 20 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў.

Пасля разгрому асноўных сіл ворага засталося шмат дробных нямецкіх атрадаў, якія працягвалі аказваць супраціўленне. Аднак, бачачы безвыніковасць становішча, яны самі здаваліся ў палон, а больш упартых знішчалі. Вясковыя старажылы распавядаюць, што на подступах да Дзяржынска ішлі жорсткія баі з фашысцкімі захопнікамі і ў пачатку вайны. Недзе за 50 метраў ад будынка Янушкевічаў знаходзіцца брацкая магіла, у якой пахаваны 32 савецкія воіны, якія загінулі ў самым пачатку вайны. Жыхары Дзягільна шануюць памяць пра герояў.



*Купальскае шэсце да возера. Купалінка разам з фальклорным ансамблем БДУКіМ "Талака".*

# Кліча «Берагіня»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)

Сяброўская атмасфера і цёплыя адносіны ў калектывах не выпадковыя, бо праграма фестывалю штогод прадугледжвае і працоўныя мерапрыемствы, і тыя, дзе можна адпачыць, пагутарыць у добрай кампаніі за кубачкам гарбаты. Але не толькі атмасфера фэсту аб'ядноўвала гасцей і ўдзельнікаў "Берагіні", іх яднала больш глыбокае і моцнае пачуццё, якое для кагосьці пасля фестывалю вызначыла і жыццёвы шлях, і абумовіла прафесійныя інтарэсы, — любоў да фальклору.

У сваім артыкуле "Забыты шлях" Максім Багдановіч пісаў: "Наш сённяшні, наш заўтрашні напрамак — да забытага намі народнага беларускага шляху. Але выйшаўшы на яго, становімся мы на расстанні: мы можам жыўцом браць з народных песняў… далей мы можам вучыцца ў народа, атрымліваць навыкі яго творчых падыходаў". Што да ўдзельнікаў фэсту, тут былі прыхільнікі абодвух кірункаў развіцця фальклору, калісьці акрэсленых Багдановічам: аўтэнтычныя гурты ў сапраўдных касцюмах, вытканых і сшытых бабулямі ўдзельніц (аднаму з самых старых касцюмаў і ручнікоў, заўважаных на фэсце — 95 год!), дзіцячыя фальклорныя калектывы, пары-выканаўцы народных побытавых танцаў, якія пры выкананні народных твораў выкарыстоўвалі новыя элементы. Удзельнікі конкурсных праграм прадстаўлялі рэгіянальныя варыянты вядомых у Беларусі танцаў — "Мікіта", "Кракавяк", "Падыспань", "Полька", "Лысы", выконвалі як вядомыя народныя песні, так і новыя, не так даўно запісаныя ад этнафораў.

Былі на фестывалі і своеасаблівыя прэм'еры — упершыню са сцэны прагучала песня "Каравайная", яна была запісана ад Ганны Дудзюк у вёсцы Брылёва Кобрынскага раёна і выконвалася калектывам "Таўкачыкі" з Кобрынскай дзіцячай школы мастацтваў. Падчас свайго выступлення танцавалі яны і адметны танец — "Рыбніцкую польку". Навуковы складнік "Берагіні" адзначыў кандыдат культуралогіі, загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, старшыня Савета экспертаў фэсту Вячаслаў Калацэй:

— Фестываль ужо стаўся аб'ектам увагі навукоўцаў, даследчыкаў, этнапедагогаў, спецыялістаў па мастацкай адукацыі. 13 год працы фэсту далі свае вынікі, значныя не толькі ў маштабах Беларусі, але, магчыма, і суседніх краін. Адметна і тое, што ўдзельнікі "Берагіні", якія прэзентуюць тут каранёвае мастацтва сваёй малой радзімы, часам працягваюць адукацыю, напрыклад, на кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, становяцца спецыялістамі і потым вяртаюцца ў свае родныя мясціны, працуюць там на карысць мясцовай культуры, якую некалі прэзентавалі тут. І гэта вельмі добра, бо маладыя людзі, апантаныя каранёвай культурай свайго народа, якія першыя крокі да вывучэння традыцый зрабілі менавіта на пляцоўках "Берагіні", — надзея на тое, што гэта культура будзе існаваць.

Сапраўды, цяжка не пагадзіцца з Вячаславам Віктаравічам. Бо сёння надзея, што фальклор будзе жыць і развівацца, ускладаецца на "Берагіню" і іншыя фэсты падобнага кшталту, а значыць, на працу энтузіястаў — аматараў фальклору. Напрыклад, такіх, як Мікола Козенка, навуковы і мастацкі кіраўнік фестывалю. А Мікалай Аляксеевіч, як заўсёды, поўны энергіі і аптымізму:

— Мне часта апаненты кажуць, што ў фестывалю няма развіцця, што ён у хуткім часе памрэ, а мне падаецца, што ён будзе жыць вельмі доўга, пакуль жыве беларускі народ, яго культура, дзеці, падлеткі, моладзь. Наш фестываль — адзіны, дзе бачна разнастайнасць нацыянальных касцюмаў, разнастайнасць рэпертуараў, песень, танцаў, карагодаў і гульняў і ў абрадзе, і па-за абрадам.

Калі ёсць развіццё, ёсць надзея, што фестывальны рух не памрэ, як не памрэ разам з ім і народная культура. Што да адметнасцей сёлетняй "Берагіні", то ўпершыню ў межах фэсту кожная вобласць краіны павінна была прадставіць свае навукова-метадычныя распрацоўкі па тэме "Традыцыйная культура і дзеці" ў фармаце выстаўкі. З'явіліся і новыя намінацыі ў конкурснай праграме, а таксама новая канцэртная пляцоўка. А калі ёсць рух наперад, ёсць і надзея на развіццё, на тое, што народная культура будзе жыць, а разам з ёй будзе жыць і "Берагіня".

# З пазіцый сучаснасці — у карані старажытнасці

Клаўдзія БОСАК,
фота Алесі Ячычэнкі

**Каб падтрымаць народныя рамёствы, вярнуць іх у побыт і паўсядзённую культуру зносін, у духоўны свет жыхароў Хойнікшчыны, у 2000 годзе быў заснаваны раённы Дом рамёстваў. Штат яго супрацоўнікаў невялікі — усяго тры чалавекі. Юлія Катлярчук і Вольга Шляхценка — майстры-метадысты. Кіруе творчым трыа дырэктар Зоя Бураўцава.**

Гэтыя жанчыны — адмысловыя майстрыхі, маюць добры густ, умеюць бачыць будучы выраб з першых сцяжкоў. Такія якасці разам з цярпеннем і мэтанакіраванасцю развіваюць нялёгкую, але вельмі ганаровую справу захавання і падтрымкі рэдкіх відаў народнай творчасці. Дзеля гэтага правялі вялікую даследчую работу па вывучэнні традыцыйных відаў прыкладнога мастацтва і рамёстваў, народнага побыту Хойнікшчыны, выпрацавалі сістэмны падыход па далучэнні насельніцтва да мастацка-рамесных традыцый. Як вынік — сёння экспазіцыйны фонд Дома рамёстваў утрымлівае 540 экспанатаў. Архіў фотадакументаў з элементамі адзення і побыту жыхароў Хойніцкага раёна налічвае амаль 150 здымкаў. Нядаўна яго папоўнілі 94 фотаздымкі ручнікоў.

Практычна ніводнае культурна-масавае мерапрыемства ў раёне не абыходзіцца без удзелу майстроў Дома рамёстваў. Толькі сёлета арганізавана ўжо 17 раённых выставак, на 13 з іх праведзены майстар-класы па саломапляценні, вышыўцы, вязанні карункаў, выцінанцы. Такім чынам наведвальнікі экспазіцый бачаць, чым жыве Дом рамёстваў.

На яго базе працуе тры майстэрні: па саломапляценні і аплікацыі саломкай, ручным ткацтве габеленаў і паясоў, вышыўцы. Плануецца адкрыць яшчэ дзве — па разьбе па дрэве і лозапляценні — у сельскіх установах культуры. У бліжэйшай перспектыве — разгляд пытання пра стварэнне клуба народных майстроў у вялікіх сельскіх населеных пунктах з выкарыстаннем практыкі правядзення свят-конкурсаў майстроў па відах рамёстваў, якія датычаць той або іншай вёскі.

Далучаюць да важнай справы і школьнікаў, для іх на базе раённай дзіцячай бібліятэкі арганізаваны гурток цестапластыкі. На працягу шасці апошніх гадоў Зоя Бураўцава праводзіць заняткі па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве для работнікаў сельскіх устаноў культуры з тым, каб яны, аваладаўшы сакрэтамі майстэрства, арганізоўвалі работу аналагічных гурткоў у сваім населеным пункце. Банк даных майстроў раёна сёлета папоўніўся яшчэ на 12 прозвішчаў, цяпер іх 137.



*Вышываны ручнік упрыгожыць і гарадскую кватэру.*

У планах супрацоўнікаў Дома рамёстваў — правядзенне ў жніўні, у дзень святкавання 500-годдзя з дня заснавання горада Хойнікі, парада майстроў. Аматары народнай творчасці змогуць не толькі паказаць свае вырабы, але і прадаць іх, правесці майстар-класы.

А яшчэ мяркуюць практыкаваць персанальныя, сямейныя, перасоўныя міні-выстаўкі ў іншых раёнах Гомельшчыны, больш глыбока і поўна выяўляць і вывучаць разнастайнасць варыянтаў мясцовых форм народнай творчасці, усіх яе рэгіянальных і лакальных асаблівасцей, уносячы новае і ў самі арнаменты, і ў стылістычныя адметнасці вырабаў у цэлым.

## З глыбінкі

### «Я сэрца людзям падару»

Так называўся творчы вечар паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Надзеі Парчук, які прайшоў на яе малой радзіме, у Пінскім раёне.

У зале Дома культуры вёскі Ласіцк сабраліся мясцовыя жыхары, школьнікі, родныя і сябры паэтэсы, яе калегі.

Вершы Н. Парчук пачала пісаць у трэцім класе, але нікому пра гэта не расказвала. Калі ў шостым змясціла адзін з вершаў у школьнай газеце, аднакласнікі і сябры не паверылі, што гэта яе радкі: "Напэўна, спісала з нейкай кніжкі!" Можа, па гэтай, а можа, і па якой іншай прычыне яна на доўгі час пакінула сваё захапленне. Але пасля, калі давялося пакінуць родную вёску, зноў прыйшла паэзія — як збавенне. Першы паэтычны зборнік Надзеі Мікалаеўны "Жыццёвыя плыні" выйшаў у 2003 годзе. Праз некаторы час пабачылі свет зборнікі "Я сэрца людзям падару", "Ладарак" (гэту кніжку аўтар прысвяціла родным мясцінам).

На творчай сустрэчы з землякамі паэтэса чытала свае вершы, прэзентавала некалькі новых твораў. Вяскоўцы сустракалі іх апладысментамі. І не дзіўна — у многіх радках, прасякнутых шчырымі пачуццямі да маляўнічых родных мясцін, працавітых палешукоў, яны маглі пазнаць і сябе...

А ў падарунак землякам яна прывезла свае кнігі, якія зоймуць належнае месца ў бібліятэцы і школе. Творчасць Надзеі Парчук атрымала прызнанне чытачоў, і з кожным зборнікам кола аматараў яе паэзіі шырыцца.

**Наталля МІЛЕЎСКАЯ,**
**Пінскі раён**

# Ад «вясёлкі» да купелі

**Жыццёвыя выпрабаванні па-рознаму ўздзейнічаюць на людзей: адны вучацца цвёрда стаяць на нагах, іншыя, наадварот, "ламаюцца", нібы трэсачкі. Да першых можна аднесці бондара-самавучку з Глуска, члена Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Уладзіміра Станкевіча. Нарадзіўся ён у Глускім раёне, жыў без бацькі, вельмі рана стаў гаспадаром у хаце, бо адчуваў адказнасць і за маці, і за малодшую сястру.**

Раіса МАРЧУК,
фота аўтара

Раней амаль у кожнай вёсцы быў свой бондар, у многіх гарадах — вытворчыя арцелі. Без іх вырабаў не абыходзіліся сялянскія гаспадаркі, а на кірмашах вырабы з дрэва займалі самае пачэснае месца. Сёння майстроў, якія сваімі рукамі могуць зрабіць цэбар, кадушку, кубак, трэба яшчэ пашукаць. Але хочацца верыць, што гэта майстэрства не згіне, бо ёсць такія людзі, як Уладзімір Станкевіч.

Бондарская справа будучага знакамітага майстра пачалася чвэрць стагоддзя таму са старой, яшчэ даваеннай, дубовай бочкі, у якой выпала дно. Па просьбе маці Уладзімір вырашыў яе адрамантаваць. У часопісе "Наука и жизнь" знайшоў артыкул пра тое, як гэта робіцца. Чаму б не паспрабаваць? Дно атрымалася — прытым адразу і добрае.

— Потым захацелася вырабіць з дрэва нейкую драбязу, — распавёў Уладзімір. — І так паціху прыкіпеў да бондарства. Займаўся для душы, зімою, па вечарах, бо спачатку служыў тэхнікам-судавадзіцелем на рачным флоце, потым працаваў на заводзе і будоўлі. Прафесіяналам стаў усяго два з паловаю гады таму, калі ўладкаваўся метадыстам па бондарстве ў Заеліцкі Дом рамёстваў Глускага раёна. Вучняў у яго няшмат — усяго пяць падлеткаў ды Дзмітрый Сокал, музыкант па прафесіі. Школьнікі прыходзяць на заняткі два разы на тыдзень: паспелі зрабіць па адной кадушцы. Свае вырабы дэманстравалі ў Клімавічах падчас XI Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Залатая пчолка". А Дзмітрый тады змайстраваў дзве кадушкі. Яго дзед, дарэчы, калісьці таксама займаўся бондарствам, вось і ўнук вырашыў авалодаць сакрэтамі майстэрства.



*Уладзімір Станкевіч прадстаўляе свае ўнікальныя вырабы.*

— Мае вучні будуць добрымі гаспадарамі, — упэўнены Уладзімір. — Вось захацелі зрабіць у падарунак маці лыжкі-"вясёлкі". Гэта такая лапатка з дзіркаю для ўзбівання цеста. Як яе рабіць, знайшлі ў кнізе "Секреты бондарного ремесла". Не праходзіла б толькі ў маіх падапечных жаданне штосьці ствараць!

Уладзімір Станкевіч — бондар з вялікай літары. У Глуску пабудаваў дом, лазню, хлеў. Мабыць, няма такой рэчы, якую майстар на ўсе рукі не змог бы вырабіць з дрэва. Як сапраўдны гаспадар, добра ведае, што салёную капусту ў качанах (са свайго агарода) лепш захоўваць у асінавай бочцы, таму што для гэтай агародніны лепш за ўсё падыходзіць асіна. Капуста становіцца пругкай і застаецца светлай, не цямнее. Бярозавы сок настойвае толькі ў дубовай бочачцы.

— Калі закончыцца сок, замачу ў гэтай бочцы яблыкі з новага ўраджаю, — зазначае майстар. — Падрыхтаваў дубовыя кадушкі для гуркоў і грыбоў — іх смак адразу пазнаеш. Ліпавая кадушка — для мёду. У лазні ёсць шайка і запарнік. Мару вырабіць балею — купель для дзяцей. Да справы ўжо прыступіў, разлікі зрабіў сам.

На выраб кожнай рэчы ў майстра траціцца шмат часу. Карыстаецца Уладзімір у асноўным самаробным інструментам, які таксама рабіў па кнігах. Штосьці аддалі аднавяскоўцы. І "спявае" ў руках глускага майстра стары, з гісторыяй, інструмент, які ён зберагае як найвялікшую каштоўнасць.

# Львяня слонімскіх музыкантаў

У Слоніме, які яго жыхары з гордасцю называюць культурнай сталіцай Гродзеншчыны, шмат маладых таленавітых музыкантаў. Вось і на другім рэгіянальным фестывалі-конкурсе "Львёнок" ("Лідскі вянок") прызёрамі сталі Марыя Палонская (скрыпка, выкладчыкі Т. Бойка і В. Палонская), Марыя Семісенка (віяланчэль, выкладчык С. Снітко) і Юрый Кашапаў (домра, выкладчык Т. Дзяконская).

Марыя Палонская выхоўваецца ў творчай сям'і: яе маці, бабуля, цётка і брат — музыканты. І галоўная сямейная рэліквія — старадаўняя скрыпка. Не дзіўна, што Маша хоча працягнуць дынастыю. Марыя Семісенка не адступае перад цяжкасцямі. Педагогі школы мастацтваў прапаноўвалі ёй абраць больш просты музычны інструмент, але яна не пагадзілася — бо ўжо ў пяць гадоў, калі прыходзіла слухаць, як гучаць розныя інструменты, закахалася ў віяланчэль. Гэтак жа, пачуўшы гукі домры, абраў інструмент і Юрый. Хлопчык, дарэчы, сам папрасіў у бацькоў запісаць яго ў школу мастацтваў. І з таго часу, як ён кажа, жаданне займацца музыкай зусім не паменшала. Ён упэўнены, што, каб перамагаць, трэба шмат працаваць. Ёсць у Юры і яго выкладчыцы задума падрыхтаваць у наступным годзе сольны канцэрт юнага музыканта. Ён пакуль не вырашыў, кім стане ў будучым, але дакладна ведае, што музыка ў яго жыцці будзе заўсёды.

**ВОЛЬГА КУР'ЯН,**
**г. Слонім**

## Афарызм

*Нічога няма даражэй за Радзіму,*
*За тую зямлю, дзе хадзіць навучыўся,*
*За неба, якое з калыскі пабачыў.*

**Пятрусь БРОЎКА**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага
рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2836
Умоўна друк.
арк. 5,58
Нумар падпісаны
ў друк
28.06.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 2752

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686